# Зьмест

## Дачка Сталіна выбрала яе голас

У восем гадоў Галіна зайздросьціла толькі дзьвюм дзяўчатам у сьвеце: дачцэ Сталіна Сьвятлане і аднаклясьніцы, маці якой працавала прыбіральніцай у менскім НКВД. Галіна была пэўная, што вось у іх ніколі мамы не адбяруць.

Калі праз тры дзесяцігодзьдзі дачка Сталіна перадала свае ўспаміны для чытаньня на Радыё Свабода, ёй далі паслухаць пробныя запісы дзьвюх радыйных супрацоўніц: першы быў зроблены дачкой расейскага сьпевака Фёдара Шаляпіна Тацянай, другі — дачкой ворагаў савецкага народу Галінай Ганчарэнкай.

Яе бацька-вайсковец быў расстраляны ў 1937-м, маці праз год адпраўлена ў канцлягер зь безнадзейнай назвай «Сухабязводнае», ад дзіцячага дому НКВД уратавала любімая цёця Барбара, забраўшы з Бабруйску ў Менск. Там яна паспрабавала скончыць жыцьцё самагубствам — у сакавіку лягла на зямлю і доўга ляжала, а потым цудам выжыла пасьля страшэннага запаленьня лёгкіх.

Астатнія выжываньні таксама былі цудамі і зьліваліся ў адну лінію лёсу: падчас першай бамбёжкі Менску нямецкая бомба вырые вялізную варонку за дзесяць крокаў ад ямы ў гародзе, дзе яны хаваліся зь цёцяй, потым іх драўляны дом ацалее ў пажары, яны не сканаюць ад голаду ў першую ваенную зіму, іх не заб’юць ні немцы, ні партызаны, ні разьюшаны сусед-крымінальнік, чыя сякера назаўсёды пакіне засечку на дзьвярох у іхным пакойчыку, а калі эвакуацыйны цягнік падарвецца на міне, іх вагон застанецца на рэйках, у райху яна згубіць і знойдзе цёцю, перажыве

агонію гітлераўскага рэжыму ў Бэрліне і абхітрыць савецкіх загоншчыкаў у ГУЛАГ, што шнарылі па лягерах для перамешчаных асобаў, пераплыве Атлянтыку і пачне новае жыцьцё ў Амэрыцы.

І ўсюды будзе працаваць і вучыцца па дваццаць гадзінаў у суткі, а таксама сьпяваць, танчыць, сьмяяцца, нягледзячы ні на што, пакуль ня вернецца ў Эўропу, каб працаваць на Радыё Свабода ад пачатку заснаваньня Беларускай службы ў 1954-м аж да краху савецкай імпэрыі, які яна назаве галоўным вынікам сваёй працы.

І дачка самага крывавага тырана ў гісторыі чалавецтва ня знойдзе лепшага голасу, які б данёс яе словы да мільёнаў слухачоў за жалезнай заслонай, чым голас беларускай дзяўчыны з Бабруйску.

У гэтай кнізе — яе XX стагодзьдзе.

Словы цуду.

Голас Галіны.

*Аляксандар Лукашук,*
*Радыё Свабода*

# I. «Спасибо товарищу Сталину...»

*Мой радавод. Дзедава хата ў Бабруйску. Як бацька хацеў адсудзіць мяне ў мамы. Як мяне пазбавілі нянькі. Бедная габрэйская каза. Суседка-камуністка ўсяляецца ў наш пакой. Хрышчэньне ў Маскве й таямніца талерак. Канец алімэнтаў. Маме сватаюць новага жаніха.*

У трыццаць сёмым мне было сем гадоў. Пасьля таго як пасадзілі маму, я фактычна засталася сіратой. Так мы былі пакараныя двойчы: мой тата-вайсковец нас перад гэтым даўно кінуў. Мяне чакаў сірочы дом, калі б ня цёця, добры анёл усяго майго далейшага лёсу. Я вельмі цешылася, што цётачка, Барбара Вержбаловіч, будзе няньчыць і маіх дзяцей, аднак было наканавана інакш.

Сваім двум сынам я неахвотна расказвала пра сваё жыцьцё. Яны пачалі хадзіць у Міжнародную школу ў Нямеччыне, дзе выраслі ў асяродзьдзі шчасьлівых і бесклапотных дзяцей.

Мне не хацелася, каб яны ведалі, якая гаротная была іхняя маці, і не хацелася, каб яны мяне шкадавалі. Думала, няхай падрастуць, можа тады раскажу.

У нас у Мюнхэне часта бывалі госьці. За сталом часам успаміналі былыя гады, і тады ўсплывалі некаторыя фрагмэнты з майго дзяцінства. Кожны раз, як разыходзіліся госьці, старэйшы сын казаў: «Мама, ты мусіш пра ўсё гэта напісаць!». А я ўсё аднеквалася: «Ах, сынок, гэта было так даўно. Каго гэта цяпер цікавіць?».

У сакавіку 2008-га году я прыехала ў Прагу на сьвяткаваньне 90-х угодкаў абвяшчэньня БНР. Пасьля афіцыйнай часткі невялікая кампанія сабралася ў хаце Данчыка. Сярод гасьцей былі й іншыя супрацоўнікі беларускай рэдакцыі Радыё Свабода, якія мяне зусім ня ведалі. Слова за слова, і я заўспамінала пра дзяцінства ў Бабруйску й Менску, пра цёцю-сьпявачку... Раптам яны ў адзін голас сказалі: «Спадарыня Галіна, вы мусіце пра ўсё гэта напісаць!».

Па дарозе дадому ў Мюнхэн я задумалася: а можа, і сапраўды варта гэта зрабіць? Не мастацкі твор, не! На такое я ня здольная, бо зусім ня маю фантазіі. Можа, нешта падобнае да рэпартажу, да хронікі майго жыцьця. Тым больш што амаль усе падзеі таго далёкага часу засталіся ў маёй памяці як на фільмовай стужцы. Ну, а калі храналёгія, то трэба, хіба, пачынаць спачатку.

Я нарадзілася ў Бабруйску ў 1930-м годзе. Паколькі тату я амаль ня ведала, пачну па матчынай лініі. Мамін бацька, мой дзед Іван Ганчарэнка быў родам з Калінкавіч. Працаваў настаўнікам, пазьней школьным інспэктарам. У дзеда было пяцёра дзяцей: два сыны й тры

дачкі. Мая маці, Ганна, была малодшай. Сям’я была рэлігійная. Дзед быў таксама царкоўным рэгентам, усе дзеці сьпявалі ў царкоўным хоры. Расказвалі, што людзі спэцыяльна прыходзілі ў царкву, каб паслухаць Ганчарэнкаў.

У Бабруйску дзед збудаваў вялікую драўляную хату на Пушкінскай вуліцы і вельмі гэтай хатай ганарыўся: ня толькі сваімі рукамі будаваў, але ўвесь матэрыял быў з собскага лесу. У 1929-м годзе мая маці выйшла замуж за Мацьвея Грыбава. Ягоны бацька паходзіў з Рослаўля, быў чыгуначнікам, меў трох сыноў. Усе тры сыны былі вайскоўцамі. Старэйшы, Сяргей — камкор (камандзір корпусу), меў тры ромбы. (П. Селиванов. Комкор Сергей Грибов. — Минск: Беларусь, 1972.) Пра сярэдняга брата я нічога ня ведаю; малодшы, Мацьвей, начальнік штабу дывізіі, быў маім бацькам. Меў тры шпалы. Неўзабаве пасьля майго нараджэньня бацька завёў раман з дачкой нейкага высокага начальніка й нас з мамай кінуў. А каб кінуў тую жанчыну, то гэта б каштавала яму вайсковай кар’еры.

Тым часам Ганчарэнкавы дзеці разьехаліся хто куды. Старэйшы сын Аляксандар апынуўся ў Польшчы. Дачка Гэлена выйшла замуж за багатага купца Сьмірнова й пераехала ў Маскву. Дачка Барбара, якая мела цудоўны голас, паехала ў Менск вучыцца сьпяваць. Мы з мамай засталіся ў Бабруйску. У трыццатыя гады дом дзеда адабралі й перадалі ЖАКТу («Жилищно-арендное кооперативное товарищество»). Дзеда саслалі ў Арол. Нам з мамай дазволілі жыць у найбольшым пакоі дзедавай хаты. У кожны зь іншых пакояў усялілі цэлыя сем’і.

Мама працавала друкаркай. Спачатку мяне

даглядала мая старая нянечка, але хутка гэта забаранілі, бо гэта называлася «эксплюатацыя чалавека чалавекам». Нянька мяне так любіла (яна была са мной ад майго нараджэньня), што прапанавала, што будзе мяне даглядаць задарма. Давялося й ад гэтага адмовіцца, бо адна суседка-камуністка данесла, што Ганна (мая маці) далей «эксплюатуе чалавека».

Я памятаю сябе вельмі рана. Адыходзячы на працу, мама пакідала мне ежу на цэлы дзень і зачыняла дзьверы на ключ. А калі яна вярталася пад вечар, то я ёй дакладвала: «гэта я ням-ням, а гэта не».

Аднаго разу пачуўся стук у дзьверы. Мама мяне навучыла, што ў такім выпадку казаць. І я на сваёй дзіцячай мове так і сказала, што мама на працы, прыйдзе тады й тады. Але грукалі яшчэ мацней. Я паўтарала, што мамы няма ў хаце, прыйдзе вечарам. Раптам выломліваюцца дзьверы, і ў пакой увальваюцца некалькі мужчынаў з сабакам-аўчаркай. Аказалася, што гэта ЖАКТ хацеў вымераць, колькі квадратных мэтраў у нашым пакоі, бо тая самая суседка-камуністка Чавадаева данесла, што мы з мамай займаем занадта вялікі пакой.

Пасьля гэтага выпадку мама папрасіла, каб нам далі найменшы пакойчык у дзедавай хаце, што й было зроблена. Наш вялікі пакой аддалі той суседцы Чавадаевай. Наш другі пакойчык быў вельмі малы: мама спала на вузкім ложку, а я на сундучку, але мы былі такія шчасьлівыя, што нас цяпер ніхто не чапаў.

Пры дзедавай хаце быў прыгожы сад. На яго акрайку, у маленькай хатцы, жыла шматдзетная сям’я габрэяў. Сям’я была вельмі бедная,

амаль усе дзеці мелі хворыя вочы — трахому. Я памятаю адзін непрыемны выпадак: бацька гэтых дзяцей дзесьці здабыў тушку казы. Ня ведаю чаму, але ён закапаў гэтую тушку ў садзе, недалёка ад іхняй хаткі. На наступны дзень адзін зь ягоных сыноў, хлапчук васьмі-дзевяці гадоў, які ў школе, відаць, наслухаўся баек пра Паўліка Марозава, прывёў міліцыянэра й паказаў яму, дзе бацька схаваў казу. Адкапалі тую казу, сабраліся ўсе суседзі, міліцыянэр з жалем паглядзеў на гэтую бедную сям'ю. А калі ўсе разышліся, узяў за вуха гэтага хлапца, адвёў яго ўбок і сказаў: «Калі яшчэ раз паклічаш міліцыю — галаву адарву!».

Празь некаторы час высьветлілася, што бацькава новая жонка не магла мець дзяцей, і бацька вырашыў адабраць мяне ў мамы. Прыйшла позва на суд. Там пісалася, што мая маці мае парок сэрца (хлусьня), што яна ня мае сродкаў да жыцьця (сродкі сапраўды былі вельмі сьціплыя), а ён добра забясьпечаны, і таму дачку трэба аддаць яму. Уся сям'я была ў паніцы, бо былі пэўныя, што суд вырашыць на карысьць бацькі-вайскоўца. На ўсялякі выпадак пачалі рыхтаваць мяне, што мне давядзецца ехаць у Томск, дзе ў той час служыў бацька. Я добра памятаю, як нехта са сваякоў сказаў мне пра гэта, а я неяк ня вельмі спалохалася й сказала, што я ўсё роўна вярнуся да мамы:

— А як жа ты знойдзеш дарогу?

— Я буду ісьці па чыгуначных шпалах.

(Я ў дзяцінстве вельмі любіла чыгунку і цягнікі.)

Суд адбываўся ў Бабруйску. Бацька націскаў на тое, што толькі ён можа мне забясьпечыць

добрае жыцьцё. Судзьдзя спыталася, колькі ён увесь гэты час плаціў алімэнтаў. Аказалася, што ён ніколі нічога не плаціў. Мяне прысудзілі маме, а бацьку там жа на месцы прызначылі алімэнты. Ня ведаю, якая гэта была сума, але мама ня мусіла больш пакідаць мяне адну на цэлы дзень, бо нейкі час магла не працаваць. Я памятаю размовы старэйшых пра тое, што гэта брат бацькі, камкор, націснуў на судзьдзю. Ён быў супраць новага жанімства бацькі, а нас з мамай ён, ягоная жонка і ягоныя бацькі вельмі любілі.

Алімэнты прыходзілі да восені 1937-га году. Бацьку расстралялі. Расстралялі й ягонага брата, і шмат-шмат выдатных прафэсійных вайскоўцаў, разам з маршалам Тухачэўскім.

У канцы 1934-га ці 1935-га году спахапіліся, што я яшчэ не хрышчоная. Паўстала праблема: дзе й як хрысьціць? Ні ў Бабруйску, ні ў Менску не засталося ніводнага сьвятара: усіх саслалі ці расстралялі. Старэйшая матчына сястра напісала з Масквы, што там яна змагла б гэта залатвіць. Мы з мамай паехалі ў Маскву. Хрэсьбіны былі вельмі таямнічыя: цёмная кухня, старэнькі сьвятар і вялікая горка цяжкіх белых талерак на велічэзнай пліце.

Калі мы вярнуліся ў Бабруйск, то я пачала расказваць дзецям на вуліцы, што я была ў Маскве, што адзін стары дзядзька з барадой мяне купаў, расказала й пра талеркі. Мая бедная мама вельмі спалохалася, бо адразу можна было зразумець, што я расказваю пра хрэсьбіны. Тады я яшчэ ня цяміла, чаму нельга пра гэта расказваць, але паслухалася.

Прайшло шмат гадоў, я ўжо была дарослая і шмат разоў пыталася ў цёці Барбары, чаму на

пліце было столькі талерак? Цёця адказвала, што я нешта наблытала: ніякіх талерак там не было. І толькі ў 60-х гадах у Мюнхэне адзін сьвятар адказаў на маё пытаньне: ваду, у якой хрысьцяць дзіця, нельга падаграваць на агні. А была зіма. Таму гэтыя талеркі награвалі на пліце, а тады пагружалі іх у ваду, каб хоць крыху нагрэць.

Я вельмі любіла езьдзіць цягнікоў да цёці Барбары ў Менск. Праўда, само падарожжа туды каштавала шмат нэрваў. Пасажыраў заўсёды была цьма-цьмушчая. Цягнік аднекуль прыходзіў і стаяў на станцыі ў Бабруйску роўна сем хвілін. Гэтага часу ледзь хапала на тое, каб тыя пасажыры, што прыехалі ў Бабруйск, вылезьлі зь цягніка. Усе мелі не валізкі, а велічэзныя клункі, яны ледзь пралазілі ў дзьверы вагонаў. Як толькі пачыналася пасадка, раздаваўся сьвісток, а яшчэ праз хвіліну-дзьве цягнік пачынаў рухацца. Паніка была страшэнная. Апрача таго, пэрону людзкага не было: ніжэйшая прыступка знаходзілася які мэтар ад зямлі. Мяне часам падсаджвалі праз акно, а я трэслася ад страху, што мама можа не пасьпець. Па дарозе цягнік 20 хвілін стаяў у Пухавічах і 20 хвілін у Асіповічах. Падарожжа ад Бабруйску да Менску, нейкіх 140 кілямэтраў, займала чатыры гадзіны.

Аднойчы народу было асабліва шмат. Абвясьцілі: «Сем'і вайскоўцаў — наперад!». І іх пачалі прапушчаць без чаргі. Я пацягнула маму за рукаў: «А мой тата таксама вайсковец». Начальніца станцыі строга паглядзела на маму: «Грамадзянка, гэта праўда?» — «Так», сказала мама. — «Дык чаго ж вы маўчыце! Праходзьце!». Назад зь Менску ў Бабруйск гэтых праблемаў не

было: цягнік фармаваўся ў Менску, сапраўдная плятформа, сходкі на ўзроўні зямлі. Паездкі да цёці Барбары ў Менск былі сапраўдным сьвятам у маім дзіцячым жыцьці. Такім жа сьвятам быў і прыезд цёці Барбары да нас у Бабруйск. Мама і яе сястра вельмі сябравалі, розьніца паміж імі была толькі адзін год.

Летам 1937-га году вярнуліся мы з мамай зь Менску ў Бабруйск. Суседзі сказалі, што некалькі разоў да мамы прыходзіла нейкая незнаёмая жанчына. Нарэшце мама зь ёй пазнаёмілася. Гэтая жанчына сасватала маме свайго сына Міколу Пашына. Гэта быў вельмі сымпатычны, высокі, прыгожы брунэт з вусікамі. Сапраўдны кавалер. І мне, і маме ён вельмі спадабаўся. Яны пажаніліся, і ён пасяліўся ў нашым маленькім пакойчыку, які меў ня больш за дзесяць мэтраў.

Мікола Пашын аказаўся запойным п’яніцам. Запой пачаўся адразу пасьля шлюбу. Гэта быў кашмар! Запой трываў дзён дзесяць. Ад гарэлкі майму айчыму рабілася дрэнна, яго ванітавала, у пакоі стаяў жахлівы смурод. А ён вымагаў яшчэ й яшчэ гарэлкі, а калі мама не давала, то рабіўся вельмі агрэсіўны.

У перапынку між запоямі гэта быў зноў цудоўны чалавек. Ён працаваў інжынэрам на нейкай фабрыцы. Часта прыносіў мне зробленыя там падарункі: маленькія вядзерцы з каромыслам, лапаткі й іншыя рэчы. Добраахвотна хадзіў да лекараў. Вынікаў не было ніякіх. Трымаўся ён, можа, зь месяц. Гарэлкі ў рот ня браў. Потым мы заўважалі, што ён рабіўся неспакойны, нэрвовы, вочы неяк бегалі, і ўвесь кашмар пачынаўся спачатку.

На пачатку 1938-га году яму на працы паставілі ўльтыматум: або ён едзе ў Маскву лячыцца да аднаго ведамага прафэсара, або яго звольняць з працы. І ён паехаў. А мы з мамай жылі спакойна да 15-га красавіка таго ж году.

# 2. Бяз мамы, з залатой лялькай

*Мамін арышт. У Менску, у цёці Барбары. Цыганскае вясельле й цыганская варажба. Як я трапіла ў адну школу з цэкоўскімі дзецьмі. Як я хацела памерці. Лялька дапамагае сяброўцы Лене.*

У ноч з 14-га на 15-га красавіка 1938-га году мама мяне пабудзіла. Гляджу: у пакоі гарыць сьвятло й нехта ў форме сядзіць за сталом. Перад ім гара лістоў і фатаграфіяў, і ён іх моўчкі пераглядае. Пачало сьвітаць. «Вы з дачкой мусіце пайсьці з намі». За дзьвярыма яшчэ адзін у форме НКВД. Мама апранула мяне ў нешта вельмі лёгкае, бо вясна ў тым годзе была цёплая. Як толькі мы выйшлі з пакою, на дзьверы наклалі сургучную пячатку. Бедная мая мамачка! Яна ж адразу мусіла зразумець, што гэта *арышт*. А мне было сем гадоў, і я нічога не разумела. Вывелі нас на нашу Пушкінскую вуліцу. Тут мы пабачылі, што мы не адны: амаль з кожнага дома ў

нашым квартале вялі аднаго-двух чалавек у тым самым напрамку — да будынка НКВД. Столькі ворагаў народу аказалася ў адным квартале на Пушкінскай вуліцы ў Бабруйску!

Прывялі ў НКВД, пасадзілі на лаўку, папрасілі пачакаць. Праз некаторы час нехта выйшаў, і я пачула, што ён з мамай вельмі ціха гаворыць пра мяне. «Не, не, — сказала яму мама, — маю дачушку возьме мая сястра ў Менск, а пакуль што адвядзіце яе да нашых суседзяў Юхнаўцоў».

Мама толькі пасьпела мне сказаць, каб я не хвалявалася. Гэта нейкае непаразуменьне, яна хутка вернецца. Яна так трымалася, што нават ня плакала пры разьвітаньні. У той дзень, 15-га красавіка 1938-га году, я яе бачыла апошні раз.

Да Юхнаўцоў мяне адвезьлі на чорнай «эмцы». Гэта быў першы раз у маім жыцьці, што мяне пракацілі аўтам. Сказалі Юхнаўцам, што калі цёця не забярэ мяне праз тры дні, то мяне адвязуць у сіроцкі прытулак.

Я ўсё сваё дарослае жыцьцё зь вялікай удзячнасьцю ўспамінаю сям'ю Юхнаўцоў. Сам Юхнавец быў сябрам кампартыі; у іх было двое маленькіх сыноў. У той час толькі за тое, што далі прытулак дачцэ «ворагаў народу», у яго маглі быць вялікія непрыемнасьці. Каб яны тады адмовіліся ўзяць мяне да сябе, то сіроцкага дому мне было б не мінаваць. Але трэба было як найхутчэй выклікаць цёцю Барбару. Тэлефона ў цёці ў Менску не было. Ніякі ліст не дайшоў бы за тры дні. Заставалася толькі даць тэлеграму. А што тэлеграфаваць? Што сястру арыштавалі? Такую тэлеграму перахапілі б адразу на тэлеграфе. Напісалі: «Сястра цяжка хворая, прыяжджайце».

Тым часам з НКВД званілі штодня. Ім так

хацелася мяне забраць! Юхнаўцы намагаліся пераканаць іх, што цёця напэўна прыедзе па мяне.

Перад нашай хатай на Пушкінскай вуліцы расьлі прыгожыя пірамідальныя таполі. Каля гэтых дрэваў я кожны дзень прастойвала гадзінамі й чакала маму, бо яна ж сказала, што хутка вернецца. Часам мне здавалася, што я яе бачу здалёк, я бегла насустрач, і кожны раз было вялікае расчараваньне.

Цёця Барбара, студэнтка менскай кансэрваторыі, тэлеграму атрымала, усё зразумела, усё кінула й у канцы трэцяга дня прыехала. Першым чынам пабегла ў «органы», каб штонебудзь даведацца. Ніякай інфармацыі нідзе не атрымала. Папрасіла, каб хаця выдалі дзіцячыя рэчы, адзеньне, абутак. Не належыцца. «Комната опечатана». Вось так мы паехалі зь цёцяй у Менск: я ў чым стаяла, з улюбёнай лялькай у руках.

Цёця Барбара, як я ўжо казала, мела цудоўны голас, мэца-сапрана. У музычны тэхнікум яе, аднак, не прынялі, бо ня мела дастаткова «працоўнага стажу». Папрацавала некалькі гадоў, ізноў падала заяву. Ізноў адмовілі, бо ўжо перарасла. Тады яна нейкім чынам збавіла сабе гадоў пяць — прынялі. Скончыла тэхнікум, паступіла ў кансэрваторыю. Выйшла замуж за менчука Георгія Вержбаловіча. Шлюб іх быў шчасьлівы, але вельмі кароткі. Цёця вельмі рана аўдавела, так і ня меўшы дзяцей.

Жыла цёця ў Менску на Сьлясарнай вуліцы. У спадчыну ад мужа яна атрымала запушчаную драўляную хату зь вялікім садам. І гэтай хатай улады распарадзіліся так, як дзедавай у Баб-

руйску. Цёця фармальна лічылася ўласьніцай, але правоў ніякіх ня мела, адны непрыемнасьці. ЖАКТ пакінуў ёй два з паловай невялікія пакоі. У найбольшы пакой усялілі сям'ю пракурора Рабышкі (чатыры асобы), у другі вялікі пакой — сям'ю Місь. Муж Місіхі, як яе ўсе называлі, сядзеў у турме за нейкае злачынства, яна мела трое дзяцей. Пазьней пасяліўся нейкі хахаль, і яна нарадзіла яшчэ адно дзіця.

Намінальна цёця атрымлівала нейкія грошы за тыя два пакоі, але мусіла аплачваць усе рамонты: печы дымілі й дрэнна грэлі, страха працякала... Прызначанай ЖАКТам квартплаты на рамонт не хапала. Нялёгка было й знайсьці надзейных майстроў. Аднойчы нехта ёй параіў добрага печніка. Працуе гэты пячнік і нешта буркае. Цёця прыслухалася: «Вось гаспадыня просіць зрабіць як мага лепей. Можна зрабіць добра, але хто гэта хоча?».

Непадалёк жыло шмат цыганоў. Жанчыны хадзілі па хатах у шырачэзных спадніцах і прыгожых квяцістых хустках, у якіх можна было схаваць усё што хочаш. Часта пасьля іхняй «візыты» заўважалі, што прапала нешта з хаты ці двара. З адной цыганкай цёця пасябравала. Тая вучыла яе цыганскім песьням: «Акадзяка чавала, кадзяка равала...». Аднойчы гэтая цыганка запрасіла цёцю на вясельле свайго брата. Гэта быў вельмі вялікі гонар для нецыганкі. Цёця расказвала, што было вельмі цікава: смачныя стравы, музыка, песьні. З жанчын толькі цёця сядзела пры стале з мужчынамі. Але пазьней пачалася бойка, у ход пайшлі нажы, пацякла кроў, і цёця ўцякла. Яе, бедную, ніхто не папярэдзіў, што гэта такі звычай у цыганоў:

калі падчас вясельля не цячэ кроў, то ў маладых ня будзе шчасьця.

Аднаго разу цёціна знаёмая цыганка сказала: «Дай мне тваю руку, я табе паваражу». Паглядзела на руку, нічога не сказала й хуценька разьвіталася.

Праз некалькі дзён цёця пайшла ў гарадзкую лазьню, пасьлізнулася там, дзе сьцякала мыльная вада, упала галавой на каменную падлогу й пасьля гэтага адзінаццаць месяцаў праляжала ў шпіталі з страсеньнем мазгоў. У яе былі часам галюцынацыі, часта траціла прытомнасьць. Лекары не былі пэўныя, ці зможа яна далей вучыцца, а тым больш сьпяваць. Але праз год цёця прадоўжыла навуку. Было гэта яшчэ перад маім прыездам, у 1935-м ці ў 1936-м годзе.

У Менску ў мяне было двое прыяцеляў. Туся, дачка кампазытара Шчаглова і сьпявачкі Чамярысавай, зь якой цёця разам вучылася і вельмі сябравала. І Толік, пляменьнік цёцінага мужа, трошкі малодшы ад мяне, вельмі разумны і цікавы хлопчык. Пасьля арышту мамы, у цягніку па дарозе ў Менск, я цешыла сябе думкай, што цяпер буду часьцей бачыцца з Толікам і з Тусяй.

Бацька Толіка быў камуніст, які ўсяго баяўся. Калі праз «радыёкропку» чыталі перадавіцу «Праўды», ён адчыняў дзьверы, каб усе суседзі чулі, які ён прававерны.

Ужо праз некалькі дзён мы адведалі Толіка. Гэта было для мяне такое шчасьце! А праз некалькі тыдняў я ізноў папрасіла цёцю пайсьці са мной да Толіка. Цёця сказала, што ня мае часу. Прыйшло лета, у цёці не было заняткаў, а да Толіка яна мяне не адводзіла. Я расплакалася, і

тады цёця мусіла прызнацца, што бацька Толіка папрасіў, каб мы да іх больш не прыходзілі, таму што арыштавалі маю маму. Які гэта быў удар для мяне!

Мяне чакала яшчэ адно расчараваньне: цёця сказала, што й да Шчагловых нам цяпер лепей не хадзіць. Толікаў бацька — адданы камуніст, і то баіцца такіх сваякоў. А Мікола Міколавіч Шчаглоў, бацька Тусі, быў у кадэцкім корпусе, а можа нават і ў белай арміі. Яму нашыя візыты й сапраўды могуць пашкодзіць. Яго пакуль што не чапалі, бо ён быў вядомы кампазытар, які напісаў музыку для дэкады беларускага мастацтва ў Маскве ў 1936-м годзе.

Цяжка было маёй цёці растлумачыць гэта ўсё васьмігадовай дзяўчынцы, якая была перакананая, што маці ейную забралі ў выніку нейкага непаразуменьня, што яна нічога дрэннага нікому не зрабіла, яе ўсе любілі й яна мусіла хутка вярнуцца. Аднак я ўсё зразумела і цёці больш не дакучала.

А тым часам Шчагловы запрашалі нас то на ўрадзіны, то проста так, а цёця ўсё аднеквалася й не прыходзіла. Энэргічная маці Тусі, Натальля Чамярысава, адчула, што нешта тут ня тое, і, як кажуць, прыперла цёцю да сьценкі. Цёця прызналася, што яна баіцца пашкодзіць ім нашымі візытамі. Божа мой, што тут было! Шчагловы аблаялі цёцю Барбару. «Мы ж добра ведаем тваю сястру, мы перакананыя, што яна ні ў чым не павінная. Як ты магла нават падумаць пра тое, што мы ад вас адрачэмся за тое, што яе арыштавалі!». Пасьля гэтага Шчагловы пачалі дэманстрацыйна яшчэ лепей да нас ставіцца: калі куплялі нешта для Тусі, куплялі тое самае

й для мяне, вадзілі мяне ў кіно, бралі з сабой на дачу.

Летам мы атрымалі ня ліст, а нейкую пісульку ад мамы з просьбай прыслаць ёй цёплыя рэчы й што-небудзь зь ежы. Цёця цёплыя рэчы мусіла купіць, бо да нашых з мамай рэчаў у нас не было доступу. А зь ежы адзінае, што можна было паслаць, то гэта баранкі-сушкі. Ці атрымала яна гэта ўсё, мы ніколі не даведаліся.

Яшчэ празь некалькі месяцаў мы атрымалі ліст ад мамы, дзе яна пісала, што знаходзіцца ў лягеры Сухабязводнае, працуе на лесапавале. (Лягер Сухабязводнае ўспамінае Аляксандар Салжаніцын у сваёй кнізе «Архіпэляг ГУЛаг».) У канцы ліста была прыпіска: «Не выкідайце гэты канвэрт». Цёця здагадалася, разьляпіла канвэрт. На ражках яго было напісана: «Судзілі тройкай. Восем гадоў».

Тым часам дзеда Ганчарэнку адпусьцілі з высылкі, але на Беларусь вяртацца забаранілі. А да дачкі ў Маскву? У Маскву — калі ласка. Ня ведаю, у якіх установах цёця абівала парогі, каб дзеду дазволілі пераехаць у Менск. Адмаўляць не адмаўлялі, а казалі, што каб прапісацца ў Менску, трэба мець працу. Дзед мой нарадзіўся ў 1865-м годзе. Гэта значыць, што ў 1938-м годзе ён меў 73 гады. Знайшлася нават нейкая праца, але каб яе атрымаць, патрэбная была прапіска. Адным словам, проста зьдзекаваліся. Тое, што цёця вучылася і працавала, а я была ўвесь дзень без дагляду, не прымалася пад увагу. «Калі вам цяжка, аддайце пляменьніцу ў дзіцячы прытулак, там яе дагледзяць».

21-га чэрвеня 1938-га году мне споўнілася восем гадоў. Час ісьці ў школу. Але ў якую? На

нашай ускраіне была адна беларуская школа. Яна мела нядобрую рэпутацыю: будынак развальваўся, вучні — хуліганы. Пешаходы пераходзілі на другі бок вуліцы, бо на галаву абавязкова нешта ляцела згары. У цэнтры гораду, на вуліцы Кірава, каля Ленінскай бібліятэкі тады якраз адчынілася руская школа № 4. Цёця — туды. Дзе там! І месцаў ужо няма, і раён у нас неадпаведны. Цёціна сяброўка параіла схадзіць у школу яшчэ раз і сказаць, што я дачка вайскоўца. Цёця так і зрабіла, і мяне прынялі. Добра, што тады не было яшчэ кампутараў і ніхто ня мог даведацца, што майго бацьку-вайскоўца ўжо год як расстралялі.

Пачаўся навучальны год. Праз тры дні настаўніца сказала, каб я ў часе перапынку прыйшла ў настаўніцкую. Далі мне нейкую кніжку й сказалі: «Чытай». А чытала я тады ўжо вельмі бегла. Тады далі другую кніжку. Прачытала без праблемаў. Настаўнікі шэптам перагаворваліся, а тады сказалі: «Заўтра прыходзь у другі кляс». Аказалася, што тая другая кніжка была падручнікам трэцяга клясу.

Школа № 4 была вельмі добрая, вось толькі клясы былі вельмі вялікія: у маім клясе было больш за 40 вучняў. У гэтай школе вучыліся й дзеці высокіх партыйцаў. Сына першага сакратара ЦК Панамарэнкі прывозілі й адвозілі аўтам. Двара пры школе амаль не было. У часе перапынкаў усе дзеці выходзілі ў шырокі і даўгі калідор. Дзяўчаты вадзілі нешта накшталт карагодаў-гульняў. «Поезд к станции подходит, машинист свисток даёт, Маша с поезда выходит, Гале руку подаёт». Такіх гульняў у нас было пяць-шэсьць, усе яны з часам абрыдлі. Аднойчы

ў клясе зьявілася новая дзяўчынка: «Давайце я вам пакажу нешта новае!». Гэта была гульня з казой. У сярэдзіне кола стаяла адна дзяўчынка, яна пасьля нейкіх сьпеваў выбірала наступную. Нам гэтая гульня вельмі спадабалася. Аднак празь некалькі дзён наша настаўніца папрасіла, каб мы ў гэтую гульню больш не гулялі. Ніякага тлумачэньня яна не дала. Шмат гадоў пазьней, калі цёця Барбара рыхтавала цыкль беларускіх народных сьпеваў, я даведалася, што гэта была беларуская фальклёрная песьня «Го-го-го, каза...».

Вучылася я добра, хатнія заданьні рабіла вельмі хутка, і — на вуліцу. Дзяцей на Сьлясарнай вуліцы было шмат, але збольшага старэйшых ад мяне, таму й размовы былі адпаведнымі: «Да суседкі пайшоў хахаль. Хадзі з намі, будзем падглядаць, што яны робяць». Аднойчы мне нехта сунуў кніжку «Дэкамэрон» Бакачча: «Пачытай, вельмі цікава!». Я пагартала яе, нічога не зразумела, паклала яе каля свайго ложка. Да цёці прышлі госьці, пабачылі кніжку й спыталіся: «Хто гэта ў вас чытае такое?» — «Гэта мая кніжка», — сказала я. А было мне ў той час дзевяць гадоў.

Здаецца, у 1939-м годзе нам паведамілі, што два разы на тыдзень будуць выкладаць беларускую мову. Падчас заняткаў амаль усе рагаталі (беларускіх дзяцей у клясе амаль не было). Далей, чымся «Не сядзіцца ў хаце хлопчыку маломy», праграма не пайшла, і вельмі хутка выкладаньне беларускай мовы спынілася.

У трэцім клясе ўсіх запісалі ў піянэры. Цёця купіла мне прыгожы шаўковы гальштук. Адной раніцы я праспала. Пабегла ў школу, а

там зьбіраюцца фатаграфаваць выдатнікаў (я вучылася толькі на выдатна). І тут аказалася, што я забыла свой гальштук у хаце. Сяброўка хацела пазычыць мне свой. Нельга! Была вялікая непрыемнасьць. І яшчэ памятаю адзін выпадак, зьвязаны зь піянэрамі: трэба было выбраць піянэрскага важака. Кандыдат быў толькі адзін — Шурупаў, сын аднаго высокага чыноўніка ў кампартыі Менску. А я гэтага хлапца ненавідзела. Ён і вучыўся дрэнна, і быў нейкі мне несымпатычны. Ну, я вырашыла, што раз мы маем выбіраць, то я яго ня выберу. Аказалася, што толькі я адна была супраць. Цёцю выклікалі ў школу, а мяне са школы ледзь ня выкінулі.

Па меры таго як я падрастала, я ўсё вастрэй адчувала адсутнасьць мамы, хаця цёця Барбара любіла мяне бязьмежна. Кожны раз, калі ў нас зьбіраліся госьці, а студэнты кансэрваторыі — народ вельмі вясёлы, я залазіла дзесьці ў куток і пачынала плакаць, бо ўяўляла сабе, як мая бедная прыгожая мамачка працуе на холадзе на лесапавале.

У той час я зайздросьціла толькі дзьвюм дзяўчатам: Сьвятлане Сталінай і той дзяўчынцы, чыя маці працавала прыбіральшчыцай у менскім НКВД. Я была пэўная, што вось у іх ніколі не адбяруць маму. І толькі ў 1967-м годзе, калі на Захад уцякла з Савецкага Саюзу дачка Сталіна Сьвятлана, я даведалася, што яна страціла сваю маму яшчэ раней, чым я. (Я тады працавала ў рускай сэкцыі Радыё Свабода, і мне даручылі чытаць у эфір абедзьве кніжкі Сьвятланы Сталінай: «Двадцать писем к другу» і «Только один год»).

Мяне мучыла адзінота. Ніхто мяне не право-

дзіў у школу, ніхто не спатыкаў, калі я вярталася дадому. Па дарозе ў школу я заўсёды заходзіла па Налю Ракоўскую. Кожны раз Наля сядзела за сталом, перад ёй яечня, смажаная на масьле, а каля яе скакалі маці й бабка й упрошвалі, каб яна ела, а яна крыўлялася. Ад гэтага відовішча мне рабілася вельмі сумна. Я не была галодная, не! Мне проста было крыўдна, што мяне не было каму ўпрошваць.

У адной кніжцы я прачытала, як нехта лёг на сырую зямлю, захварэў і памёр. Вось і я вырашыла зрабіць тое самае. У сакавіку ці красавіку 1939-га году, як толькі зьлез сьнег, я легла на траву ў нашым садзе, доўга ляжала, а пасьля гэтага атрымала запаленьне лёгкіх. Гарачка была больш за 40. Прыйшоў лекар, даў нейкі парашок і пайшоў, а я пачала адчуваць, што паміраю. Я проста страціла прытомнасьць. Але праз некаторы час ачуняла і пачала выздараўліваць. Я ніколі нікому не прызналася, чаму я захварэла, але сорамна мне за гэты ўчынак аж да сёньня.

Як бы самотна мне ні было, але сваё тагачаснае жыцьцё я б ні за што не прамяняла на жыцьцё ў сіроцкім доме.

Я пасябравала з адной дзяўчынкай зь беднай шматдзетнай сям'і. Бацька яе вельмі дрэнна ставіўся да жонкі й да дзяцей: хацеў сына, а нарадзіліся тры дачкі. Я вельмі шкадавала сваю сяброўку Лену, бо яна часта плакала. Аднойчы я ёй падаравала сваю ляльку. Хутка пасьля гэтага сытуацыя ў гэтай сям'і зьмянілася. Лена перастала да нас прыходзіць, бацька раптам зьмяніўся да лепшага й пабудаваў вялікую хату на нашай вуліцы.

Ад часу арышту мамы ў красавіку 1938-га

году й да пачатку вайны мы атрымалі ад яе ўсяго тры-чатыры лісты зь месца высылкі. У адным лісьце яна, між іншага, напісала: «Галачка, беражы тую ляльку, якую табе падаравала цёця Барбара». Але якраз гэтую ляльку я падаравала беднай Лене. Цёця Барбара ведала, што мая мама мела некалькі залатых манэтаў, але ня ведала, дзе яна іх схавала. Значыць, манэты былі зашытыя ў той ляльцы.

## 3. Мне вярнулі дзеда

*Ратую ад агню цёціны ноты. Начныя дзяжурствы ля крамаў. Любімую песьню забаранілі. Камунальныя сцэны зь сякерай. Анэкдоты на кухні ў Шчагловых. Цёцю выклікаюць у «органы».*

1939-ты год быў багаты на падзеі. Летам НКВД дазволіла нам прыехаць у Бабруйск па рэчы. Радасьць нашая была нядоўгая: сундучок аказаўся пусты. Цёця проста дзеля прынцыпу схадзіла ў «органы», спыталася, як гэта магло стацца: пакой жа быў апячатаны. На адказ яна й не спадзявалася. Мы вярнуліся ў Менск з пустымі рукамі.

На Сьлясарнай вуліцы ўсе дамы былі драўляныя. Праз дарогу, насупраць нашай хаты, стаяў невялікі дом, а за ім сарай. Суседзкія дзеці гулялі там з агнём, і сарай загарэўся. Полымя перайшло на той дом, што насупраць нашага. На нашу страху пачалі падаць іскры, бо вецер дзьмухаў якраз у нашым кірунку. Мужчыны пачалі

паліваць страху вадой, а жанчыны — выцягваць рэчы ў сад, бо дом мог вось-вось загарэцца.

Цёці не было яшчэ дома. Тады й я пачала выносіць самыя каштоўныя рэчы ў сад: фатаграфіі, срэбныя лыжкі, коўдры, падушкі. Але раптам стаўся цуд: вецер павярнуў у другі бок, і полымя перакінулася на вялікі прыгожы дом Сухаверкаў, што стаяў побач з той згарэлай хатай. Пакуль прыехала пажарная падвода, палова таго прыгожага дома ўжо згарэла. Цёця вярнулася позна вечарам і проста зьдзівілася, колькі рэчаў я выратавала ад блізкай небясьпекі. Я нават пасьпела вынесьці ўсе ейныя ноты.

У канцы 1939-га году дзеду нарэшце дазволілі пераехаць у Менск. І ў нас пачалося зусім іншае жыцьцё. Цяпер нас ужо было трое. Да таго ж дзеду прызначылі невялікую пэнсію. Цёця магла цяпер спакойна працаваць і вучыцца, а працаў у яе было некалькі: вышыўка жаночых кашуляў для нейкай фабрыкі, заняткі з заікамі (сьпевакі добра гэта ўмеюць рабіць: гэтых дзяцей трэба было вучыць гаварыць нарасьпеў, тады яны не заікаліся), заняткі зь сельскімі настаўнікамі, каб яны не зрывалі галасы. Летам цёця прадавала ягады (парэчкі, агрэст) і кветкі са свайго саду. Усё гэта прыносіла невялікі заробак. Гэтай апошняй працы цёця вельмі саромелася, і як толькі набліжаўся нехта са знаёмых, яна прасіла суседку «пакараўуліць» ейныя рэчы, а сама ўцякала.

Грошай у нас заўсёды было ў абрэз. Студэнты кансэрваторыі ўвесь час мусілі падпісвацца на бясконцыя «займы» і купляць аблігацыі. Ня ўдзельнічаць у гэтых мерапрыемствах было нельга. Летам выручалі сад і гарод, але ў іх трэба

было спачатку ўкласьці шмат працы: капаць, палоць, паліваць. Што тычыцца прадуктаў у крамах, то вечна былі перабоі: то хлеб не прывезьлі, то на некалькі месяцаў зьнік цукар, то масла можна было купіць толькі ў другім канцы гораду. Часам суседкі бралі мяне з сабой і мы зь вечара да самай раніцы дзяжурылі каля якой-небудзь крамы, бо пранесьліся чуткі, што раніцай там будуць нешта «даваць». Колькі разоў бывала, што дачакаемся адкрыцьця крамы, а там абвяшчаюць, што даваць нічога ня будуць. Або пад раніцу пачыналася таўкатня, сваркі: «Вы тут не стаялі!». Аднойчы мяне ледзь не задавілі, і цёця забараніла мне гэтыя начныя паходы. Але памятаю, як я была рада, калі па дарозе са школы я выстаяла ў адным ларку чаргу й купіла хамсу. Загарнуць яе прыйшлося ў аркушы, што я выдрала са свайго сшытка.

Гэтаксама цяжка куплялася адзеньне. Аднойчы нам сказалі, што ў ГУМе будуць дзіцячыя паліто. Пайшлі — і ўбачылі шмат паліто аднаго фасону. Праўда, колеры былі два — цёмна-шэры й фіялетавы. Мне купілі фіялетавае. Абноўка для мяне была шчасьцем. А на наступны дзень аказалася, што ўсе дзяўчаты ў нашай школе былі ў такіх жа фіялетавых паліто.

Перад вайной усе студэнты мусілі праходзіць вайсковую падрыхтоўку. Нягледзячы на тое, што цёця павінна была стаць опэрнай сьпявачкай, яе таксама вучылі страляць. Аднаго разу заняткі зацягнуліся, і студэнтам сказалі ўзяць стрэльбы дадому, а раніцай зь імі зноў зьявіцца на заняткі. Вось была сэнсацыя на Сьлясарнай вуліцы: ідзе Барбара Іванаўна, а ў яе за плячыма стрэльба! Уся ваколіца зьбеглася.

У нашай хаце было некалькі процівагазаў: гумовая маска, спалучаная шлянгам зь цяжкой сумкай. Такія процівагазы нам раздавалі й у школе. Усё-ткі дрэнна працавала савецкая разьведка: процівагазы ні разу не спатрэбіліся ў часе вайны.

Летам, у вольныя ад заняткаў дні, студэнты кансэрваторыі хадзілі капаць Менскае возера, ці мора. Яшчэ адной крыніцай цёціных заробкаў былі канцэрты для вайскоўцаў. Групы студэнтаў старэйшых курсаў езьдзілі ў розныя вайсковыя часткі, дзе яны выступалі з патрыятычнымі песьнямі. Я ўжо крыху грала на піяніна й падыгрывала цёці, калі яна развучвала гэтыя песьні. Маім улюбёным маршам быў «Не скосить нас саблей острой»:

То не стаи вороньи слетались
Над ракитою пир пировать, —
Гайдамаки и немцы пытались
Нашу землю на части порвать.

Не скосить нас саблей острой,
Вражьей пулей не убить.
Мы врага встречаем просто:
Били, бьём и будем бить!

Пад канец нашых «рэпэтыцыяў» я заўсёды прасіла: «Цяпер засьпявай “Не скосить нас саблей острой”». Але аднойчы цёця сказала, што гэтую песьню сьпяваць нельга, і адабрала ў мяне ноты. Я была вельмі расчараваная. (Гэта быў час падпісаньня пакту аб ненападзеньні паміж Рыбэнтропам і Молатавым.) А незадоўга перад вайной цёця раптам спытала мяне: «Галачка, дзе ноты той песьні, якая табе так падабалася?». Песьню ізноў дазволілі сьпяваць.

Мой дзед раней працаваў настаўнікам, а таму вельмі цікавіўся, што выкладаюць у школе. Як толькі я пачынала рабіць хатнія заданьні, ён падсаджваўся й спрабаваў дапамагчы. Гэта часта канчалася сваркай, бо дапамога мне была непатрэбная. Вось калі трэба было вучыць нешта напамяць, то тады мне было прыемна мець слухача. Школа рыхтавалася да нейкага сьвята, дзе я мелася дэклямаваць патрыятычны верш, у якім некалькі разоў паўтаралася: «Спасибо товарищу Сталину за наше счастливое детство». Тут дзядок мой ня вытрымаў, чартыхнуўся — «Цьфу, нячыстая сіла!» — і выйшаў у сад. Я баялася, што, можа, суседзі, асабліва Рабышкі, чулі гэта. Цёціна хата была збудаваная для адной сям'і. Сьценкі былі тонкія і няшчыльныя. Мы, напрыклад, кожны вечар чулі, як малапісьменны пракурор Рабышка з дапамогай жонкі разьбіраў судовыя справы. А з другога боку было чуваць, як суседка Місіха «распраўлялася» з каханкам і зь дзецьмі.

Рабышка адразу неўзьлюбіў майго дзеда. Аднойчы піхнуў яго на зямлю, у дзеда палілася кроў. Каму можна было жаліцца на савецкага пракурора?

А неяк вечарам мы сядзелі ўтрох за вячэрай. Раптам распахваюцца дзьверы, улятае да нас каханак Місіхі ў споднікаx, а за ім зь сякерай муж Місіхі, якога датэрмінова пусьцілі з турмы. Каханак бяжыць у наш наступны пакой, Місь — за ім. Той ледзь пасьпеў убегчы ў пакой і зачыніць дзьверы, а Місь як бухне сякерай у тыя дзьверы! Знак ад ягонай сякеры застаўся назаўсёды.

У верасьні 1939-га году да Савецкай Беларусі далучылі тую тэрыторыю, што была ў складзе

Польшчы. Праз некаторы час наш прыяцель кампазытар Шчаглоў паехаў у Заходнюю Беларусь у камандзіроўку. А калі вярнуўся, то прывёз сваёй дачцэ Тусі й мне падарункі. Гэта былі школьныя сшыткі. Але якія! Гладкая-гладкая папера, чарніла не праходзіла на другі бок, як у нашых сшытках. А да гэтага ён яшчэ прывёз і пёры, якія, у адрозьненьне ад нашых, ня драпалі паперу. Былі яшчэ нейкія рэчы, але ў мяне ў памяці засталіся толькі сшыткі й пёры.

З прыездам дзеда цёця Барбара магла часьцей хадзіць у госьці да Шчагловых, бо мяне было з кім пакінуць. У Шчагловых заўсёды было вельмі весела, а цяпер яшчэ былі цікавыя апавяданьні пра Польшчу: які там дабрабыт, якая чысьціня, якія дарогі! З горыччу расказваў Шчаглоў, як жонкі нашых вайскоўцаў прыходзілі на балі ў начных кашулях, бо думалі, што гэта балёвыя сукенкі.

Аднойчы раніцай цёця сказала, каб мы яе вечарам не чакалі, клаліся спаць, бо яна прыйдзе позна. Мы зь дзедам ня спалі ўсю ноч, цёця прыйшла пад раніцу. Мне яна нічога не сказала, а дзеду прызналася, што яе выклікалі ў НКВД і пыталіся, што Шчаглоў расказваў пра сваё падарожжа ў Заходнюю Беларусь. Цёця выкручвалася як магла. Казала, што Шчаглоў расказваў, як там жывуць людзі, але казаў, што ў Савецкай Беларусі жывецца куды лепей.

Цёцю Барбару выклікалі яшчэ некалькі разоў, пераважна на дзясятую-адзінаццатую гадзіну вечара. Ёй строга забаранілі расказваць каму-небудзь пра гэтыя выклікі, але мяне зь дзедам яна заўсёды папярэджвала. Яна, напэўна, баялася,

што калі-небудзь яе не адпусьцяць дадому. У такім выпадку мы б ведалі, што зь ёй сталася.

Цёці было адразу ясна, што НКВД добра ведае пра тое, што рабілася ў доме Шчагловых. Яе распытвалі пра асобаў, якія сапраўды былі ў іх у гасьцях. Пытаньні былі канкрэтныя. Напрыклад — хто расказаў такі анэкдот: пытаюцца ў аднаго, дзе ён хоча быць пахаваны. Той кажа, што побач з таварышам Сталіным. — «Дык ён жа яшчэ не памёр». — «Нічога, я пачакаю». Або: «Ты, кажуць, уступіў у кампартыю?» — «Ой, дзе, няўжо?». Цёця казала, што яна ня памятае такога. Яна, відаць, у гэты час была на кухні, дзе жанчыны варылі калдуны. «Ня памятаеце? Ну дык успамінайце». І пакідалі яе на некалькі гадзін, а тады прыходзіў другі энкавэдыст і ўсё пачыналася спачатку. Яны паўтаралі слова ў слова тое, што гаварылася пры стале ў Шчагловых.

У часе першых «сэансаў» энкавэдысты паводзіліся досыць ветліва, а пазьней сталі больш агрэсіўнымі. «Мы на вас маем ужо шмат матэрыялаў». І тыкалі пальцамі ў тоўстую папку, якая ляжала на стале. А аднойчы на гэтую папку паклалі пісталет. «Калі вы ня хочаце нам нічога расказваць, то мы зробім з вамі, як з вашай сястрой. А што будзе тады з вашым старым бацькам і зь дзесяцігадовай пляменьніцай?»

Для мяне да гэтага часу застаецца загадкай, як жанчына, якая мела столькі жыцьцёвых праблемаў — дзе што дастаць, дзе падзарабіць, як накарміць, якую яшчэ начамі цягалі на допыты — як яна наагул магла вучыцца?

Але, нягледзячы ні на што, набліжалася заканчэньне кансэрваторыі. Праўда, у 1940-м

годзе цёці сказалі, што месца опэрнай салісткі для яе знойдзецца хіба ў горадзе Алма-Ата, а ня ў Менску. Хаця гэта азначала б вялікую ломку ў нашым жыцьці, мы гэтым неяк ня вельмі пераймаліся, бо дрыжэлі кожны раз, як цёцю выклікалі ў «органы», і ня ведалі, ці вернецца яна адтуль.

## 4. Пад акупацыяй

*Уцёкі шпіёна й пракурора. Бамбасховішча й першая бомба ў нашай бульбе. Грамадзянскае самазабесьпячэньне. Школьныя сяброўкі ў гета. Цёця хавае ў хаце камуніста. Самапомач і Яніна Каханоўская ратуюць нас ад голаду. Я дапамагаю Натальлі Арсеньневай беларусізаваць тэатры. Кубэ й партызанская бомба. Танец на пагарэлішчы.*

Калі пачалася вайна, то высьветлілася, што той кватарант, якога ўсялілі ў малы пакойчык у кватэры Шчагловых, быў агентам НКВД. Гэты пакой знаходзіўся на паўпаверха вышэй. У сьценцы ён зрабіў дзірку, праз якую добра бачыў і чуў усё, што адбывалася ўнізе. А жонка Міколы Шчаглова Натальля Чамярысава прызналася, што й яе начамі выклікалі ў НКВД і задавалі тыя самыя пытаньні.

Кватарант зьнік у самы першы дзень вайны. І на гэты ж дзень, 22-га чэрвеня 1941-га году, цёці прызначылі чарговае «рандэву» ў НКВД...

21-га чэрвеня 1941-га году мне споўнілася

адзінаццаць год. Як заўсёды, былі запрошаныя ўсе мае прыяцелі, і мы вельмі добра пагулялі ў нашым садзе. Прачынаемся 22-га чэрвеня (гэта была нядзеля), бачым, што на вуліцы мужчыны стаяць кучкамі й нешта ціха, але ўсхвалявана абмяркоўваюць. Аказваецца, немцы перайшлі мяжу, якая, як нас штодня запэўнівалі, была «на замку». А гэта значыць, што немцы хутка прыйдуць у Менск. Карацей кажучы — *вайна*. У кожнай хаце былі «радыёкропкі», якія некалькі гадзін на дзень перадавалі розную прапаганду, часам канцэрты. Цяпер «радыёкропка» маўчала.

У той жа дзень было вырашана капаць бамбасховішча. Выкапалі даўгую, ня вельмі глыбокую яму, пакрылі яе дошкамі, а на дошкі накідалі шмат травы. Капаць было няцяжка, бо глеба была пяшчаная (і таму, дарэчы, у нас расла надзвычайная бульба). У бамбасховішчы паставілі некалькі крэслаў і табурэтак. Усё гэта нам прыдалося праз два дні: ужо 24-га чэрвеня пачалася бамбёжка.

Божа, як было страшна! Гукі сырэнаў зьмешваліся з гулам самалётных матораў, а да гэтага далучаліся гукі выбухаў. Раптам усіх нас як кіне з боку ў бок, пяшчаныя сьценкі абваліліся (яны не былі нічым замацаваныя). Вушы пазакладала, у роце й у валасах поўна пяску. Празь некаторы час усё сьціхла. Мы выпаўзьлі з бамбасховішча. Аказалася, што мэтраў за 10—15 ад яго ўпала бомба й атрымалася вялікая варонка.

25-га не бамбілі, але Менск пачаў гарэць. Усе драўляныя хаты на ўскраіне засталіся цэлымі, а цэнтар увесь згарэў. Пачалі гаварыць, што будынкі падпальваліся на загад камуністаў. А мне

нехта казаў, што маю школу нумар 4 падпаліла дырэктарка.

Першыя дні акупацыі я так баялася немцаў, што ўцякала з хаты спаць у наша бамбасховішча на гародзе. Ніякія довады старэйшых, што ў хаце лепш, не дапамагалі. Вярнулася я ў хату толькі тады, калі ў мяне ад бруду завяліся вошы.

Ад самага пачатку вайны ніякай эвакуацыі для цывільных менчукоў не было. Усе мы былі пакінутыя на волю лёсу. Самыя вялікія партыйныя шышкі мелі самаходы, яны ўцяклі адразу. Наш пракурор Рабышка ўцёк разам з жонкай, апрануўшыся ў жаночае адзеньне й узяўшы з сабой суседзкую казу. Уцёк так хутка, што нават пакінуў дачку ў піянэрскім лягеры пад Менскам. Дачка праз пару дзён прыбегла дадому, а бацькоў ужо не было. Празь некаторы час каля нашай хаты пачалі дзяжурыць двое-трое мужчын, яны гадзінамі сядзелі на траве. Цёця аднойчы спыталася, чаго яны сядзяць? Яны сказалі, што чакаюць, ці ня зьявіцца Рабышка. Мы здагадаліся, што яны хацелі яму за нешта адпомсьціць.

У канцы нашай Сьлясарнай вуліцы знаходзіўся хлебазавод. Людзі хутка зразумелі, што ні на гэтым заводзе, ні ў крамах, ні на складах не было ўжо ніякіх начальнікаў, і пачалі расьцягваць прадукты. Перад вайной у нас бывалі перабоі з хлебам, а калі яго прывозілі, то нельга было купляць колькі хочаш. А тут аказалася, што хлебазавод поўны мукі, цукру й крухмалу. Некалькі дзён мы назіралі, як людзі цягалі адтуль гэтыя прадукты. Суседзі казалі: «Чаго ж вы седзіцё! Прыйдзе зіма, ня будзе чаго есьці. Пойдзем з намі!». Цёця Барбара наадрэз адмовілася. Дзядуля мой быў ужо хваравіты, меў 76 гадоў.

Але аднойчы мы зь ім усё ж пайшлі. Вось што мы там пабачылі: мяхі з мукой былі велічэзныя, іх нельга было падняць. Дык людзі распорвалі гэтыя мяхі, высыпалі на падлогу лішнюю муку, а тое, што маглі ўскінуць на плечы, несьлі разам зь мехам. Калі мы прыйшлі, то мяхоў ужо не было. Слой мукі на падлозе быў сантымэтраў 30, і па гэтай муцэ ўсе хадзілі. А вуліца нашая была вельмі пыльная, асфальту не было. Вось і мы зь дзедам узялі колькі маглі гэтай жытняй мукі. Ні крухмалу, ні цукру ўжо не было.

Мне гэтая авантура вельмі спадабалася. Потым я з суседзямі хадзіла па патаку: у другім раёне стаяла аграмадная цыстэрна. Збоку быў кранік, адкуль можна было нацадзіць патакі. Да цыстэрны была прыстаўлена драбіна, па якой можна было залезьці на самую гару цыстэрны, а там чэрпаць патаку вёдрамі. Больш спрытныя гэта якраз і рабілі. Казалі, што адна жанчына зашмат нахілілася й утапілася ў гэтай цыстэрне з патакай.

На адным складзе знайшлі воск. Я прыцягнула дадому цяжкі квадратовы зьлітак, які важыў хіба некалькі кіляграмаў. Усе вельмі сьмяяліся, а я абразілася: не было часу развацаць, прыдасца гэта ці не, трэба было проста хапаць усё, што траплялася пад руку. Ох, як нам пазьней гэты воск прыдаўся!

Найбольшым адкрыцьцём таго часу было тое, што на таварнай станцыі недалёка ад нас стаяла некалькі таварных цягнікоў, біткам набітых living рознымі далікатэсамі. Такія цягнікі рэгулярна адпраўляліся ў гітлераўскую Нямеччыну. Самае цяжкое было зламаць дзьверы вагонаў, але мужчыны далі рады. Чаго там толькі не было!

Шпроты, розныя кансэрвы, цукеркі, пітная сода, зь якой можна было рабіць шыпучку, гарбата розных гатункаў. Усё гэта былі прадукты, якіх насельніцтва ня бачыла гадамі. І ўсё гэта расьцягнулі за некалькі гадзін. Мой дзед найбольш цешыўся цьвёрдымі цукеркамі, бо любіў піць гарбату ўпрыкуску.

Празь некалькі дзён прыйшлі немцы. Калі мы разагналіся пайсьці па алей, то каля цыстэрны ўжо стаяла ахова.

Немцаў усе вельмі баяліся. Каб у нас была хоць якая-небудзь магчымасьць эвакуацыі, то мы б ні за што не засталіся ў Менску. Тым больш злосьціліся ўсе, калі Сталін празь некаторы час абвясьціў, што ўсе, хто апынуўся пад нямецкай акупацыяй, гэта здраднікі радзімы й калябаранты.

Немцы ўвайшлі ў Менск у канцы чэрвеня. Усе разьбегліся па хатах ды празь дзіркі ў весьнічках падглядалі, як яны ехалі на матацыклах з каляскамі. Немцы першым чынам загадалі ўсім габрэям перасяліцца ў адзін раён гораду, за Нямігай. Усе габрэі мусілі выразаць сабе жоўтыя ці памаранчавыя круглыя латкі й насіць іх адну на грудзях, другую на сьпіне, на ўсякай вопратцы. Першы час габрэі маглі рухацца па горадзе свабодна, толькі хадзіць павінны былі па маставой, не па ходніках. Вельмі хутка ўсіх загналі ў гета, адгарадзілі калючым дротам. Тады ўжо выходзіць з гета можна было толькі на працу й толькі пад аховай. Бывала, вядуць групу людзей з гета, і я чую, як мяне нехта кліча: «Галя, Галя!». Гэта адна з маіх школьных сябровак. А іншым разам я пабачыла сваю настаўніцу музыкі, сп-ню Цір. Цёця бачыла шмат калегаў — студэнтаў кансэр-

ваторыі. Мы былі не вінаватыя ў тым, што сталася з гэтымі людзьмі. Але ўсё роўна мне было сорамна за тое, што іх так зьневажаюць.

Адна зь цёціных сябровак, — Вольга Ачыновіч была замужам за габрэем. Яны чакалі дзіця. У дзень, калі пачалася вайна, муж Вольгі, Аляксандар Шапіра, тады студэнт кансэрваторыі, пабег у ваенкамат і папрасіўся на фронт. 5 ліпеня Вольга нарадзіла дачку Надзею. Неўзабаве пасьля гэтага прыбегла да парадзіхі суседка й сказала, што бачыла яе мужа ў таварным цягніку з ваеннапалоннымі. Вольга схапіла маленькую Надзю й пабегла зь ёй на станцыю. Яна яшчэ здолела паказаць дачушку мужу й патлумачыла знакамі, што бяжыць у горад, каб шукаць для яго паратунку. Тым часам цягнік ад'ехаў, і яе муж зьнік назаўсёды.

Адначасна зь перасьледаваньнем габрэяў немцы пачалі паляваць на сяброў камуністычнай партыі. Іх пераважна адразу забівалі. Неяк вечарам, крадучыся, прыйшоў да нас цёцін швагер. Той самы дзядзя Валодзя, што сказаў, каб мы да іх не прыходзілі, пасьля таго як арыштавалі маю маму. Папрасіўся пажыць у нас некаторы час. Ягоная жонка зь дзецьмі яго пакінула, пераехала да бацькоў ва Ўручча, а ў тым доме, дзе ён жыў, усе ведалі, які ён адданы камуніст, і таму ён мусіў схавацца. Цёця адвяла яму адзін пакой. Нам стала вельмі цесна. Ён адпусьціў бараду, выходзіў са свайго пакоя толькі пасьля таго, як цямнела. Папрасіў мяне схадзіць да шаўца й прынесьці яму кавалак гумы, зь якой рабілі абцасы. Ён дастаў аднекуль чысты пашпарт і зьбіраўся выразаць з гэтай гумы пячатку, бо ў старым пашпарце значылася, што ён партыец.

Вельмі доўга працаваў ён над гэтай пячаткай, але пабаяўся жыць з такім пашпартам, а таму пайшоў у лес да партызанаў.

Мы спадзяваліся, што ён хоць адным словам абмовіцца пра той выпадак, калі ён спрычыніў столькі болю васьмігадовай дзяўчынцы. Нічога падобнага! Я пэўная, што яму нічога не зрабілі б за тое, што мы хадзілі да іх у госьці. Ён жа заўсёды мог сказаць, што ён ня ведаў, што маю маму арыштавалі. Але каб немцы даведаліся, што цёця перахоўвае ў сваёй хаце камуніста, то спалілі б гэтую хату разам з намі.

У горадзе зьявілася шмат савецкіх ваеннапалонных. Іх тысячамі пераганялі з аднаго канца гораду ў другі. Было такое ўражаньне, што немцы зьбянтэжыліся ад такой колькасьці людзей, якія пакідалі зброю, бо не хацелі ваяваць за Сталіна. Разьмясьцілі ваеннапалонных у недабудаваных шматпавярховых будынках бяз вокнаў і дзьвярэй. А яшчэ ж трэба было карміць гэтых людзей. Нямецкія вайскоўцы мелі досыць ежы, але лішняй у іх не было. Часта яны вадзілі ваеннапалонных па хатах, і ўсе з прыемнасьцю дзяліліся зь імі тымі мізэрнымі запасамі, што мелі. Як на зло, зімой 1940-га году ў Менску вымерзьлі ўсе фруктовыя дрэвы, так што садавіны не было. Бомба ўпала якраз на тую дзялянку, дзе расла бульба. Так што й бульбы не было. Гародніны таксама не было ніякай, бо з-за вайны цёця не пасьпела пасадзіць. Вось житняй мукі тады было яшчэ досыць. Нехта навучыў рабіць закваску, як для хлеба, а праз два дні замясіць цеста й смажыць бліны ці каржы на патэльні. Толькі тлушчу не было ніякага. І вось тут прыдаўся той воск, які я прынесла, калі рабавалі

склады. Гэтым воскам мазалі патэльню й пяклі каржы. Ну, смак гэтых «далікатэсаў» быў адпаведны.

Набліжаліся халады, у нас канчаліся запасы. Тая мука, што мы зь дзедам набралі з падлогі на хлебазаводзе, аказалася зьмяшаная зь пяском. З гэтай мукі варылі зацірку. Без крухмалу, як бы моцна ні замешваў клёцкі, яны ў вадзе разыходзіліся. Я добра памятаю, як пясок трашчаў на зубах.

У кастрычніку адчынілі некалькі клясаў прагімназіі для дзяцей ад 11-ці да 14-ці гадоў. Бедныя ахвярныя настаўнікі, бедныя вучні! Будынак быў халодны, абаграваньня ніякага. Калі стукнулі маразы, то пачалі лопацца трубы. Падручнікаў не было ніякіх. Навучаньне адбывалася толькі па-беларуску. Рускія падручнікі не надаваліся, а беларускіх не было. Трэба было схапіць як мага больш на занятках і па магчымасьці запісаць. Заняткі былі нерэгулярныя, асабліва калі пачаліся бамбёжкі. Часам настаўнікі раздавалі канспэкты, але на ўсіх не хапала, а копіяў не было дзе рабіць. У гэтым часе ўва ўсіх сапсуўся почырк.

Для старэйшых зарганізавалі настаўніцкія курсы і, калі не памыляюся, мэдычны тэхнікум. Гэтыя навучальныя ўстановы выконвалі падвойную функцыю: па-першае, адукацыйную, а па-другое, гэта давала магчымасьць ня трапіць на прымусовую працу ў Нямеччыну. Усім нам былі выдадзеныя пасьведчаньні, якія мы заўсёды павінны былі насіць пры сабе. Спачатку немцы спрабавалі вэрбаваць моладзь добраахвотна ехаць на працу ў Нямеччыну. Я памятаю плякаты: «Еду заўтра — хто са мной?». Ахвотнікаў

было мала. Тады пачалі хапаць моладзь на вуліцах. Спачатку бралі ад 15- да 18-гадовых, а пазьней і маладзейшых. Рабілася гэта вельмі хутка: проста з вуліцы вялі на станцыю, садзілі ў цягнік і ці ў той самы дзень, ці, найпазьней, на наступны адпраўлялі ў Нямеччыну. Так што выратаваць каго-небудзь не было ніякай магчымасьці. Тых, хто падчас аблаваў мог паказаць школьнае пасьведчаньне, не чапалі.

Зіма 1941—42 году была жахлівая. У печы не было чым паліць, вада ў хаце замярзала, спалі ў цёплай вопратцы й у рукавіцах. Удзень дзяжурылі пад вокнамі нямецкай кухні й зьбіралі бульбяныя лупіны. Калі яны былі таўсьцейшымі, то абразалі й варылі. А калі не, то замешвалі разам з мукой, а часьцей з вотруб'ем, і варылі ці пяклі. А часам гэтыя лупіны былі ўжо мёрзлыя. Бралі й такія. Цёця расказвала, як яна аднойчы прыйшла позна вечарам дадому. Бачыць, сядзіць мой дзядок і горка плача. Цёця пытаецца: «Што сталася?». А ён кажа: «Я бачыў сёньня, калі Галінка апраналася, што ў яе адны косьці, абцягнутыя скурай. Яна, напэўна, скора памрэ».

Аднойчы цёця прынесла кавалак вельмі цёмнага мяса. «Гэта каніна», — сказала яна. Ні дзед, ні яна нізавошта не хацелі есьці гэтага мяса. А я была такая галодная, што згадзілася есьці й каніну.

Памерці з голаду ўсім нам не дала адчыненая на пачатку 1942-га году Самапомач. Раз на дзень нам пачалі выдаваць тры порцыі рэдзенькай гарачай зупы й грамаў 100—150 на дзень на асобу чорнага хлеба. Ісьці па гэтыя «смакалыкі» трэба было далёка, але гэта быў наш ратунак.

У Самапомачы мы зь дзедам першы раз пазнаёміліся зь Янінай Аляксандраўнай Каханоўскай, зь Янечкай, як яе ўсе называлі, з бабай Яняй, як яе шмат гадоў пазьней называлі мае дзеці. Гэта была бабця нашага Данчыка. Пра яе я раскажу пазьней.

У тую зіму пачаў працаваць опэрны тэатар. Будынак Тэатру опэры й балету, пабудаваны перад самай вайной, быў пашкоджаны ў часе бамбёжак. Усе пастаноўкі адбываліся ў Драматычным тэатры ў цэнтры гораду.

Наша паэтэса Натальля Арсеньнева пераклала ўсе опэрныя лібрэта на беларускую мову, а мы зь цёцяй упісвалі беларускія тэксты ў опэрныя клявіры. Ставілі опэры Чайкоўскага «Аўген Анегін» і «Пікавая дама», «Вясельле Фігара» Моцарта, «Кармэн» Бізэ, апэрэту Штраўса «Цыганскі барон». Як цудоўна гучэлі гэтыя опэры на беларускай мове! Кампазытар Шчаглоў (Куліковіч) напісаў беларускую опэру «Лясное возера». Цёця Барбара таксама была вельмі худая, як шчэпка. Для некаторых роляў ёй трэба было падкладаць ватнік.

Немцаў гэты тэатар мала цікавіў. Гледачы былі толькі мясцовыя. Немцы з часам навезьлі сваіх артыстаў.

Можна было б сказаць, што жыцьцё пачынала нармалізавацца, каб ня тыя жахі, што адбываліся наўкола.

У гета пачаліся пагромы. Ідзем раніцай у школу, а насустрач паліцыянты. Цягнуць на сабе пярыны, падушкі (можа, яшчэ цёплыя).

У нас быў сусед, які працаваў у гарадзкой управе. Калі яму быў патрэбны рамонт, дык да яго прыводзілі групу габрэяў з гета. З адной маладой

жанчынай мы пазнаёміліся, і яна расказала нам сваю жахлівую гісторыю. На тэрыторыі гета габрэі выкапалі шмат падземных сховішчаў, куды яны хаваліся, як толькі пачынаўся пагром. Гэтая жанчына зусім нядаўна нарадзіла сыночка. Калі пачаўся пагром, ёй не дазволілі ўзяць з сабой дзіця, бо малы пачне плакаць і выдасьць усіх. Яна спусьцілася ў падзямельле безь дзіцяці. Там яны чулі, як увайшлі ў дом карнікі, дзіця пачало плакаць. Раптам нейкі шум, і дзіця сьціхла. А калі ўсё скончылася, то пабачылі, што нехта з карнікаў узяў дзіця за ножкі і… аб сьценку. Гэтая гісторыя мяне перасьледуе ўсё жыцьцё.

Час ад часу ў горадзе разьвешвалі паведамленьні: партызаны забілі аднаго немца, за гэта будуць расстраляныя 40 мужчынаў.

У прагімназію трэба было ісьці праз той сквэр, дзе знаходзіўся тэатар. Раптам я бачу, што пры ўваходзе ў гэты сквэр, на насьпех збудаванай шыбеніцы вісяць некалькі маладых мужчын. А калі я вярталася са школы, то гэтыя людзі ўжо віселі бяз ботаў і бяз портак.

Летам 1942 году ў нас адбылася адна вельмі радасная падзея. Я была адна ў хаце. Дзед пайшоў у Самапомач па зупу й хлеб, цёця — на рэпэтыцыі ў тэатры. Прыбягае ўсхваляваная суседка й кажа, што на рагу Сьлясарнай і Правіянцкай стаіць немец з самаходам і пытаецца Барбару Вержбаловіч або некага зь ейнай сям’і. (Да нашай хаты нельга было пад’ехаць аўтам з-за ямаў і выбоінаў.) Суседка кажа, што раз няма нікога з дарослых, дык я мушу пайсьці да гэтага немца. А я — ні за што! У мяне быў панічны страх перад немцамі. Суседка пайшла разам са мной. Немец

ужо пачаў злавацца, бо доўга мусіў чакаць, а ён вельмі сьпяшаўся. Даў мне невялікі, але цяжкі пакунак і тоўсты канвэрт.

Я прынесла ўсё гэта дадому, разглядаю й нічога не разумею. Думаю, што, можа, гэта нейкая памылка? Глянула на канец ліста, а там напісана: «Цалую. Ваш Саша». Божа мой! Гэта ж ліст і пакунак ад майго роднага дзядзі, старэйшага сына майго дзядулі, які згубіўся адразу пасьля заканчэньня Першай сусьветнай вайны! Амаль 25 гадоў таму! І што ж мне рабіць? Выбягаю на вуліцу, дзеда яшчэ не відаць. Бягу яму насустрач. Прабягаю некалькі кварталаў і бачу далёка на гарызонце згорбленую постаць дзеда, які павольна ідзе праз пагарэлішча. У адной руцэ кіёк, у другой — кошык з зупай і хлебам. Падбягаю да яго, а ён ужо заўважыў, што я вельмі ўсхваляваная, і ў яго з аднаго вока пакацілася сьляза. «Дзядулька», кажу, «стаў на зямлю кошык!». (Баюся, што ўпусьціць яго й разьліецца каштоўная зупа.) «Прыйшоў ліст ад твайго Сашы!» На нейкі час у дзеда аднялася мова, ён адкрываў рот, але нічога ня мог сказаць. Я спалохалася: што я нарабіла! Можа, трэба было чакаць у хаце, пакуль ён вернецца? Калі зь ім нешта станецца, што я буду рабіць на гэтым пагарэлішчы?

Але навіна была такая радасная, што дзед апрытомнеў. І тут адбылася сцэна, якая, як мне здаецца, магла б увайсьці ў італьянскі фільм 50—60-х гадоў тыпу «La strada»: вялікая пустка, усе хаты згарэлі, тырчаць адны каміны, наўкола ні душы. Пасярэдзіне дзядок і босая дзяўчынка, апранутая не па ўзросьце. Абое плачуць і сьмяюцца. Нарэшце дзядок кажа: «Галінка, давай мы

з табой зьямо кавалак хлеба». Прапанова зьесьці хлеб была вельмі незвычайнай. Зупы было досыць, але хлеб быў дакладна разьлічаны на тры асобы. Нашы порцыі зупы мы зь дзедам зьядалі адразу, а хлеб ён акуратна дзяліў на тры часткі, і елі мы яго пасьля таго, як цёця, галодная як воўк, вярталася з тэатру. Цяпер мы зь вялікім смакам закусілі і паволі пайшлі дахаты.

Так цяжка было ў той вечар дачакацца цёцю Барбару. А калі яна нарэшце прыйшла, то некалькі разоў перачыталі дзядзін даўжэзны ліст і адчынілі пакунак. Там быў кавалак сала, цукар, нейкія сухарыкі й нешта цёплае з адзеньня.

Калі ўсе крыху супакоіліся, пачалі здагадвацца, адкуль дзядзя даведаўся наш адрас? І тады цёця прыпомніла, што некалькі месяцаў таму яна была запрошаная да знаёмых і там пазнаёмілася з спадаром Сядурам, які прыехаў у Менск з Рыгі. Цёця яму расказала, што даўно згубіўся ейны старэйшы брат і яна ня ведае, дзе й як яго шукаць. А спадар Сядура кажа: «Я ў Рызе выдаю беларускі часапіс. Давайце зьмесьцім там абвестку». Цёця там жа напісала на кавалку паперы: «Бацька Іван Давідавіч Ганчарэнка й сястра Барбара Вержбаловіч шукаюць Аляксандра Ганчарэнку». І падала наш адрас. Сп. Сядура вярнуўся ў Рыгу, а цёця й забылася пра гэта.

Працяг гісторыі мы даведаліся ўжо ад дзядзі. У Беластоку, дзе ён жыў і працаваў адвакатам, ён, як кожнай раніцы, падышоў да газэтнага кіёска, купіў сваю газэту, але не адышоў, як звычайна, а прысланіўся да дрэва й пачаў яе праглядаць. А тады ізноў заглянуў у кіёск і пабачыў там нейкі часапіс. Запытаўся, што гэта за часапіс? Прадавец сказаў, што гэта стары бела-

рускі часапіс, які ў яго заляжаўся. Дзядзя яго купіў, а там была абвестка, што яго шукаюць, і наш адрас.

Празь месяцаў шэсьць пасьля таго, як мы атрымалі ліст, дзядзя нейкім цудам дабраўся да нас у Менск. Гэтую сустрэчу старэнькага бацькі з сынам, якога ён ня бачыў амаль 25 гадоў, я не бяруся апісваць. Памятаю толькі, што мы зь цёцяй вельмі баяліся, што дзядок не перажыве гэтую неспадзяваную сустрэчу. Але ўсё скончылася добра.

Дзядзя толькі тады даведаўся, што сталася зь ягонай сям'ёй за гэты час: памерла ягоная маці — Марыя, памёр малодшы брат Аркадзь, памёр зусім маладым цёцін муж у выніку няправільнага дыягназу. Бацька ягоны перажыў высылку. Майго бацьку расстралялі. Маму саслалі. Яшчэ пры ім ягоная старэйшая сястра выйшла замуж за багатага купца Сьмірнова і пераехала ў Маскву. Цяпер дзядзя даведаўся, што муж сястры ня мог перажыць страту ўсяго нажытага й сьпіўся. Два сыны Сьмірновых загінулі на фронце. Пра маё існаваньне ён таксама нічога ня ведаў.

Дзядзя прабыў у нас дні тры. Нагледзеўся на нашы жыцьцёвыя ўмовы й сказаў, што мы мусім абавязкова пры першай жа магчымасьці перабрацца да яго ў Беласток. Пакінуў нам вялікую суму грошай. Купляць на іх не было чаго, але пазьней яны нам вельмі прыдаліся. Так цяжка было разьвітвацца зь дзядзем, але настрой у нас палепшыўся, бо цяпер мы не адчувалі сябе такімі бездапаможнымі.

Жыцьцё ў Менску рабілася жахлівым. Партызаны забівалі немцаў і беларускіх дзеячаў.

Немцы адказвалі на гэта расстрэлам або павешаньнем ні ў чым не павінных людзей. Сотнямі паміралі савецкія ваеннапалонныя ад голаду й холаду. Спачатку нямецкая ахова яшчэ дазваляла жыхарам кідаць ваеннапалонным ежу праз калючы дрот, але пазьней немцы пачалі страляць у тых, хто гэта рабіў. А калі праз горад вялі эшалён ваеннапалонных, дык уся вуліца аказвалася ўсланая трупамі ці тымі, што падалі, бо ня мелі сілы ісьці далей.

У Менск прывезьлі шмат габрэяў з Польшчы й з Заходняй Беларусі. Гэтыя людзі былі куды лепш апранутыя, чым нашыя землякі, і на вопратцы мелі ня жоўтыя латкі, а жоўтыя зоркі Давіда. Яны спадзяваліся на лепшыя адносіны да іх з боку немцаў. Ой, як яны памыліліся! Падчас пагромаў немцы не рабілі ніякай розьніцы.

У горадзе зьявілася шмат эсэсаўцаў. Іх усе баяліся. Яны пачалі шнырыць па хатах і пад выглядам вобыску забіралі ўсё, што магло ім прыдацца. А калі ўжо ў каго былі куры, то хапалі іх адразу.

22 чэрвеня 1943 году ў Менску адзначалі стварэньне СБМ — Саюзу беларускай моладзі. У гэты дзень каля паўдня ў будынку Гарадзкога тэатру адбылася ўрачыстасьць, на якой выступаў гаўляйтар Вільгельм Кубэ. Падчас прамовы над ягонай галавой з гукам трэснула электрычная лямпачка. Ён паглядзеў угару й працягваў гаварыць.

Вечарам у тым жа тэатры павінна была ісьці опэра Міколы Шчаглова «Лясное возера». Цёця Барбара грала там ролю свацьці. Яна пачала зьбірацца. Раптам прыбягае нейкі малады чалавек і кажа, што опэра адмяняецца, будуць

даваць драматычны спэктакль. Праз хвілін дваццаць прыбягае іншы хлопец і кажа, што ўсё-ткі будзе опэра. Цёця пабегла ў тэатар, а па дарозе яе перахапіў той першы хлопец і сказаў, каб вярталася: будзе ісьці п'еса «Паўлінка». Цёця вярнулася дадому.

У часе паказу п'есы ў тэатры ўзарвалася бомба, закладзеная партызанамі. Загінула каля дзесяці чалавек, некалькі дзясяткаў былі параненыя. Загінуў і Яраслаў Кушаль — старэйшы сын Натальлі Арсеньневай і Францішка Кушаля. Усе ахвяры былі пахаваныя на Вайсковых могілках, калі не памыляюся, у адной магіле.

Гэтая падзея пакінула два пытаньні, на якія я ня маю адказу. Ці не было задумана гэта ўсё як замах на гаўляйтара Кубэ падчас яго прамовы? А па-другое: хто паклапаціўся пра тое, каб на сцэне была ня опэра, а п'еса? У опэры ж звычайна занята больш артыстаў, там граюцца масавыя сцэны з хорам, грае жывы аркестар.

А гаўляйтару Кубэ заставалася пражыць яшчэ некалькі месяцаў — бомба, падкладзеная пад яго ложак у верасьні, гэтым разам спрацавала.

14 сьнежня 1943 году памёр мой дзядок. У яго апошні дзень трывогу я адчула яшчэ ў школе, адпрасілася й пабегла дадому. Дзядок клікаў мяне: «Галінка, Галінка!», а хвілін праз колькі памёр. Пахавалі яго на Вайсковых могілках. Падчас паніхіды сьпяваў імправізаваны хор з опэрных салістаў. У дзень паховін у Менску быў страшэнны галалёд, да могілак дабраліся зь вялікімі цяжкасьцямі.

На пачатку 1944 году было ясна, што немцы адступаюць. Усе вуліцы ў нашым раёне былі застаўленыя бруднымі вайсковымі аўтамі. Жаў-

неры начавалі ў гэтых аўтах, а калі пацяплела — спалі на зямлі пад імі.

Мы пачалі задумвацца, а што ж будзе з намі? Тры гады таму «родная» партыя і ўрад не паклапаціліся аб тым, каб уратаваць нас ад нацыстаў. Тры гады мы пражылі пад нямецкай акупацыяй. Ледзь не памерлі з голаду. У міжчасе Сталін абвясьціў, што тыя, што засталіся, гэта здраднікі й калябаранты. Тое самае тычылася й ваеннапалонных: Сталін сказаў, што няма ніякіх ваеннапалонных, а ёсьць толькі ворагі народу. Гэта азначала, што як толькі вернецца Чырвоная Армія, то пачнуць нас караць. Дзядзя Саша пры разьвітаньні настойліва прасіў, каб мы пастараліся перабрацца да яго ў Беласток. Але як жа нам зь цёцяй гэта зрабіць? Разьвязка зьявілася нечакана.

# 5. Цягнік на захад

*Партызанская міна. Як мне Беласток здаўся раем. Пах кёнігсбэрскіх булачак. Тэатральная група «Жыве Беларусь» пачынае гастролі па Нямеччыне. Мая першая бэрлінская кватэра й срэбная лыжачка. Як пасьля дрэздэнскай бамбёжкі немцы пакаралі беларуса. Ратую Натальлю Арсеньневу. Губляю й знаходжу цёцю.*

У канцы чэрвеня 1944-га году цёця Барбара прыбягае дадому й кажа, што сёньня выяжджае зь Менску Цэнтральная Рада (так называўся часовы ўрад Беларусі ў часе нямецкай акупацыі). Для сем’яў даюць таварны цягнік. Артыстам тэатру могуць выдзеліць два вагоны. Куды дакладна пойдзе гэты цягнік, ніхто ня ведаў. Ясна было толькі, што пойдзе ён на захад. На роздумы не было часу. Калі нам пашанцуе, то, можа, патрапім да дзядзі ў Беласток. За нейкіх пару гадзін мы сабралі нашыя самыя каштоўныя рэчы, павязалі іх у клункі. Прыехаў сусед з падводай, пагрузілі нашыя рэчы. Месца было досыць, дык узялі з сабой нават дыван, які вісеў

на сьцяне. Прыехалі на станцыю, кінулі рэчы ў таварны вагон, у якім ужо было шмат цёціных калегаў з тэатру. Праз пару гадзін цягнік крануўся.

Пра тое, што дарога будзе доўгая й напэўна захочацца есьці, неяк ніхто не падумаў. Але гэта ня стала вялікай праблемай. Цягнік ішоў павольна, часта затрымліваўся, часам недалёка ад якой-небудзь вёскі. Так што была магчымасьць выпіць малака з хлебам ці з варанай бульбай. З вадой было горш: лета было вельмі гарачае. А з гігіенай — яшчэ складаней: мыцца не было дзе.

Празь які тыдзень дабраліся мы да Ліды. Там крыху пастаялі й паехалі далей. Дзень быў сонечны, неба блакітнае-блакітнае. Па абодва бакі густы лес. Дзьверы нашага вагону былі адчыненыя, некаторыя сядзелі зьвесіўшы ногі. Я зь сяброўкай Алай глядзела ў вузенькае акенца. Звычайна да яго нельга было б дабрацца — яно было вельмі высока, але ў нашым вагоне ўся падлога была ўсланая багажом, так што мы якраз даставалі да гэтага акна. Цягнік рабіў паварот, так што мы бачылі паравоз і ўсе тыя вагоны, што былі перад намі. Раптам бачым наперадзе чорнае воблака, там, дзе толькі што быў паравоз. А празь некалькі сэкунд — страшэнны грукат. Тыя, што сядзелі ў дзьвярах, пападалі пад адхон. Мяне з Алай кінула праз увесь вагон. Цягнік стаў.

Аказалася, што цягнік наляцеў на міну. Адразу за паравозам былі прычэпленыя пустыя плятформы. Яны першымі пайшлі пад адхон. Тады перакуліліся некалькі вагонаў зь людзьмі. А той вагон, што быў перад нашым, урэзаўся ў

зямлю. Так што й наш вагон, і тыя, што былі за намі, засталіся на рэйках.

Паніка была страшэнная. Міну падклалі партызаны, і ўсе чакалі, што зараз яны па нас прыйдуць. Але ці таму, што з намі не было ніводнага немца, ці таму, што не было ніякай зброі, або проста таму, што гэта была нейкая забытая міна, партызаны на нас не напалі. Мы заначавалі там на месцы, сярод лесу, а на другі дзень наш цягнік адцягнулі назад у Ліду. Праз некалькі гадзін мы зноў былі ў дарозе.

Прайшло яшчэ некалькі дзён. Цягнік затрымаўся ў полі. Наперадзе вырысоўваўся нейкі горад. Цёця запыталася, ці ня ведае хто-небудзь, дзе мы знаходзімся? Нехта сказаў: «Гэта, здаецца, Ваўкавыск». Падышоў адзін з акцёраў, прыгледзеўся й сказаў: «Гэта Беласток». Цёця як падскочыць: «Што вы кажаце? Беласток?» — «Так, я ў Беластоку быў раней, я яго пазнаю вунь па тых касьцёлах».

Ніхто ніколі ня ведаў, як доўга цягнік будзе стаяць. І як толькі мы саскочылі, нам усьлед выкінулі нашы клункі — цягнік пайшоў далей, а мы засталіся. Наўкола ні душы. Але хутка пад’ехала падвода. Мы з заміраньнем сэрца спыталіся на ўсялякі выпадак, што гэта за горад на гарызонце? Селянін-паляк сказаў: «То Бялысток». І згадзіўся давезьці нас на Паркову вуліцу № 6, да дзядзі.

Дзядзя Саша і ягоная жонка Аліса, напалову немка, вельмі ўсьцешыліся, але адначасна спалохаліся таго, як мы выглядалі. Адзеньне нашае было такое бруднае, што яго спалілі, а нас спачатку адмылі, а тады апранулі ў нешта іхняе.

Я вырашыла, што мы трапілі ў рай! Хата двух-

павярховая, цагляная. У хаце з кранаў льецца халодная й гарачая вада. Туалет тут жа ў хаце, а не далёка ў двары, як у Бабруйску ці ў Менску. На ўсіх вуліцах асфальт. Усюды чысьціня. У парку шмат ружаў і іншых кветак, і ніхто іх не зрывае. Праўда, на лаўках у парку напісана: «Nur für Deutsche» («Толькі для немцаў»). Такога ў Менску не было.

Пражылі мы ў гэтым раі ўсяго два тыдні. Фронт набліжаўся. Дзядзю з жонкай накіравалі ў Лодзь. Нам зь імі нельга было ехаць. Нам сказалі, каб мы даганялі нашую групу, якая спынілася ў Кёнігсбэргу. Разьвітаньне зь дзядзем было апошнім: хутка пасьля гэтага ён памёр на сухоты. У Беластоку мы пакінулі амаль усе нашыя рэчы. Узялі з сабой толькі тое, што маглі падняць.

Да Кёнігсбэргу даехалі без прыгодаў. Гэта быў першы нямецкі горад, які мы пабачылі. Горад вельмі стары і тады яшчэ не разьбіты. Але не ягоная прыгажосьць засталася ў маёй памяці, а пах сьвежых белых булачак. На адной з галоўных вуліц знаходзілася хлебная крама, і адтуль гэты пах ішоў. Купіць там мы не маглі нічога, бо хлеб і булкі прадаваліся толькі на прадуктовыя карткі, а іх у нас не было. Хаця з таго часу прайшло больш за 65 гадоў, я і цяпер, як толькі ўваходжу ў краму, дзе пахне сьвежым хлебам, успамінаю Кёнігсбэрг і тыя галодныя часы.

Пайшлі мы ў нейкую ўстанову спытацца, дзе знаходзіцца група зь Менску. Аказалася, што іх у Кёнігсбэргу няма: іх адправілі ў Бэрлін. У Бэрліне мы іх нарэшце знайшлі. Іх разьмясьцілі ў палацы Дэльфі. Для нас зь цёцяй там знайшлося месца. Як я ўжо казала, гэта былі пераважна

супрацоўнікі Цэнтральнай Рады й іхнія сем'і. Ім неўзабаве прызначылі чатырохпавярховы будынак, куды яны і пераехалі. Цёця ніякага дачыненьня да Цэнтральнай Рады ня мела, так што мы засталіся ў палацы Дэльфі. Але ненадоўга. Гэты палац трэба было вызваляць: ён спатрэбіўся немцам. Сытуацыя нашая была незайздроснай: цёця нямецкай мовы наагул ня ведала, а я ведала толькі тое, што нас пасьпелі навучыць у прагімназіі. А гэта было няшмат. Хаця мы мелі пры сабе нямецкія грошы, купіць на іх мы нічога не маглі без прадуктовых картак. Карткі выдавалі на месцах працы або ва ўстановах, калі хто да іх належаў. А наш статус быў няясны: мы не былі прымусова вывезенымі, але ніхто нас сюды й не запрашаў. Трапілі мы ў Бэрлін выпадкова.

Цёця даведалася, што на Інвалідэнштрасэ ёсьць арганізацыя «Вінэта», якая набірае артыстаў (сьпевакоў, танцораў, музыкаў), арганізоўвае тэатральныя групы, якія маюць даваць канцэрты ў лягерах для прымусова вывезеных людзей («остаўцаў»). У «Вінэце» вельмі прыхільна паставіліся да цёці і да трох танцорак Менскага тэатру, зь якімі яна туды пайшла. Справа ў тым, што рускіх групаў ужо было некалькі, украінскіх таксама, а беларускай не было ніводнай. Да іх далучыўся актор Аўген Кавалеўскі й рэжысэр Іван Кір'янаў з жонкай Зінай (ён — рускі, яна — беларуска з Барысава). Не ўдалося ўкамплектаваць групу выключна беларускімі артыстамі, а таму яе дапоўнілі артыстамі рускімі з умовай, што рэпэртуар мае быць выключна беларускі. Не абышлося без кур'ёзаў. Адна руская сьпявачка ніяк не магла вымавіць слова «яшчурок». У яе атрымлівалася

«яшчюрок». Або: «А Лявоніху Лявон палюбіл, Лявонісе чаравічкі купіл». Нарэшце дамовіліся, што тыя, хто ня ведае нашай мовы, будуць прыслухоўвацца да тых, хто яе ведае.

Беларускай групе прызначылі адміністратара, рускую немку Веру Міхайлаўну, і група адправілася ў турнэ. Спачатку яны выяжджалі на пару тыдняў, тады вярталіся, аднаўлялі рэпэртуар — і ізноў у дарогу. Цяпер ужо вярталіся не раней, чымся праз месяц.

Утрыманцы, пэўна ж, заставаліся ў Бэрліне. Жылі мы ўсе ў будынку «Вінэты». Нам выдалі прадуктовыя карткі. Я ўвесь дзень боўталася па Бэрліне. Увосень і зімой вельмі мерзла: не было цёплага адзеньня, а на нагах былі зробленыя шаўцом яшчэ ў Менску басаножкі на высокіх абцасах і на драўлянай падэшве. Шавец той быў вялікі майстар: падэшва была зробленая з трох кавалкаў, нечым замацаваных, так што яна згіналася. Час ад часу заходзіла ў вялікі ўнівэрмаг. Пагрэюся — і зноў на вуліцу. Пазьней запісалася на курс нямецкай мовы пры ўнівэрсытэце. Курс гэты быў для дарослых. Мне было 14 гадоў, але выглядала я шмат старэйшай. Відаць, «шчасьлівае» дзяцінства наклала пячатку на твар. Я сказала, што мне 18 гадоў, і мяне прынялі.

Праца артыстаў была вельмі цяжкая. Езьдзілі яны цягнікамі, па дарозе ўсё часьцей бамбілі. У такім выпадку цягнік спыняўся, усе мусілі выбегчы зь яго, часам проста пад адхон або ў поле. Цёцю ў дарозе параніла ў калені. Але найгорш было тое, што цягнік давозіў тэатральную групу да якога-небудзь гораду, а адтуль яны мусілі пешшу дабірацца да лягера, дзе меліся выступаць, і цягнуць на сабе строі, ноты, асабістыя рэчы.

Узнагародай за ўсе гэтыя цяжкасьці было тое, як гэтую групу там прымалі. Людзі плакалі, не адпушчалі артыстаў са сцэны. Некаторыя мелі пры сабе беларускія нацыянальныя строі. Я да гэтага часу перахоўваю саматканую спадніцу і чаравікі, якія адна жанчына падаравала цёці ў часе гэтых падарожжаў.

Цяжкія абставіны вельмі зблізілі ўсіх артыстаў беларускай групы, якую назвалі «Жыве Беларусь». Калі напачатку рускія калегі скептычна ставіліся да беларускага рэпэртуару (яны проста ня ведалі, якія ў нас прыгожыя песьні і танцы), то з часам яны так захапіліся нашай музыкай, што ўжо не прабавалі «працягнуць» у праграму рускія рамансы ці частушкі. Апрача таго, яны зразумелі, што працуюць ва ўнікальнай трупе, адзінай на ўсю гэтую вялізарную арганізацыю. І вымаўленьне ў іх палепшылася, яны спрабавалі часам нават гаварыць паміж сабой па-беларуску.

Канцэртаў даводзілася даваць вельмі шмат, бо ў кожным лягеры для прымусова вывезеных на працу ў Нямеччыну было шмат беларусаў. Гэтае мерапрыемства было задумана немцамі дзеля прапагандысцкіх мэтаў: каб людзі лепш працавалі. Але карысьці для немцаў не было ніякай. Наадварот, бедныя, прымусова вывезеныя з родных месцаў, пераважна маладыя людзі яшчэ больш сумавалі па сваіх блізкіх і толькі й марылі вярнуцца хутчэй дадому.

У канцы 1944-га году немцы вырашылі, што ўсіх утрыманцаў (гэта былі пераважна бацькі і дзеці артыстаў) можна выкарыстаць як працоўную сілу. І вось раптам выйшаў загад, што ўсіх утрыманцаў перасяляюць у лягер у горадзе

Вольфэн на паўдзённы ўсход ад Бэрліну. У Вольфэне было шмат розных фабрыкаў. Гэтае мерапрыемства падрыхтавалі сакрэтна, а на зборы далі тры дні. Цёця Барбара была ў роспачы. Мы зь ёй не разлучаліся ад красавіка 1938-га году, калі саслалі маю маму й я засталася круглай сіратой. Яна з жахам уяўляла сабе, як я ў свае 14 гадоў буду працаваць на фабрыцы, ды яшчэ ў горадзе, які бясконца бамбілі. Апрача таго, амаль усе дзеці мелі бабцю ці дзеда, а я б там была сама.

Але што было рабіць? Кіраўнікі «Вінэты» адразу далі зразумець, што выняткаў ня будзе: загад распаўсюджваецца абсалютна на ўсіх утрыманцаў. Але сказалі, што калі цёця знойдзе мне месца ў каго-небудзь на прыватнай кватэры, то яны дазволяць мне застацца ў Бэрліне. Але Бэрлін ужо тады быў вельмі разьбіты, і было вельмі цяжка знайсьці дзесьці пакой.

Мы выйшлі на вуліцу і не пасьпелі зрабіць некалькі крокаў, як пабачылі, што адзін чалавек вешае нейкую абвестку ў шкляной вітрыне, прызначанай для гэтага. Спыталіся, ці няма ў яго абвесткі наконт пакойчыка. Аказалася, што тое, што ён трымаў у руцэ, была абвестка пра здачу пакоя, зусім блізка ад таго месца, дзе мы жылі. Гэты чалавек, відаць, зразумеў, што для нас гэта было балючае пытаньне, і даў нам гэтую абвестку разам з адрасам. Мы не пайшлі, а пабеглі туды.

Гэта быў зусім цёмны, як і ўся кватэра, пакой. Абсалютна пусты. Здавала яго старэнькая пара. Адразу было відаць, што яны не былі захопленыя тым, што ў іх будзе жыць чужынка. Але як толькі цёця сказала, што заплаціць у два

разы больш, чым яны прасілі, то ўсе сумлівы разьвеяліся. Вось калі прыдаліся грошы, якія нам даў дзядзя.

Я і далей цэлы дзень бадзялася па Бэрліне, бо ў маім пакоі не было ніякай мэблі: ні ложка, ні стала, ні крэсла. Я спала на голай халоднай падлозе.

Гэтае маё адноснае «шчасьце» трывала нядоўга. Мае гаспадары недалічыліся адной срэбнай лыжачкі й вырашылі, што я яе ўзяла. Я як магла тлумачыла ім, што мне іхняя лыжка абсалютна непатрэбная. Я некалькі разоў вытрэсвала свае нешматлікія рэчы, а яны цьвердзілі, што гэта я тую лыжку ўкрала. Мая бедная цёця, што яна тады перажыла!

Справа была ў тым, што ў часе вайны ў Нямеччыне кожны крадзеж караўся расстрэлам. Усе мы добра памяталі, што сталася ў Дрэздэне. Там жыў наш беларускі сьвятар айцец Балай з жонкай і сынам. Аднойчы сын паехаў да дзяўчыны, а ў міжчасе пачалася тая страшэнная бамбёжка. Ангельцы ўпершыню кідалі фосфарныя бомбы. У часе таго налёту загінулі тысячы жыхароў Дрэздэну, а ад самога гораду мала што засталося. Калі бамбёжка скончылася, сын айца Балая ведаў, што бацькі ягоныя вельмі хвалююцца, бо баяцца, што зь ім нешта сталася. Даць ім вестку не было ніякай магчымасьці, транспарту таксама не было ніякага. Ён пабачыў каля аднаго разьбітага будынка абгарэлы ровар. Сеў на яго й праз некаторы час дабраўся да бацькоў, а ровар гэты пакінуў каля хаты. Нехта пабачыў, выклікаў гестапа. Сын айца Балая растлумачыў, што гэта быў за ровар і чаму ён яго ўзяў. Яго ўсё

роўна арыштавалі й праз два дні расстралялі. Тое самае магло стацца й са мной.

Але, на маё вялікае шчасьце, якраз у гэты час да нас прыехала на пару дзён жонка майго дзядзі з Польшчы. Яна дасканала ведала нямецкую мову. Яна зь цёцяй паказала, што мы маем свае срэбныя лыжкі. А немцы настойвалі на сваім. Пазьней яны ўсё-ткі прызналіся, што лыжка знайшлася: старушэнцыя выпадкова выкінула яе ў сьмецьце.

Пасьля гэтай авантуры цёця ўжо не магла пакінуць мяне ў гэтых немцаў. Яна паехала ў Вайсэнзэе, дзе разьмясьцілася Цэнтральная Рада, і ўпрасіла «міністраў» выдзеліць мне хоць маленькі куток, а яна зноў мусіць ехаць з групай «Жыве Беларусь». Цёця прыпомніла ім, што працуе яна не для сваёй карысьці, а фактычна робіць вялікую беларускую справу. Урэшце мяне ўзялі, хоць і вельмі неахвотна. «У нас і так мала месца».

На пачатку 1945-га году Саветы захапілі Вольфэн. Усіх тых, каго перавезьлі з Бэрліну, вывезьлі ў Савецкі Саюз. Некаторым удалося застацца на Беларусі, але бальшыню павезьлі ўглыб Савецкага Саюзу.

У нашага рэжысэра Кір'янава было двое дзяцей: васьмігадовая дзяўчынка і чатырохгадовы хлопчык. Зь імі паехалі ў Вольфэн цешча Кір'янава і ейны неафіцыйны муж, паляк. Чаго толькі гэтыя бедныя бацькі ні прадпрымалі, каб знайсьці сьлед дзяцей пасьля вайны. Яны зьвярталіся ў Чырвоны Крыж і ў розныя міжнародныя арганізацыі. Вынікаў не было ніякіх. У 1946-м годзе Кір'янаў з роспачы павесіўся на дрэве ў

Рэгенсбургу, а жонка Зіна хварэла шмат гадоў на сухоты. Вылечылі яе ў санаторыі ў Швэцыі.

Гадоў праз сорак пасьля заканчэньня вайны яна знайшла сваіх дзяцей у Польшчы. Мужу ейнай маці, паляку, удалося саскочыць на тэрыторыі Польшчы зь цягніка, які вёз іх у Савецкі Саюз. На вялікі жаль, амаль 90-гадовая маці Зіны памерла год перад тым, як Зіна іх знайшла. Дачка Зіны ўжо сама мела ўнукаў.

Бэрлін бамбардавалі штоночы. Як толькі пачыналі выць сырэны, усе хаваліся ў падвал. Аднаго разу я вельмі моцна заснула і доўга бачыла ў сьне нейкія страхі. Усё наўкола грукатала, падалі вялікія будынкі, і раптам — сырэна. Я скочыла з ложка й пабегла ўніз, а мне насустрач усе ўжо падымаліся з бамбасховішча. Гэта я праспала вялікую бамбёжку і прачнулася, толькі калі быў адбой.

У лютым 1945-га году ад цёці прыйшла тэлеграма, здаецца, зь Вены. Цёця пісала, што група «Жыве Беларусь» ня можа вярнуцца ў Бэрлін і што я мушу выбірацца з Бэрліну сама.

Цэнтральная Рада пачала рыхтавацца да ад’езду. Адзіная магчымасьць пакінуць бэрлінскае пекла — цягнік. Чыгунка яшчэ працавала, хоць і зь вялікімі перабоямі. Каб купіць білет на цягнік, патрэбная была нейкая пасьветка. У Цэнтральнай Радзе былі адпаведныя фармуляры. Іх трэба было падпісаць і паставіць пячатку. Я паказала цёціну тэлеграму, сказала, што я мушу ехаць зь імі, і папрасіла, каб мне выдалі тую пасьветку. Але наш зямляк Сымон Кабыш-Кандыбовіч, які займаў высокае становішча ў Цэнтральнай Радзе і ў якога на стале ляжаў цэлы стос тых фармуляраў, буркнуў, што

ён ня мае часу. Мне трэба было закаціць там гістэрыку. Яны б, можа, напалохаліся і выдалі мне тую паперку. Я гэтага не зрабіла.

Нехта мне сказаў, што ёсьць адна ўстанова, дзе жыхарам Бэрліну выдаюць дазвол на куплю білета на цягнік. Знаходзіцца гэтая ўстанова на пляцы Anhalter Bahnhof. На наступны дзень я туды паехала. Гэта быў даўгі барак. Там стаяла шмат столікаў, за кожным сядзеў урадовец. Пакуль я выбірала сабе асобу больш сымпатычную, завыла сырэна, і ўсе пабеглі ў бамбасховішча. Па дарозе туды я выпадкова сустрэла нашу паэтэсу Натальлю Арсеньневу. Мы зь ёй разам спусьціліся ў станцыю мэтрапалітэну. У тым месцы станцыя была двухпавярховая. Мы пайшлі на ніжэйшы паверх. У часе налёту падавалі пустыя цягнікі мэтро. У іх можна было выгодна сядзець. Мы ўжо адразу адчулі, што гэтая бамбёжка была нейкая асаблівая. Па-першае, было яшчэ сьветла, па-другое, яна вельмі доўга трывала. Мы адчувалі, што бомбы рвуцца проста над намі. Адна бомба прабіла два паверхі, але яна, відаць, не разарвалася. Калі згасла сьвятло, а праз наш вагон праляцеў мужчынскі капялюш, то стала вельмі страшна.

Урэшце бамбёжка скончылася, і я наіўна падумала, што цяпер нарэшце дастану доўгачаканую паперу. Мы выбраліся на паверхню і пабачылі, што бараку, дзе выдавалі дазволы, ужо няма: пустое месца! Усё наўкола гарыць, уключна зь люксусовым гатэлем «Экзэльсіёр». Хоць гэта яшчэ быў дзень, але ад дыму зрабілася зусім цёмна. Нам нічога не заставалася, як пачаць дабірацца дадому. Транспарту, ясна, не было ніякага. На вуліцах стаялі пабітыя

трамваі, ляжалі слупы, цэгла, электрычныя правады. Маставыя былі пашкоджаныя бомбамі. Натоўп людзей накіроўваўся ў адзін бок. Мы за імі. Раптам усе павяртаюць назад: там не прайсьці. Прабавалі другі напрамак — тое самае. Нарэшце знайшлі вуліцу, дзе на адным баку дагаралі высокія будынкі, а з другога боку была рэчка. З-за дыму цяжка было дыхаць. Твары мы закрылі каўнярамі паліто. Я прабіралася першай. Натальля Арсеньнева за мной. Я ўвесь час аглядалася, ці ідзе яна ззаду. Раптам бачу, што яе няма. Я — назад, яна заблыталася ў правадах і ўпала. Я ёй дапамагла выбрацца, і як толькі мы прайшлі некалькі мэтраў, фасад будынка рухнуў на вуліцу й падмяў пад сабой ня ведаю колькі дзясяткаў людзей.

Бэрлін — горад вялізарны. У той дзень бамбілі якраз той раён, дзе мы знаходзіліся, а на пэрыфэрыі было адносна ціха і зусім сьветла. Мы не адразу зразумелі, чаму людзі ўсьміхаюцца, гледзячы на нас. Аказалася, што ня толькі нашае адзеньне было падранае й валасы ўскудлачаныя, але і твары зусім чорныя.

Праз два дні быў наладжаны працэс выдачы пасьветак. Я дастала дазвол без праблемаў. Урадовец толькі спытаўся, колькі мне гадоў і з кім я зьбіраюся ехаць. Я сказала, што мне 14 гадоў і я нікога ў Бэрліне ня маю. Я купіла білет на цягнік і цяпер магла ехаць разам з усімі.

Усе станцыі ў Бэрліне былі ўжо разьбітыя, і да цягніка трэба было доўга дабірацца. Я спакавала ў дзьве вялікія валізкі столькі рэчаў, колькі магла несьці, рэшту пакінула. Дапамагаць мне не было каму: кожны цягнуў свае рэчы. Цягнік

ішоў на поўдзень, і празь некаторы час мы апынуліся ў Бавaрыі.

Зь цёцяй Барбарай я разгубілася. Цяпер яна ўжо ня ведала, дзе я. А ейная тэлеграма была без зваротнага адрасу. Дапамог выпадак: да Натальлі Арсеньневай і ейнага мужа Францішка Кушаля прыехалі знаёмыя й сказалі, што ў чэскім горадзе Эгеры (Хеб) яны спаткалі беларускую групу «Жыве Беларусь», якая затрымалася там у гатэлі «Барбароса».

Я вырашыла паехаць туды шукаць цёцю. Знаёмыя не хацелі мяне адпушчаць, але я іх не паслухала. У Баварыі непатрэбныя былі дазволы на цягнік, але білеты прадавалі толькі на 100 кілямэтраў, а ехаць мне трэба было кілямэтраў чатырыста. Праедзеш сто кілямэтраў, выйдзеш зь цягніка, купіш білет на наступныя сто кілямэтраў. Цягнік, пэўна ж, пайшоў далей. Перад касамі былі вялікія чэргі. Тады чакаеш на наступны цягнік. Раскладу ніякага не было.

У Эгеры станцыя таксама была разьбітая. Цягнік затрымаўся ў полі. Усе мусілі выйсьці. Цямнела. У мяне цяжкая валізка. Я ізноў спакавала найважнейшыя рэчы, а рэшту пакінула. Пасажыраў у цягніку было шмат, амаль усе без багажу. Усё больш асобаў мяне абганяюць, я ўвесь час аглядаюся: ці я не астатняя. Агледзелася яшчэ раз і бачу, што за мной нікога ўжо няма. Але ўпоцемку я й не заўважыла, што я ўжо ў горадзе Эгер. Усюды цёмна, хоць вока выкалі. Так было ўва ўсіх гарадах падчас вайны. Зайшла ў мясцовую піўнушку й спыталася, ці ёсьць у гэтым горадзе гатэль «Барбароса»? Ёсьць! Каля самай станцыі. Усяго некалькі будынкаў далей. Падыходжу, сэрца б’ецца, бо невядома, ці

артысты яшчэ тут. Адчыняю цяжкія дзьверы, а па сходах з другога паверху спушчаецца артыстка Ірэна Жылінская. Яна як ускрыкне: «Чакай, не ідзі адразу да цёці. Яна ў роспачы, плача дзень і ноч, бо ня ведае, дзе цябе шукаць. Яшчэ атаку сэрца дастане. Я пайду да яе й скажу, што прыйшоў ліст ад Галінкі. А тады ўжо цябе прывядзем». Так мы гэта й зрабілі. Сьвяткавалі мой прыезд да рана. Больш зь цёцяй Барбарай мы не разлучаліся да самай ейнай сьмерці ў 1967-м годзе.

Разам з тэатральнай групай «Жыве Беларусь» мы перабраліся ў паўдзённую Баварыю, у горад Амбэрг. Жылі там вельмі спакойна, вайны там зусім не адчувалася. Ужо цэлы год я не хадзіла ў школу. У нямецкія школы чужынцаў не прымалі. Цёця наняла рэпэтытара-інжынэра, які даваў мне лекцыі матэматыкі. Я знайшла нейкія дапатопныя падручнікі ангельскай і францускай моваў і вывучвала па 200 слоў у дзень. Але вымаўленьне ў мяне было жахлівае.

# 6. Мае лягеры, мае ўнівэрсытэты

*Амэрыканцы й Саветы ў Баварыі. «Радзіма чакае, Радзіма ўсё даравала». Праўда пра цягнікі, якія адыходзілі на ўсход зь песьнямі. Як Мінск-Мазавецкі стаў маёй радзімай. Кухар, які купаўся ў нашай зупе. Беларуская гімназія імя Янкі Купалы.*

На пачатку траўня 1945-га году Баварыю занялі амэрыканцы. Тут на фабрыках і ў вёсках працавала шмат прымусова вывезенай моладзі. Ясна, што ўсе яны сумавалі па сваіх родных і марылі як найхутчэй вярнуцца дадому. А прадстаўнікі савецкай рэпатрыяцыйнай місіі тут як тут. Пачалі агітаваць, каб вярталіся хутчэй. «Радзіма чакае, Радзіма ўсім усё даравала!» Пачаліся спрэчкі: «Што нам Радзіма даравала? Нас жа прымусова сюды прывезьлі! Шмат каго з нас немцы проста схапілі на вуліцах!» Мала хто з гэтай моладзі ведаў, што Сталін абвясьціў усіх, хто працуе ў Нямеччыне, здраднікамі радзімы.

Мы бачылі, як адыходзілі на ўсход першыя

цягнікі: музыка, танцы, сьпевы, добры настрой. Мушу прызнацца, што й у нас зь цёцяй засеў у душу сумліў: а ці ня мусім і мы вярнуцца? Маму засудзілі на восем гадоў, праз год яе звольняць.

Пакуль мы сур'ёзна думалі над гэтым пытаньнем, да нас данесьліся чуткі, што як толькі цягнікі дайшлі да чэскага гораду Пільзен, дзьверы вагонаў шчыльна забілі, і адтуль цягнікі ўжо ішлі пад савецкай аховай, каб ніхто ня ўцёк. Спачатку мы паставіліся скептычна да гэтых чутак: ня можа такога быць! Але весткі прыходзілі ўсё страшнейшыя: цягнікі нават не затрымліваліся на Беларусі, а накіроўваліся ўглыб Савецкага Саюзу. Мужчын аддзялялі. Калі так распраўляліся з тымі, каго сапраўды прымусова вывезьлі, дык што ж будзе зь цёцяй, якая тры гады сьпявала ў тэатры ў часе нямецкай акупацыі?! Не для немцаў, не! Для сваіх. Але ці гэта ўлічаць?

Тым часам у Паўдзённай Нямеччыне пачала працаваць міжнародная арганізацыя UNRRA (United Nations Relief and Rehabilitation Administration) — адміністрацыя Аб'яднаных Нацыяў для дапамогі й адбудовы.

Ніхто ня ведаў дакладна, колькі чужынцаў засталося ў Нямеччыне. Пачалася рэгістрацыя. У нас зь цёцяй розныя прозьвішчы, таму мы мусілі рэгістравацца ў розных чыноўнікаў. Пытаньні былі вельмі простыя: імя й прозьвішча, дата й месца нараджэньня. Дакумэнтаў у нас ніякіх не было, а таму лёгка можна было зьменшыць ці дадаць сабе гады, зьмяніць прозьвішча. Кампазытар Шчаглоў зьмяніў прозьвішча на Куліковіча, беларускі дзеяч Калубовіч стаў Каханоўскім, і г.д.

Я замест Бабруйску паставіла месцам нараджэньня Мінск. А Саветы тым часам ня спалі. Добраахвотна ўжо ніхто не хацеў вяртацца ў Савецкі Саюз, а ўцекачоў былі тысячы ў Нямеччыне. Прадстаўнікі савецкай рэпатрыяцыйнай місіі пачалі пераконваць амэрыканскія вайсковыя ўлады, што гэта ўсё калябаранты й наагул злачынцы. І што амэрыканцы мусяць выдаць іх Саветам. Урэшце амэрыканцы згадзіліся паказаць прадстаўнікам савецкай місіі картатэку ўцекачоў у Баварыі. Шмат хто з Усходняй Беларусі быў разумнейшы й адразу зьмяніў месца нараджэньня на Польшчу, Баўгарыю, Югаславію. Але некаторыя, як я, падалі праўдзівыя дадзеныя. Саветы адабралі карткі ўсіх, хто нарадзіўся ў Савецкім Саюзе, і сказалі: «Гэтых асобаў вы мусіце аддаць нам».

Аднойчы прыйшоў да нас вельмі ўсхваляваны француз мэсьё Сінье, супрацоўнік УНРРы, паклікаў мяне й сказаў, каб я заўтра ж пайшла туды, дзе я рэгістравалася, і сказала, што я памылкова ня так напісала горад, дзе нарадзілася: гэта ня Мінск, а Мінск-Мазавецкі (горад у Польшчы). Я зрабіла так, як сказаў мэсьё Сінье. Там мяне вылаялі: «Такая дылда, а ня ведае, дзе яна нарадзілася!». Гэты Мінск-Мазавецкі фігуруе ў маіх дакумэнтах да гэтага часу.

Арганізацыя УНРРА існавала на міжнародныя ахвяраваньні. У ёй прымалі ўдзел шмат якія краіны Эўропы, а таксама Амэрыка, Канада й Аўстралія. Найбольш сродкаў ішло з Амэрыкі. Нам давалі харчы, а час ад часу раздавалі адзеньне й абутак. І ўсё новае й прыгожае. Да гэтага часу ўцекачы разьмяшчаліся ў будынках школаў, а таксама ў пакінутых нацысцкіх уста-

новах. Пасьля пачалі арганізоўваць лягеры для так званых «перамешчаных асобаў» (Displaced Persons, скарочана Ды-Пі). Разьдзялялі ўцекачоў паводле нацыянальнай прыналежнасьці. Спачатку беларусаў пасялілі ў горадзе Рэгенсбург. Там жыльлёвыя ўмовы былі вельмі добрыя: будынкі з цэнтральным абаграваньнем, туалеты, гарачая вада.

На пачатку чэрвеня ў Рэгенсбургу адбылася такая падзея. У лягеры разышлася чутка, што савецкая рэпатрыяцыйная місія будзе хапаць Ды-Пі й прымусова вывозіць іх у Савецкі Саюз. Уначы ніхто ня спаў. А раніцай 4-га чэрвеня, як толькі пачулі гул грузавікоў, кіраўнікі беларускага лягера дапамаглі людзям схавацца ў полі, у кустах, у канавах. Аднак грузавікі мінулі беларускі лягер і акружылі рускі. Там арыштавалі каля сарака мужчынаў. Як толькі грузавікі ад'ехалі, на вуліцу высыпалі ўсе жыхары лягера розных нацыянальнасьцяў, і шматтысячны натоўп накіраваўся да вайсковай управы гораду Рэгенсбург. Дэманстрацыя гэтая была стыхійная. Наперадзе ішлі праваслаўныя, каталіцкія й грэка-каталіцкія сьвятары. Калёну спыніла амэрыканская вайсковая паліцыя. Усе ўдзельнікі дэманстрацыі сталі на калені. Губэрнатар пагадзіўся прыняць сьвятароў. У выніку гэтай дэманстрацыі схопленыя мужчыны на другі дзень вярнуліся ў лягер. Я ня пэўная, ці быў дзе-небудзь яшчэ такі прыклад салідарнасьці ў абароне перад небясьпекай рэпатрыяцыі ў Савецкі Саюз.

У Рэгенсбургу беларусы вельмі добра зарганізавалі сваё рэлігійнае жыцьцё. У 1946-м годзе за адзін месяц пабудавалі праваслаўную царкву.

Царква была прысьвечаная сьвятой Еўфрасіньні Полацкай. Першым настаяцелем быў протаярэй Мікола Лапіцкі.

У ліпені 1946-га году ў Рэгенсбург прыехаў япіскап Сава Саветаў, ён належаў да «праваслаўных палякаў». Беларусы не дазволілі гэтаму япіскапу служыць у іхняй царкве. Палякі моцна абурыліся на беларусаў за байкот япіскапа Савы й адмову яму служыць у беларускай царкве. Польскі камітэт у Рэгенсбургу пажаліўся аб гэтым здарэньні ў мясцовае кіраўніцтва УНРРы. 8-га ліпеня 1946-га году ўсіх беларусаў перасялілі ў вёску Міхельсдорф, каля гораду Кам, на самай чэскай мяжы. Гэта былі драўляныя баракі ў досыць дрэнным стане: без каналізацыі, электрыка была, але лямпачкі былі слабенькія, бо іначай выскоквалі пробкі. Стрэхі працякалі, зімой у бараках замярзала вада.

Нягледзячы на голад і холад, жыцьцё ў гэтым лягеры было досыць прыемнае. Лягер быў выключна беларускі. У канцы тыдня ладзіліся канцэрты самадзейнасьці, танцулькі. У праваслаўнай царкве рэгулярна адбываліся службы Божыя. Праваслаўную царкву наведвалі й каталікі, і грэка-каталікі (іх у лягеры было няшмат), усе разам сьпявалі ў царкоўным хоры. А калі прыяжджаў каталіцкі сьвятар, то й праваслаўныя хадзілі на службу й таксама сьпявалі ў хоры. Кухня была агульная. Добры кухар раз на дзень гатаваў смачную зупу ці нейкую тушонку.

Аднойчы нехта з нашага бараку мусіў пад рана пайсьці ў туалет. Ісьці трэба было праз увесь лягер. Ён заўважыў, што на кухні ўжо гарыць сьвятло, і падумаў: «Вось які старанны кухар!

Так рана пачынае гатаваць абед!». А як падышоў да акна, то пабачыў, што з катла, у якім звычайна гатавалася нашая зупа, тырчыць галава кухара: ён купаўся ў катле, перш чым пачынаць варыць абед.

Кухара гэтага ледзь не забілі. Усе наадрэз адмовіліся ад супольных абедаў. Тады адміністрацыя вырашыла выдаваць усім сухі паёк. Аднак усе прадукты, якія выдаваліся на пэўную колькасьць асобаў, цяпер трэба было дзяліць на кожнага. Выглядала гэта прыблізна так: 127 грамаў мукі, 58 грамаў цукру, 112 грамаў крупаў і г.д. Дзецям належалася крыху больш. Выдача гэтага сухога пайку ішла вельмі павольна. Каб не стаяць гадзінамі ў чарзе, людзі пакідалі кошыкі й час ад часу наведваліся, ці трэба іх падсунуць. Жартаўнікі перасоўвалі свае кошыкі наперад, пачыналіся сваркі.

Разам з усімі пераехала ў лягер Міхельсдорф і беларуская гімназія. Яна была заснаваная ў 1945-м годзе. У 1947-м годзе ёй было прысвоена імя Янкі Купалы. Як было сказана ў пастанове пэдагагічнай рады, гэта было зроблена «з мэтаю ўвекавечаньня памяці генія беларускага народу, клясыка беларускай і сусьветнай літаратуры».

Мы таксама пераехалі з Амбэргу ў Міхельсдорф летам 1946-га году. Я нарэшце ізноў пачала вучыцца пасьля двухгадовага перапынку. Мяне залічылі ў 7-ю, перадапошнюю клясу. Паміж мной і маімі аднаклясьнікамі была вялікая розьніца ў веку: усе былі старэйшыя ад мяне на тры й больш гадоў.

Умовы навучаньня ў гімназіі былі надзвычай цяжкія й складаныя. Вучыліся мы фактычна без падручнікаў. Настаўнікі пісалі для нас канс-

пэкты, якія мы мусілі хуценька перапісваць і перадаваць другім. Сытуацыя была падобная да навучаньня ў прагімназіі ў Менску падчас нямецкай акупацыі. Таксама, як і тады, увесь час хацелася есьці.

Найцікавей выкладаў беларускую мову й літаратуру Аўген Каханоўскі (Калубовіч). У вучняў гімназіі веданьне нашай мовы было рознае: у нас, усходнікаў, было шмат русыцызмаў, а ў заходнікаў — шмат палянізмаў. Каханоўскі выкладаў на беззаганнай беларускай мове. Ягоныя лекцыі былі вельмі інтэнсіўныя. Каб набыць столькі ведаў, колькі мы набылі ў гімназіі за два гады, у іншай школе спатрэбілася б гадоў пяць-шэсьць.

Другі надзвычайны настаўнік быў Мечыслаў Рагажэцкі. Ён выкладаў матэматыку. За два гады ён пасьпеў запоўніць усе нашыя прабелы з геамэтрыі, альгебры, трыганамэтрыі й дайшоў да інтэгральнага вылічэньня.

Цікава выкладаў у нашай клясе мінэралёгію доктар Аляксандар Орса, дырэктар гімназіі. Сп-ня Іна Рытэр добра выкладала нямецкую мову, а мова ангельская ў нас «кульгала».

У лягеры Міхельсдорф апынулася шмат працаўнікоў мастацтва: кампазытары Шчаглоў-Куліковіч і Равенскі, опэрныя сьпявачкі Вержбаловіч і Чамярысава, паэтэса Натальля Арсеньнева, артысты балету й драмы. Усе яны ахвотна ўлучыліся ў культурнае жыцьцё лягеру. Пад іхнім кіраўніцтвам і мы, моладзь, вучні гімназіі, прымалі актыўны ўдзел у гэтым жыцьці. Яны пісалі вершы, жартоўныя скетчы, песьні на тэмы лягернага жыцьця. Танцоркі менскага тэатру развучвалі з намі народныя танцы. Нашы

выступы мелі вялікі посьпех на частых лягерных канцэртах.

Амаль уся моладзь у лягеры Міхельсдорф належала да скаўцкай арганізацыі. Душой скаўтаў быў Вітаўт Кіпель. Міхельсдорфскія скаўты выдавалі свой часапіс «Напагатове». Там зьмяшчаліся весткі пра спартовыя спаборніцтвы, пра скаўцкія вогнішчы, пра скаўцкія зьлёты, гульні ў лесе й г.д.

У ліпені 1947-га году на зьмену УНРРы прыйшла арганізацыя IPO (International Refugee Organization) — Міжнародная арганізацыя ўцекачоў, якая пераняла апеку над лягерамі для перамешчаных асобаў (Ды-Пі).

Нашае лягернае жыцьцё працякала як і пры УНРРы. Вось толькі вельмі надакучала савецкая рэпатрыяцыйная місія. Цяпер яна націскала на тое, што шмат хто, маўляў, зьмяніў месца нараджэньня, але гэта ня так важна. Важна тое, дзе гэтыя людзі жылі перад вайной. Карацей кажучы, Саветам удалося пераканаць амэрыканскія ўлады, што трэба абавязкова праверыць, ці сапраўды тыя Ды-Пі, якія падалі ў дакумэнтах, што яны з Польшчы, Баўгарыі, Румыніі, сапраўды жылі ў тых краінах. А калі высьветліцца, што гэта няпраўда, то, значыць, яны савецкія грамадзяне, маюць нейкія пагрэшнасьці, а таму падлягаюць рэпатрыяцыі «на родину».

Мушу сказаць, што ў той час амэрыканскія ўлады не маглі добра разабрацца ў такой складанай сытуацыі, зьвязанай зь перамешчанымі асобамі. Яны мелі мала паняцьця пра наша жыцьцё ў Савецкім Саюзе да вайны, пра сталінскі тэрор, ад якога цярпела насельніцтва, а ня толькі партыйныя лідэры, якія не дагадзілі

Сталіну. Толькі шмат гадоў пазьней амэрыканцы нарэшце зразумелі, што тыя тысячы асобаў, якія апынуліся пасьля заканчэньня вайны ў Нямеччыне, пакінулі свае краіны, каб ізноў ня трапіць у сталінскае пекла. Магчыма, што ў гэтай масе перамяшчэнцаў былі й такія, што супрацоўнічалі з нацыстамі на шкоду сваім землякам, або паліцыянты, якія нажываліся пасьля кожнага пагрому ў гета. Але такія сапраўдныя калябаранты хаваліся дзесьці сярод немцаў, бо іх бы ў лягеры адразу выявілі.

Пад ціскам савецкай рэпатрыяцыйнай місіі была створаная камісія, якая неспадзявана наведала лягер. Усе «ўсходнікі», як мы зь цёцяй, вельмі хваляваліся. Але камісія выклікала ўсіх па чарзе й толькі запісвала, хто дзе жыў да вайны.

Праз некаторы час, аднак, абвясьцілі, што прыедзе яшчэ адна камісія ў складзе палякаў, баўгараў, югаславаў, якія будуць спраўджваць, ці ведаюць Ды-Пі мову тых краінаў, зь якіх яны нібыта паходзяць. Вось тут пачалася паніка. Добра яшчэ, што пра візыт гэтай камісіі абвясьцілі загадзя.

Нашыя суайчыньнікі з Заходняй Беларусі сьпешна зарганізавалі курсы польскай мовы для нас, «усходнікаў». Я да гэтага часу не магу зразумець, як гэта мая цёця Барбара, якая лёгка вывучвала вялікія опэрныя партыі, ня мела здольнасьцяў да замежных моваў. Яна, бедная, ніяк не магла запамятаць слова «siostrzenica» (пляменьніца), на выпадак, калі спытаюцца, а хто я такая.

І вось нарэшце прыйшоў гэты страшны дзень. Прыехала камісія. Цёцю меўся апытваць адзін

малады паляк. Пачалося са звычайных пытаньняў: імя, прозьвішча, прафэсія.

«Дзе вы жылі да вайны?»

«У Беластоку».

«Дык мы з вамі землякі: я таксама зь Беластоку. А дзе вы жылі ў Беластоку?»

«Паркова уліца, 6». (Гэта той адрас, дзе мы пражылі два тыдні ў майго дзядзі.)

«Пані, я жыў на Парковай вуліцы, 6, але вас там ня бачыў!»

Цёця не здавалася й падрабязна апісала яму дом, дзе жыў ейны брат, сад, парк, дзе на лаўках было напісана «Nur für Deutsche» («толькі для немцаў»). І што ж аказалася: гэты паляк быў нейкі час кватарантам у майго дзядзі ў Беластоку на Парковай вуліцы, № 6.

Цёці нічога не заставалася, як прызнацца ўва ўсім і коратка пераказаць наш жыцьцяпіс. Было відаць, што гэты чалавек шанаваў майго дзядзю, ведамага адваката ў Беластоку, а таму паставіў нам адпаведную пячатку.

Нарэшце ў 1949-м годзе амэрыканцы выкінулі савецкую рэпатрыяцыйную місію з амэрыканскай зоны, і нас пакінулі ў спакоі.

На пачатку 1948-га году ўдалося атрымаць для моладзі нашага лягера чатыры месцы на ўнівэрсытэце ў горадзе Тубінген. У красавіку нам зрабілі прысьпешаныя выпускныя іспыты, каб мы пасьпелі на пачатак сэмэстру. 17-га красавіка 1948-га году мы атрымалі дыплёмы гімназіі.

Што тычыцца мяне, то не было ніякага сумліву, на які факультэт запісацца: на мэдыцыну. Гэта было вырашана яшчэ пры жыцьці майго дзеда, бо ў вялікай дзедавай сям'і толькі лекары перажылі сталінскі тэрор.

Факультэт мэдыцыны для мяне зусім не падыходзіў. Я зь дзяцінства не магла глядзець на кроў, на раны, а калі ў калідорах унівэрсытэту пабачыла за шклом засьпіртаваныя органы ў жбанках, то аднойчы ледзь ня страціла прытомнасьць.

Ня ведаю, чым бы гэта скончылася, каб не наступная падзея. У нядзелю, у сярэдзіне чэрвеня 48-га году, абвясьцілі, што ў Нямеччыне адбываецца грашовая рэформа. Гэта значыла, што старыя райхсмаркі адразу трацяць вартасьць і кожнаму жыхару Заходняй Нямеччыны выдаецца па 40 новых нямецкіх марак. Але... атрымаць іх можна толькі на месцы сталага жыхарства. У нашым выпадку гэта быў наш лягер у Міхельсдорфе. Зь вялікімі цяжкасьцямі нам удалося купіць білеты на цягнік за старыя грошы, і ў той самы дзень мы вярнуліся ў Міхельсдорф. А на 40 новых марак мы ўжо не маглі ехаць у Тубінген вучыцца, бо білеты на цягнік і мэбляваны пакой каштавалі куды больш.

Увосень 1948-га году нас перавялі ў лягер у вёсцы Віндышбэргердорф, якая знаходзілася з другога боку гораду Кам. Сюды пераехала гімназія імя Янкі Купалы, беларускі Тэатар эстрады, скаўцкі штаб і іншыя беларускія арганізацыі. Усяго ў лягеры апынулася каля 500 асобаў. Гэта быў найгоршы лягер: баракі развальваліся й проста ўрасталі ў зямлю, таму што былі збудаваныя без фундамэнту. Пасьля дажджу лепш было наагул не выходзіць з баракаў — бруд па калена. Узімку засыпала сьнегам.

Жыцьцё ў Віндышбэргердорфе было досыць манатоннае, хаця мы й далей адзначалі нацыянальныя сьвяты, ладзілі канцэрты самадзейна-

сьці. Але таго ўздыму, які быў у Міхельсдорфе, ужо не было. Вялікай пацехай для мяне й іншых абітурыентаў гімназіі былі трохмесячныя курсы настаўнікаў ангельскай мовы, зарганізаваныя ў горадзе Ляўф каля Нюрнбэргу. На гэтыя курсы было шмат ахвотных з розных лягераў амэрыканскай акупацыйнай зоны, але мала месцаў. Мы ледзь прайшлі ўступны іспыт, але нас прынялі. Галоўнай умовай на гэтых курсах было: ніводнага слова на ніякай мове, апрача ангельскай! Ня толькі на занятках, але й у вольны час. Ня ведаеш, як сказаць нешта па-ангельску — тлумач рукамі, мімікай. Настаўнікі падслухоўвалі пад дзьвярыма, ці выконваецца гэтае правіла. За першае парушэньне пасылалі на кухню абіраць бульбу, а калі гэта паўтаралася, то адсылалі назад у лягер, і ніякія довады не дапамагалі. Вынікі былі надзвычайныя: праз тры месяцы мы так асвоілі ангельскую мову, што маглі выкладаць яе ў лягеры. Вось толькі вымова была брытанская, а не амэрыканская.

У чэрвені 1949-га году меншыя лягеры пачалі зачыняць. Нас перавялі ў горад Розэнгайм у былыя вайсковыя казармы вэрмахту. Гэты лягер ня быў чыста беларускі: там былі сэрбы, палякі й іншыя нацыянальнасьці. Але беларусы мелі пэўную аўтаномію.

Тым часам Заходняя Нямеччына стала сувэрэннай дзяржавай, і нямецкія ўлады першым чынам пачалі рабіць захады, каб пазбыцца Ды-Пі. Да гэтага часу мы не былі пэўныя што да нашага далейшага лёсу.

# 7. Эмігранцкая мара — Амэрыка

*Як мы выраблялі афідэвіты. Перакладчыца для землякоў. Праверка рэнтгенам. «Генэрал Блэчфард» вязе нас за акіян. Граю на акардэоне мытнікам.*

Парлямэнты заходніх дзяржаваў прынялі законы аб эміграцыйных квотах для перамяшчэнцаў у Заходняй Эўропе. Каб наладзіць справу эміграцыі, у лягеры пачаў працу эміграцыйны аддзел. Кіраўнікамі гэтага аддзелу былі ангельцы, галяндцы, амэрыканцы. Вось тут вельмі спатрэбіліся веды ангельскай мовы, і я першы раз за ўсё перабываньне ў лягерах Ды-Пі атрымала пасаду перакладчыцы й пачала зарабляць сапраўдныя грошы.

Розныя краіны прапанавалі працу й абяцалі добрыя ўмовы. Бэльгія запрашала на працу ў капальнях, Аўстралія агітавала жанчын і дзяўчат, каб ехалі працаваць хатнімі работніцамі, нянькамі, кухаркамі. Паўдзённая Амэрыка прымала

ўсіх, хто хацеў. Але бальшыня Ды-Пі марыла пра эміграцыю ў Злучаныя Штаты Амэрыкі.

Аднак з Амэрыкай сытуацыя была досыць складаная. Кандыдатамі на эміграцыю ў ЗША прызнаваліся толькі тыя асобы, якія маглі даказаць, што ім там гарантуецца праца й жыльлё. Такія паперы называліся «афідэвіты». Яны маглі быць выстаўленыя прыватнымі асобамі ў Амэрыцы, якімі-небудзь арганізацыямі, навуковымі ўстановамі й г.д. Некаторыя мелі сваякоў у Злучаных Штатах, ім удалося эміграваць ужо ў 1949-м годзе. Яны пачалі прысылаць афідэвіты сваім знаёмым, якія заставаліся ў лягеры.

Але наагул справа з эміграцыяй пасоўвалася досыць павольна. Тады эміграцыйны аддзел вырашыў выклікаць усіх па чарзе й запісваць, куды хто зьбіраецца эміграваць. Аказалася, што бальшыня хоча ў Злучаныя Штаты Амэрыкі. Як ні ўгаворвалі працаўнікі эміграцыйнага аддзелу, каб людзі запісваліся ў Новую Зэляндыю, у Вэнэсуэлу — нічога не выходзіла: Злучаныя Штаты, і ўсё! «Ну, добра», казалі, «маеце афідэвіт?» — «Не, яшчэ ня маем, але ён у дарозе». — «Дык наступным разам мусіце яго нам паказаць».

Праз які месяц мая куратарка ангелька міс Андэрсан сказала, што на іх націскае высокае начальства й у такі й такі дзень зьбіраецца вялікая камісія, якая будзе выклікаць усіх, хто да гэтага часу ня мае канкрэтных плянаў. Калі ня будзе гарантыяў на працу й жыльлё ў ЗША, гэтых людзей будуць пасылаць у іншыя краіны, бо лягеры Ды-Пі будуць неўзабаве расфармоўвацца.

Гэтым разам сытуацыя была вельмі сур’ёзная. Ужо шмат хто меў афідэвіты, але ня ўсе. Праўда,

некаторыя афідэвіты гарантавалі працу й жыльлё толькі на паперы. Але гэта было няважна: у 1950-м годзе працы й жыльля ў ЗША было больш чым дастаткова.

Тады мы, беларускія перакладчыкі, параіўшыся паміж сабой, сабралі нашых землякоў і сказалі ім, каб тыя, хто ня мае афіцыйных гарантыяў, падыходзілі да нас і прынесьлі з сабой які-небудзь ліст з канвэртам з Амэрыкі.

Мы зрабілі адну памылку: мы не папярэдзілі нашых суродзічаў, што яны мусяць рабіць выгляд, што яны з намі незнаёмыя. Некаторыя здагадаліся самі, але, на жаль, ня ўсе.

І вось сядзіць вялікая камісія зь перакладчыкамі. Да маёй ангелькі падыходзіць Васіль Захаркевіч. Я прапаную яму сесьці. Міс Андэрсан пытаецца ягонае прозьвішча й колькі асобаў у ягонай сям'і. Я перакладаю. Сп. Захаркевіч глядзіць на мяне з усьмешкай і кажа: «Ты што, ня ведаеш, як мяне завуць?» — «Што ён кажа?», пытаецца міс Андэрсан. Я кажу, што ён ня пэўны, ці нас цікавіць, як яго клічуць па бацьку. Я яму строга кажу: «Назавіце сваё прозьвішча». Ён нехаця кажа: «Захаркевіч. Пяць асобаў». Наступнае пытаньне: «Ваш адрас у гэтым лягеры?». Тут сп. Захаркевіч аж падскочыў: «Дык мы ж з табой жывем у адным блёку!». Міс Андэрсан вытарапіла на мяне вочы. А я ёй сказала, што ў лягеры нядаўна зьмянілі нумары блёкаў, дык ён заблытаўся. Цяпер самае галоўнае пытаньне: «Якія ў вас пляны на эміграцыю?» — «Нью-Ёрк». — «Маеце афідэвіт?» — «Не, яшчэ ня маю». Тады я яму кажу, каб даў мне ліст. Ён выцягвае з кішэні ліст, нават не яму адрасаваны, я яго бяру, праводжу пальцам па радках і кажу: «Так, вось

тут напісана, што ў яго будзе праца на фабрыцы запалак, а жыць ён можа ў свайго сябры, які мае шмат месца». На гэтым інтэрвію скончылася. Міс Андэрсан паставіла ў адпаведным месцы галачку й паклікала наступнага кандыдата.

Урэшце ўсе, хто хацеў, дасталі афідэвіты для Злучаных Штатаў Амэрыкі. Адзінкі эмігравалі ў Бэльгію, Аўстралію, а мы зь цёцяй Барбарай пачалі афармляць пераезд у Злучаныя Штаты.

Першая інстанцыя — лягерны лекар і пасьведчаньне ад паліцыі. Адразу адсейвалі сухотнікаў, псыхічна хворых. Уклалі сьпісы кандыдатаў на эміграцыю ў ЗША, адаслалі ў галоўную кватэру ІРО. Праз некалькі тыдняў прызначылі пераезд у транзытны лягер у Мюнхэне. Паўстала пытаньне: што браць з сабой з рэчаў? Цёця Барбара была чалавекам асьцярожным і на ўсякі выпадак спакавала ў невялікі сундучок усё, уключна з запалкамі. Незадоўга да пераезду ў Мюнхэн яна на чорным рынку прадала некалькі срэбных лыжак і купіла мне акардэон маркі «Hohner».

У Мюнхэне нас чакала наступная працэдура. Спачатку рэнтген лёгкіх у нямецкага лекара. Праз два дні вывесілі сьпісы асобаў, у якіх зь лёгкімі было ўсё ў парадку. Сытуацыя была з самага пачатку вельмі напружаная й нэрвовая, бо некаторыя не знаходзілі сваіх прозьвішчаў ці прозьвішча некага зь сям'і ў гэтых сьпісах. Або прозьвішчы былі перакручаныя. У адным такім сьпісе цёця, напрыклад, фігуравала як Вержба Ловіч. І ніякай інфармацыі ніхто не даваў. А тут яшчэ папаўзьлі чуткі, што добрыя рэнтгены прадаюць за вялікія грошы тым, у каго зь лёгкімі праблемы. Але ці сапраўды былі такія

выпадкі — ніхто так і не даведаўся. Яшчэ праз дзень-два вывешваліся дадатковыя сьпісы.

Наступная інстанцыя — амэрыканскі лекар. Ён вельмі дакладна аглядаў кожнага, праз перакладчыка задаваў розныя пытаньні й вельмі пільна разглядаў рэнтгенаўскія здымкі лёгкіх. Памятаю, што мой здымак ён разглядаў праз люпу. Відаць, запаленьне лёгкіх, якое я дастала ў выніку спробы самагубства ў 1939-м годзе, пакінула нейкі сьлед.

Праз пару дзён ізноў выцягваньне шыі, каб знайсьці сваё прозьвішча ў сьпісе на сьценцы дрэнна асьветленага калідора.

Яшчэ трэба было прайсьці палітычную праверку: ці не належалі да камуністычнай партыі, ці не супрацоўнічалі з нацыстамі й г.д. У канцы гэтай працэдуры трэба было падняць два пальцы правай рукі й прысягнуць, што ўсе дадзеныя правідловыя.

Апошняя інстанцыя — INS (Immigration and Naturalization Service — Служба іміграцыі й натуралізацыі). Там уважліва праглядалі ўсе здабытыя да гэтага часу паперы з рознымі подпісамі й выдавалі візу.

Калі да мяне дайшла чарга, то я заўважыла, што з маімі паперамі, відаць, нешта не ў парадку: мне па некалькі разоў задавалі тыя самыя пытаньні, пыталіся, зь якога я лягера й як дакладна пішацца маё прозьвішча. Але неўзабаве ўсё высьветлілася. «На імя Галіны Ганчарэнкі ў нас ужо даўно выстаўлена студэнцкая віза», — сказалі мне.

Вось як гэта сталася. Апрача арганізацыяў УНРРА й IPO, была яшчэ адна, якая таксама клапацілася аб перасяленцах. Гэта — World

Church Service (Сусьветная царкоўная служба). Прадстаўнікі гэтай арганізацыі наведвалі лягеры Ды-Пі й шукалі здольных маладых людзей, каб дапамагчы ім здабыць вышэйшую асьвету ў Злучаных Штатах. Я скончыла гімназію імя Янкі Купалы з пахвальнай граматай і таму трапіла ў іхны сьпіс. У выніку стараньняў гэтай арганізацыі пратэстанцкая Першая хрысьціянская царква ўзяла мяне пад сваю апеку. Знаходзілася яна ў гарадку Бівэр Фолз, 30 міляў ад гораду Пітсбург, у штаце Пэнсыльванія. Назва маленькага гораду мне адразу спадабалася: я ж нарадзілася ў Бабруйску, у горадзе баброў, а Бівэр Фолз у перакладзе азначае «бабровы вадаспад». Тут знаходзіўся невялікі Джэнэва Каледж. Царква забавязвалася аплачваць маю навуку й усе зьвязаныя зь ёй выдаткі, а жыць я мелася ў сям'і пастара містэра Біклі.

Гэта была вялікая й радасная неспадзеўка, тым больш што амаль два гады я ня мела ніякіх вестак у сувязі з гэтым. Гэтая навіна, аднак, мяне крыху напалохала: я баялася, што студэнцкая віза можа разлучыць мяне зь цёцяй Барбарай. Нас могуць пасадзіць на розныя параходы, або я паплыву, а яе зь якой-небудзь прычыны затрымаюць у Нямеччыне. Я сказала, што я, зразумела, вельмі шчасьлівая й удзячная за такі клопат пра мяне, але ці не магла б я ехаць у Амэрыку па звычайнай эміграцыйнай візе, якую я мелася ў той дзень атрымаць? Яны параіліся й далі згоду.

Празь некалькі дзён нас павезьлі цягніком на поўнач Нямеччыны ў порт Брэмэргафэн, а там паведамілі, на які параплаў мы маем сядаць.

Усе параплавы былі вайсковыя. Наш называўся «Генэрал Блэчфард».

Настрой ува ўсіх быў узьняты. Усе камісіі й праверкі мы прайшлі, заставалася толькі пераплыць акіян. Сапсула нам настрой вестка, што адну беларускую сям'ю зьнялі зь цягніка: нехта данёс, што галава сям'і ўтаіў, што ў Савецкім Саюзе ён належаў да кампартыі. Тое самае сталася й з адной украінскай сям'ёй. Усе адразу прыціхлі, бо шмат хто з нас зьбіраўся эміграваць у Амэрыку з фальшывымі дадзенымі ў біяграфіі.

Знаёмым, якія меліся плыць на іншым «генэрале», абвясьцілі, што іхны параплаў спачатку накіроўваецца ў Галіфакс, у Канаду, бо некалькі сот асобаў эмігруюць у гэтую краіну, а малых параплаваў няма. Гэта значыць, што падарожжа ў Нью-Ёрк прадоўжыцца ня 10 дзён, а дзён 12—13. Мы жартавалі з гэтых землякоў: вось якое турыстычнае падарожжа іх чакае! Але як толькі наш параплаў адышоў ад берагу, нам абвясьцілі, што мы спачатку плывём у Вэнэсуэлу, бо з намі 400 асобаў, якія эмігруюць у гэтую краіну. А гэта значыла, што нашае падарожжа прадоўжыцца амаль тры тыдні.

Наш параплаў зьмяшчаў больш за 2000 пасажыраў. Ён меў шэсьць палуб. Моладзь разьмясьцілі на самым нізе, на самым носе параплава. Мая каюта мела трохпавярховыя ложкі, ня мела ніякіх выгодаў і была разьлічаная на 150 асобаў. Цёціна каюта знаходзілася на чацьвертай палубе, пасярэдзіне параплава, і была разьлічаная толькі на 20 асобаў.

Амаль для ўсіх гэтае акіянскае падарожжа было суцэльнай пакутай. Ад самага Ля-Маншу

й да Вэнэсуэлы нас страшэнна гайдала, хаця ніякага шторму не было. У каютах можна было толькі спаць уначы, удзень у іх нельга было нават заходзіць. Ежа была жахлівая: яечня — з парашку, малако — таксама, кансэрвы. Але гэта было ня так важна, бо есьці й так мала хто мог. Маладзейшых пасажыраў змушалі працаваць на кухні ці чысьціць туалеты. Мяне не чапалі: я была зялёнага колеру й усю дарогу нічога ў рот ня брала.

Калі мы нарэшце прыплылі ў вэнэсуэльскі порт Ля Гуайра, то выйшла затрымка: 400 эмігрантаў адмовіліся выходзіць і сказалі, што хочуць у Злучаныя Штаты. Давялося клікаць мясцовую паліцыю. Зь вялікім спазьненьнем наш параплаў узяў курс на Нью-Ёрк. На гэты раз вада была гладкая, як люстэрка.

У канцы чэрвеня «Генэрал Блэчфард» даплыў да Нью-Ёрку. Высадка трывала некалькі гадзін. Іміграцыйныя ўлады Нью-Ёрку ўважліва праглядалі дакумэнты, прыглядаліся да здымкаў. Быў яшчэ адзін данос. Гэтым разам затрымалі майго настаўніка матэматыкі Рагажэцкага. Яго-нае сапраўднае прозьвішча было Перагуд-Пагарэльскі. Яму пагражала дэпартацыя. Ён трапіў у турму, зь якой выйшаў шмат гадоў пазьней зусім хворы, ня мог працаваць, але застаўся ў Амэрыцы.

Нарэшце мы ступілі на амэрыканскую зямлю. Багаж наш склалі на тэрыторыі порту ў вялікія кучы паводле альфабэту. Мы мусілі чакаць, пакуль да нас падыдуць мытнікі. Яны перагледзелі нашы рэчы. Пабачылі цёціны запалкі, паклікалі калегаў. Мы спачатку думалі, што запалкі — забаронены тавар. Не! Яны сьмяяліся й дзівіліся,

што імігранты вязуць у Амэрыку. Тады пабачылі мой акардэон маркі «Hohner». За гэты акардэон (ён быў зусім новы) трэба было плаціць вялікі падатак. Мы спалохаліся: у нас з сабой было ўсяго пяць даляраў. Чыноўнікі спыталіся, хто на ім грае. Я сказала, што я. «Ну дык зайграй». Я зайграла. Усе пачалі глядзець у наш бок. Ніхто ж ня ведаў, у чым справа. А некаторыя падумалі, што гэтая дзяўчына, напэўна, зьехала з глузду пасьля такога доўгага падарожжа. Чыноўнік мытні пашкадаваў мяне й сказаў, што акардэон ён мне пакіне, але назву «Hohner» ён мусіць адрэзаць, і кінуў яе на зямлю. «А цяпер можаш рабіць зь ёй што хочаш». Я зразумела, падняла яе й пасьля ўжо прыклеіла назву «Hohner» на месца.

Пасьля гэтага мы сталі вольнымі ў поўным сэнсе гэтага слова, і перадусім вольнымі ад усякай апекі, а да гэтага нялёгка было прызвычаіцца.

## 8. Жыцьцё ў вольнай краіне

*У сям'і пастара. Мікола Равенскі давярае мне кіраваньне царкоўным хорам. Знаёмлю бацькоў Данчыка. Навука паміж працай. Незабыўнае лета ў Сарбоне.*

Знайсьці жыльлё ў пасьляваеннай Амэрыцы было зусім ня цяжка. Адзін суродзіч зьняў кватэру з чатырох пакояў на 100-й вуліцы ў афраамэрыканскім раёне Гарлему. Плаціў за яе 48 даляраў на месяц і здаваў новапрыбылым сем'ям кожны пакой па 48 даляраў на месяц. Для яго заробак 300%, а нам было дзе часова жыць.

Да нашага пачатковага «капіталу» зь пяці даляраў цёця пазычыла ў знаёмых яшчэ дзесяць, і так мы пачалі нашае самастойнае жыцьцё ў ЗША.

Ужо на наступны дзень трэба было атрымаць нумар сацыяльнай страхоўкі («Social Security»), безь якога й цяпер не бяруць на працу й які суправаджае чалавека да самай сьмерці. Цяпер, як і тады, у Злучаных Штатах няма ніякай прапіскі:

можаш колькі хочаш пераяжджаць з гораду ў горад і з аднаго штату ў другі.

Працу знайсьці было няцяжка. Але якая гэта была праца? Паэтэса Натальля Арсеньнева пайшла працаваць «на гуркі»: на фабрыку, дзе ў слоікі набівалі салёныя ці марынаваныя гуркі. Ейны муж, палкоўнік Кушаль, стаў ліфцёрам, мая цёця пайшла «на кветкі»: са штучных лісьцікаў, бліскучых званочкаў, ягад дротам вязалі букецікі, якія амэрыканкі насілі на паліто й нават на футрах.

Некаторыя атрымалі працу на фабрыцы чакаляды (і да гэтага часу на чакаляду нават глядзець ня могуць). На лепшую працу новапрыбылыя эмігранты, якія, як правіла, ня ведалі ангельскай мовы, і не маглі разьлічваць. У 1950-м годзе мінімальная плата на гадзіну была 75 цэнтаў.

Да пачатку навучальнага году ў мяне заставалася два месяцы. Я таксама пайшла зь цёцяй «на кветкі» і зарабіла крыху грошай. Мяне на гэтай фабрыцы вельмі палюбілі, часам даводзілася перакладаць, калі вучылі новых работніц. А як прыйшоў час ехаць вучыцца, дык бяззубая жанчына-прараб толькі пацiскала плячыма: «Нашто табе вучыцца? Заставайся ў нас!».

Вельмі цяжка было пакідаць Нью-Ёрк, цёцю й усіх сяброў і знаёмых, зь якімі добрых пяць гадоў жылі разам у розных лягерах Ды-Пі. Па мяне прыехалі аўтам прыяцелі сям'і пастара, у якой я мелася жыць. Ехалі мы ў Бівэр Фолз цэлы дзень.

Сям'я пастара была вельмі сымпатычная. Калі я пачала зь імі перапісвацца, у іх было адно дзіця. Пакуль я прыехала, ужо было двое. А праз пару месяцаў у часе вячэры пастар сказаў:

«We are pregnant». Мне здавалася, што слова «pregnant» значыць «цяжарная». Я пабегла ў свой пакой, глянула ў слоўнік. Усё правільна. Гэтак містэр Біклі выказаў свае адносіны да гэтай радаснай падзеі: «мы цяжарныя».

Пратэстанцкі пастар знаходзіцца на службе ў сваёй парафіі. У яго пры царкве свой офіс, дзе ён прымае прыхаджанаў, дае парады, дапамагае разабрацца ў складаных, часам канфліктных, сытуацыях. Наведвае хворых у шпіталях або ў хаце. Усё гэта — ад аўторка да суботы.

У нядзелю раніцай — служба Божая. Пасьля службы — нядзельная школа. Вернікі разыходзяцца па клясах і абмяркоўваюць Сьвятое Пісаньне, якое чулі падчас службы. Каб не было непаразуменьня, я адразу сказала, што я праваслаўная. «Вельмі добра», — сказаў пастар, — «мы й хацелі мець пратэстантку». Вось куды ён нас залічыў.

Памятаю такое: «Пётар пайшоў у Ерыхон і спаткаў там Паўла. А што было б, каб ён у гэты дзень пайшоў у Ерусалім і спаткаў там Ісуса? Галіна, як ты думаеш?». Галіна нічога ня думала, а сядзела з адкрытым ротам і дзівілася: як гэта можна абмяркоўваць дзейнасьць сьвятых, нібыта яны былі звычайнымі людзьмі? А фактычна — чаму не?..

Праз два тыдні пасьля майго прыезду гаспадары сказалі, што ў канцы месяца ў нядзелю, пасьля царкоўнай службы, будзе «shower». Гэтага слова я ня ведала. Паглядзела ў слоўнік: «кароткі дожджык». Гм! Увесь верасень было цудоўнае надвор'е. Адкуль яны ведаюць, што ў той дзень будзе дожджык? І чаму гэта так важна?

Наступіла тая нядзеля, і ў хату пастара па-

чалі прыходзіць прыхаджане, і кожны нешта прыносіў: блякноты, алавікі, партфэль, нават нешта з адзеньня. І аказалася, што ўсё гэта было для мяне. А слова «шаўэр» па-ангельску значыць ня толькі дожджык, а таксама «вечарынка з падарункамі», якую арганізуюць, калі нехта выходзіць замуж, ці калі нараджаецца дзіця, ці яшчэ зь нейкай нагоды.

Вучыцца ў каледжы было лёгка. Стандарт быў невысокі. Выкладчыкі — так сабе. Але хутка гэты маленькі гарадок абегла вестка, што зьявілася нейкая «экзатычная» асоба з Эўропы, і мяне пачалі запрашаць розныя арганізацыі: скаўты, клюбы, школы. Усе хацелі пачуць нешта цікавае пра жыцьцё па той бок акіяну. А што я ім магла расказаць? Я ж афіцыйна паходзіла з Польшчы, так што пра жыцьцё ў Савецкім Саюзе я расказваць не магла, а гэта якраз тое, што я ведала найлепей. А пасьля двух тыдняў перабываньня ў Беластоку, ды яшчэ ў такіх ненармальных умовах, не хапала матэрыялаў на прамовы, якіх ад мяне чакалі. Я пачала камбінаваць. Тату-вайскоўца мне не хацелася рабіць польскім афіцэрам, дык я сказала, што ён быў настаўнікам. Тэрор 1937—38 гадоў у Савецкай Беларусі я мусіла перасунуць на пазьней, пасьля 1939-га году, калі Саветы далучылі Заходнюю Беларусь.

Памятаю, як я расказала, як Саветы арыштоўвалі ні ў чым не павінных людзей. Пытаньне з публікі: «А дзе твая мама?» — «Маю маму таксама арыштавалі й саслалі». — «А што яна зрабіла?».

Каб я хоць трохі ведала Заходнюю Эўропу, дык я б шмат чаго магла расказаць. Але мае веды

абмяжоўваліся жыцьцём у разьбітым Бэрліне й у захудалых вёсках паўдзённай Баварыі.

Карацей кажучы, я пакутавала. Амэрыканцы жылі там сваім правінцыйным жыцьцём. Я ў гэтае жыцьцё ніяк ня ўпісвалася. Заняткі ў каледжы былі малацікавымі, не было вялікага выбару прадметаў. А зь Нью-Ёрку цёця пісала, як наладжваецца там беларускае грамадзкае жыцьцё: царква, сьвяткаваньні, сустрэчы.

У роспачы пайшла я ва ўнівэрсытэцкую бібліятэку пашукаць, якія магчымасьці вучыцца існуюць у Нью-Ёрку. Узяла даведнік навучальных установаў і знайшла там інфармацыю пра Нью-Ёрк Сіці Каледж. Там было мноства факультэтаў, тысячы студэнтаў. Можна атрымаць дыплём бакаляўра, магістра й нават дактарат. Але я ведала, што ў Амэрыцы вышэйшая асьвета платная. І сапраўды: таблічка, колькі каштуе які факультэт. А ўнізе прыпіска: для жыхароў Нью-Ёрку навучаньне дармовае.

Я напісала туды па сакрэту ад сваіх гаспадароў. Адразу прыйшоў адказ, дзе мне паведамлялі, якія дакумэнты трэба прысласць. Паслала.

Тым часам скончыўся мой першы год у Джэнэва Каледжы, і я паехала на лета ў Нью-Ёрк. І ўжо на нью-ёрскі адрас прыйшло паведамленьне, што мяне прынялі на трэці сэмэстар у Нью-Ёрк Сіці Каледж.

Майму шчасьцю не было канца! Я адразу напісала сваім гаспадарам, што застаюся ў Нью-Ёрку. Яны былі вельмі расчараваныя, бо зьбіраліся мець шмат дзяцей і спадзяваліся, што я ім буду дапамагаць.

Я зь вялікім энтузіязмам уключылася ў

беларускае грамадзкае жыцьцё. На Брукліне беларусы здымалі памяшканьне, дзе штотыдня маглі зьбірацца. Спачатку там адбываліся й службы Божыя Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Але месца там было мала. Мы пазнаёміліся са старымі эмігрантамі-беларусамі. Усе яны былі несьвядомыя: некаторыя лічылі сябе рускімі, другія палякамі. Яны мелі на Мангэтане прыгожую праваслаўную царкву, але ня мелі рэгента. Папрасілі мяне. А я стала царкоўным рэгентам зусім выпадкова. Я ад 1945-га году сьпявала ў царкоўным хоры. У нашым астатнім лягеры Ды-Пі ў Розэнгайме царкоўным хорам кіраваў кампазытар Мікола Равенскі. У яго тады ўжо было нешта не ў парадку з горлам. Аднойчы ў часе літургіі, як толькі мы пачалі сьпяваць «Іжэ херувімы», ён пачаў моцна кашляць, сунуў мне ў руку камэртон, сказаў: «Ты пакіруй». І выйшаў з царквы. Яго доўга не было. Нарэшце ён вярнуўся, але трымаўся за горла, да хору не падышоў і здалёк даў мне знак, каб я кіравала далей. Я адчувала сябе кацянём, кінутым у ваду.

Кампазытар Равенскі не эміграваў з намі ў Амэрыку, а паехаў у горад Лювэн, у Бэльгію, дзе ён зарганізаваў беларускі мужчынскі хор. Гэты хор выступаў зь велічэзным посьпехам у шмат якіх гарадах Заходняй Эўропы. Равенскі памёр ад раку горла ў Бэльгіі ў 1953-м годзе. Пахаваны ў Лювэне.

Ад нашага сяброўства са старымі эмігрантамі-беларусамі была ўзаемная карысьць: іхняя царква напоўнілася вернікамі, павялічыўся хор, які цяпер сьпяваў «па нотах» (дагэтуль яны сьпявалі ўвесь час тыя самыя расьпевы проста напамяць),

а мы атрымалі магчымасьць адпраўляць службы ў сапраўднай царкве. З часам мы, новыя эмігранты, займелі сваю ўласную царкву.

Праз некаторы час мяне папрасілі зарганізаваць сьвецкі хор. У Нью-Ёрку часта адбываліся міжнародныя канцэрты. Украінцы й іншыя нашы суседзі ўжо мелі свае хоры. Энтузіястаў у мяне было хоць адбаўляй. Цяжкасьць была ў тым, што паступова нашыя землякі паразьехаліся, бо ня ўсе хацелі жыць у велічэзным і шумным Нью-Ёрку. Зьбіраць іх штотыдня на сьпеўкі было цяжка. Тады я вырашыла, што будзе прасьцей, калі я буду езьдзіць у тыя гарады, дзе жыло шмат маіх харыстаў, і развучваць зь імі рэпэртуар. Так мы й зрабілі. Адзін раз на месяц усе прыяжджалі ў Нью-Ёрк. Хор атрымаўся вялікі: асобаў 40. Сьпявалі мы ў нацыянальных строях. Нашы выступы былі вельмі эфэктныя.

Праца з царкоўным і сьвецкім хорамі адбірала ў мяне шмат часу: трэба ж было расьпісаць усе песьні на галасы. А была яшчэ й іншая грамадзкая праца: падрыхтоўка да сьвяткаваньня 25-га сакавіка, Слуцкага паўстаньня, дэманстрацыі ў Дзень паняволеных народаў. Апрача таго, мы пачалі зьбіраць рэчы, пераважна адзеньне й абутак, і высылаць пачкі нашым суродзічам, якія засталіся ў Эўропе.

А паміж гэтым я ж мусіла вучыцца. Нью-Ёрк Сіці Каледж — гэта не каледж у амэрыканскай правінцыі. Там былі вялікія вымогі. Ехаць мне трэба было паўтары гадзіны ў адзін бок. Я мусіла яшчэ й зарабляць грошы. Цёця й далей працавала на фабрыцы кветак. Цяпер яна ўжо зарабляла адзін даляр на гадзіну. Але гэтых

грошай нам не хапала на жыцьцё. Працаваць я магла толькі ў суботу й падчас вакацыяў. У суботу мяне звычайна клікалі на цёціну фабрыку кветак. Усе работнікі ў гэты дзень адпачывалі, а на фабрыцы бываў сьпешны заказ на нейкія асаблівыя букецікі. Працавала афіцыянткай. На старэйшых курсах давала прыватныя лекцыі францускай і нямецкай моваў для школьнікаў. За гэта мне плацілі 5 даляраў на гадзіну.

Навука мне нічога не каштавала, але патрэбна было шмат падручнікаў. Праўда, іх можна было купляць ужыванымі. Для гэтага існавала спэцыяльная студэнцкая крама. Чым чысьцейшы падручнік, тым даражэйшы. У канцы сэмэстру яго зноў можна было прадаць у той жа краме.

Пасьля сканчэньня каледжу я зьбіралася працаваць у Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Там быў вялікі попыт на людзей з замежнымі мовамі, асабліва славянскімі. На ўсялякі выпадак я яшчэ запісалася на курс стэнаграфіі — можа, прыдасца. Стэнаграфія не ўваходзіла ў праграму майго факультэту раманскіх моваў, за яе я мусіла плаціць. Два разы на тыдзень я вярталася дадому каля 11-й гадзіны вечара. Цяпер, аглядаючыся назад, я ніяк не магу падлічыць, колькі мне часу заставалася на сон. Я думаю, што ня больш як 4—5 гадзін.

Незадоўга перад канцом трэцяга курсу (шостага сэмэстру) я атрымала ліст ад рэктара з такім зьместам: летам 1953-га году факультэты раманскіх моваў некалькіх амэрыканскіх унівэрсытэтаў арганізоўваюць абмен студэнтамі з францускім унівэрсытэтам Сарбонай у Парыжы. На наш каледж выпала пяць месцаў. Прафэсары ўключылі мяне ў гэтую пяцёрку. Умовы такія:

навука ў Сарбоне й побыт у гатэлі аплачваюцца, за дарогу трэба плаціць самім. Ці зацікаўленая я? Ясна, што я была зацікаўленая, але дзе ўзяць грошы на дарогу? Я падзякавала й адказала, што ехаць не магу. Каб не дражніць цёцю, я ёй пра гэта нават не расказала. Адзін прафэсар паклікаў мяне й спытаўся, ці разумею я, што гэта за нагода паехаць на лета ў Сарбону, і ці можна ад гэтага адмаўляцца! Цёця, як даведалася, сказала, што грошы мы пазычым, а ехаць я мушу абавязкова. Студэнцкая арганізацыя дапамагла знайсьці самы танны спосаб дабрацца да Францыі: невялікі грэцкі параплаў «Алімпія», але, на жаль, не зь Нью-Ёрку, а з Квэбэку ў Канадзе.

Гэта было самае незабыўнае лета ў маім жыцьці. У нашай групе былі студэнты з розных штатаў, нават з Каліфорніі. Амаль усе паходзілі з забясьпечаных сем'яў. Але я знайшла падобных да сябе. У Парыжы мы амаль не карысталіся гарадзкім транспартам, а хадзілі пешшу. Харчаваліся ў вельмі танных «забягалаўках», дзе націскалі на хлеб, які нічога не каштаваў. На вячэру куплялі на рынку сыр, садавіну й чым больш хлеба. Білеты ў тэатар куплялі толькі стаячыя, а ўступ у музэі для студэнтаў і так быў танны.

Пасьля заканчэньня курсу ў Сарбоне ў нас заставалася яшчэ два тыдні. Цёця прыслала крыху грошай, і я наведала яшчэ Мадрыд, Жэнэву, Лювэн і Мюнхэн. Вось цяпер я б мела што расказаць пра Эўропу ў Бівэр Фолз!

У верасьні пачаўся мой апошні курс у Нью-Ёрк Сіці Каледжы. Нагрузка ў мяне была яшчэ большая. Горы кніг з францускай і гішпанскай літаратуры трэба было прачытаць і пра кожную

нешта напісаць. Што да працы, то цяпер я брала толькі добра аплачваную працу рэпэтытара. І грамадзкая праца была ў поўным разгары.




Продкі. Бабуля і дзядуля Марыя і Іван Ганчарэнкі і іх пяцёра дзяцей — Барбара, Ганна (маці, пасярэдзіне), Аркадзь, Гэлена і Аляксандар.





З маці, цёцяй Барбарай і дзедам.

Бацька, Мацьвей Грыбаў.



Маці, Ганна Ганчарэнка, на адпачынку ў Алупцы.



У бабруйскім фотаатэлье.





Родная хата ў Бабруйску, па вул. Пушкінскай.

Фота школьных гадоў.





Менск, 1942 г. У цёціным садзе.

Дом цёці на вуліцы Сьлясарнай у Менску ў часе вайны.





Менск, тэатральны сэзон 1943—44. Цёця Барбара (справа) і Вольга Ачыновіч у сцэне з апэрэты Ё. Штраўса «Цыганскі барон».

Сцэна з опэры М. Шчаглова «Лясное возера». 28 лютага 1943 г.





Сцэна з опэры М. Шчаглова «Лясное возера». 28 лютага 1943 г.

«Аўген Анегін» па-беларуску. Цёця Барбара пасярэдзіне, у ролі маці Тацьцяны Ларынай. 6 сьнежня 1942 г.



Сцэна з опэры В. А. Моцарта «Вясельле Фігара». Менск, 1942—43 гг.



Эвакуацыя зь Менску. У цэнтры зь дзіцем стаяць Яніна Каханоўская і Аўген Калубовіч (Каханоўскі). Мы зь цёцяй — у дзьвярах. Чэрвень — ліпень 1944 г.





Група «Жыве Беларусь» у Бэрліне.

Лягер Міхельсдорф. У гэтым бараку знаходзілася гімназія імя Янкі Купалы.





Зь цёцяй у лягеры Віндышбэргердорф.

Уцекачы ў лягеры Розэнгайм. У першым радзе справа налева — я, Натальля Арсеньнева, цёця Барбара, Яніна Каханоўская, у апошнім радзе ў белай кашулі — Мікола Равенскі.





Выступ на канцэрце ў Розэнгайме.

Цёця Барбара ў ЗША. 1950-я гады.





На адным з амэрыканскіх канцэртаў. Акампаніруе кампазытар М. Шчаглоў-Куліковіч.

Хор беларускай моладзі ў ЗША пад маім кіраўніцтвам. 1954 г.



Вясельнае фота Андрусышыных. Дружкі нявесты — яе сястра Элеанора і я, жаніх Паўло — у цэнтры, кузэн — Грыц Андрусышын — зьлева. 20 лютага 1954 г.






Тыдзень паняволеных народаў. Штогадовая дэманстрацыя ў Нью-Ёрку.

Выпускніца.



Падчас выпускной цырымоніі ў Нью-Ёрк Сіці Каледжы.
13 чэрвеня 1954 г.




Птушкі пералётныя. 24 чэрвеня 1954 г. Зь цёцяй на лётнішчы ў Мюнхэне.





Першы будынак Радыё Вызваленьне (былы аэрапорт Мюнхэну).

Беларуская грамада ў Мюнхэне. У госьці прыехаў прэзыдэнт БНР Мікола Абрамчык (сядзіць трэці справа), зьлева ад яго — Антон Адамовіч і князь Сьвятаполк-Мірскі.





Калега Лявон Карась.

Пахаваньне Лявона Карася. Верасень 1954 г.






25 сакавіка 1955 г. у Мюнхэне.

Выступ для калегаў на радыё. Мы зь цёцяй і Уладзімер Цьвірка.





З глыбокім сумам паведамляем, што 8-га студзеня 1967-га году, у выніку нешчасьлівага выпадку памерла **мая дарагая незабыўная Цёця, клапатлівая бабулька двух унукаў, наша няўтомная супрацоўніца й адданая працаўніца на культурна-грамадзкай ніве**

**сьпявачка**

**БАРБАРА ВЕРЖБАЛОВІЧ-ВЕРБІЧ**

Паховіны адбудуцца 11-га студзеня, а гадзіне 14[30], на мюнхэнскім могільніку Westfriedhof.

*Галіна Ганчарэнка - Руднік*
*Унукі Алесь і Юрка*
*Беларуская Рэдакцыя Радыя «Свабода»*
*Беларускі Нацыянальны Камітэт у Нямеччыне*

Міжнародная выстава «Экспа» ў Брусэлі. Перад беларускім трактарам. Інжынэр Юрка — трэці зьлева.

Паведамленьне пра сьмерць цёці.



Наша вясельле зь Сяргеем Руднікам. 1964 г.





Першы прыезд зь дзецьмі ў Амэрыку. Юля Андрусышына, сын Саша, я, Яніна Каханоўская трымае майго Юру, Юрчык іДанчык.

Да нас у Мюнхэн з Францыі прыехала сям’я Абрамчыкаў.





З хросьнікам Альгердам Абрамчыкам.

Пасьля выбуху на радыё. 1981 год.



Яніна Каханоўская з маімі дзецьмі ў Вэнэцыі. 1974 г.





Падарожжа ў Эгіпет зь Янінай Каханоўскай.

Зь Янечкай у Монтэ-Касіна.






Зь Міхаілам Гарбачовым у Маскве. Сустрэча з нагоды 40-годзьдзя радыё.

Торт, якім адзначылі 40 гадоў майго стажу на радыё.



З сынамі ў Мюнхэне.





З дарослымі сынамі.

З унукамі. Дзеці Юры — Гэлена і Аляксандар.





Сын Саша з дачкой Мартай-Галінай.

На адпачынку з Барысам Ганчаровым.



З Данчыкам у дзень васьмідзесяцігодзьдзя.

## 9. Пачаткі Радыё Вызваленьне

*Мікола Абрамчык зьбірае беларускую рэдакцыю. Камісія выпрабоўвае маю кандыдатуру. Зь цёцяй у Мюнхэне. Кожны майстар на ўсе рукі. Нямецкі настаўнік мікрафону. Запрацавалі савецкія глушылкі. Першыя ахвяры савецкіх агентаў.*

Тым часам у Нью-Ёрку быў створаны Камітэт вызваленьня народаў Савецкага Саюзу. У сакавіку 1953-га году ў Мюнхэне, у Заходняй Нямеччыне, стараньнямі гэтага камітэту пачало працаваць Радыё Вызваленьне (Radio Liberation). Напачатку працавала толькі руская сэкцыя. Камітэт гэты згуртаваў прадстаўнікоў памеркаваных эмігранцкіх арганізацыяў, якім было даручана зарганізаваць на Радыё іншыя нацыянальныя сэкцыі.

Камітэт вызваленьня не супрацоўнічаў з рускай арганізацыяй НТС («Народно-трудовой союз»). Украінцаў рэпрэзэнтавала Ўкраінская нацыянальная рада, а не «бандэраўцы».

А стварэньне беларускай сэкцыі радыё было даручана прэзыдэнту Рады БНР сп. Міколу Абрамчыку.

Задумана было браць на працу як мага больш з тых асобаў, што засталіся ў Эўропе. Часткова гэта ўдавалася. Вось толькі з кандыдатаў сп. Абрамчыка ніхто ня меў добрага голасу, каб чытаць перад мікрафонам, і ніхто ня мог хутка друкаваць. Сп. Абрамчык спытаўся ў мяне, ці не хацела б я паехаць хаця б на год у Нямеччыну, дапамагчы наладзіць беларускія перадачы? Я, ясна, хацела б зь вялікай прыемнасьцю, але не раней за чэрвень 1954-га году, калі атрымаю дыплём.

Сп. Абрамчык сказаў у Камітэце, што на тэхнічную працу ў беларускай сэкцыі ён мае кандыдатку, але ў Амэрыцы, бо ў Эўропе — няма. Там ня вельмі ўсьцешыліся: палёты з ЗША ў Эўропу былі вельмі дарагія, у Мюнхэне трэба было забясьпечыць супрацоўнікаў памяшканьнямі, а іх было мала й яны таксама шмат каштавалі. Мюнхэн быў моцна разьбіты ў часе вайны. Камітэт быў гатовы выдаць такія вялікія грошы на добрага журналіста, але не на тэхнічнага супрацоўніка. Сп. Абрамчык настойваў на сваім. Нарэшце яго запыталі: а што ягоная кандыдатка ўмее рабіць? І тут сп. Абрамчык за мяне расьпісаўся: «Галіна Ганчарэнка ўсё ўмее рабіць». Гэта іх вельмі заінтрыгавала, і яны захацелі паглядзець на мяне. У прызначаны дзень я прыйшла ў камітэт на тэсты.

Спачатку чытала перад мікрафонам па-беларуску, па-руску й па-ўкраінску. Спадабалася. Тады далі нешта перакласьці з рускай і з ангельскай моваў на беларускую. Усё добра. Цяпер —

машынкі. Якую спачатку? Ангельскую. Я ж мела курс стэнаграфіі ў каледжы. Друкаваць запісанае мы мусілі «ўсьляпую»: на машынках не было літараў. Экзамэнатары прыйшлі ў захапленьне. Праўда, яны не падумалі, што ангельская машынка для працы ў беларускай сэкцыі не была патрэбная.

Засталася толькі беларуская машынка. У Нью-Ёрку беларускай машынкі не было, прынесьлі рускую. Але бяда была ў тым, што ні беларускай, ні рускай машынкі я ў жыцьці ня бачыла, а таму й друкаваць на іх ня ўмела. Дык я глянула на гадзіньнік і сказала, што, на жаль, мушу бегчы на заняткі. Так што гэты тэст адклалі на пазьней.

Я вельмі мучылася, ці правільна я зрабіла. Можа, трэба было прызнацца, што друкаваць я ня ўмею, але як скончацца ў мяне заняткі — навучуся? Але, па-першае, цяпер было ўжо запозна для такога прызнаньня, а па-другое, я баялася сапсаваць рэкамэндацыю ад сп. Абрамчыка, якога ў камітэце вельмі шанавалі. Каб выйсьці з гэтага далікатнага становішча, я ўзяла напракат рускую машынку, прабавала друкаваць. Але ці то ад хваляваньня, ці то ад стрэсу ў мяне абсалютна нічога не атрымлівалася.

А з камітэту тэлефанавалі час ад часу, вельмі выбачаліся, але казалі, што мусяць адаслаць мае паперы начальству ў Мюнхэн, там іх ужо чакаюць. Прызначылі мне апошні тэрмін. А ў мяне ніякага прагрэсу. Выхад у мяне быў адзін: у вызначаны дзень я купіла бінт і забандажавала правую руку ад пальцаў амаль да самага локця, і пайшла ў Камітэт. Там спалохаліся: «Што сталася?» — «Адчыняла кансэрвы й вельмі

глыбока парэзала руку». Мне вельмі паспачувалі й вырашылі пасладь мае паперы ў Мюнхэн бяз гэтага важнага тэсту.

Праз пару тыдняў зноў патэлефанавалі з камітэту й папрасілі прыйсьці да іх падпісаць кантракт. Дыплём я атрымала 13-га чэрвеня 1954-га году. З гэтага самага дня я згодна з кантрактам пачала працаваць на Радыё Вызваленьне.

Што дакладна стаяла ў тым кантракце, я нават не разглядала. У мяне была адна-адзіная ўмова: я паеду на працу ў Мюнхэн, толькі калі змагу ўзяць з сабой цёцю Барбару. На гэта адразу пагадзіліся. Толькі замест аднаго білета на лятак першай клясы выдалі мне два білеты турыстычныя. Мая першая пасада называлася Clerk-Typist Multilingual — шматмоўная канцылярыстка-машыністка.

Мы прыляцелі ў Мюнхэн 27-га чэрвеня 1954-га году. Гэта быў цудоўны сонечны дзень. А на наступны дзень пайшоў дождж і ліў кожны дзень бесьперастанку да верасьня.

Радыё Вызваленьне разьмясьцілася ў адміністрацыйным будынку былога лётнішча на Ліліенталыштрасэ ў паўночным раёне Мюнхэну Обэрвізэнфэльд. У верасьні 1938-га году сюды прыляцелі францускі й ангельскі міністры Даляд'е й Чэмбэрлен на сустрэчу з Гітлерам. Вынік перамоваў — канец незалежнасьці Чэхаславаччыны.

Будынак гэты быў насьпех прыстасаваны для радыё. Абсталявалі шэсьць студыяў. На вышцы, там, дзе раней сядзелі дыспэтчары, разьмясьцілі аддзел маніторынгу: запісвалі на стужкі савецкія перадачы (спачатку толькі рускія), друкавалі й раздавалі ўсім рэдакцыям.

Беларускай рэдакцыі прызначылі адзін досыць вялікі пакой. Першым галоўным рэдактарам быў д-р Вінцэнт Жук-Грышкевіч. Яшчэ ў рэдакцыі працавалі ад самага пачатку Пётар Сыч, Ліманоўскі, Лявон Карась, а праз некалькі месяцаў прыехалі з Бэльгіі выпускнікі слаўнага лювэнскага ўнівэрсытэту Янка Запруднік і Ўладзімер Цьвірка. Усе нацыянальныя рэдакцыі былі прыблізна ў такім колькасным складзе. Кожны супрацоўнік мусіў рабіць усё: пісаць, чытаць, перакладаць, друкаваць, рабіць копіі.

Руская рэдакцыя была куды большая колькасна: шмат аўтараў, некалькі дыктараў, рэжысэраў, цэлы аддзел машыністак, шмат дапаможнага пэрсаналу. Яны маглі запісваць свае праграмы не сьпяшаючыся, праслухоўваць іх, абмяркоўваць запісанае. Усе нацыянальныя рэдакцыі адчувалі сябе ў нейкай меры пасынкамі, але працавалі зь вялікім уздымам.

У нас быў строгі графік запісу ў студыі. Заўсёды сьпешка. Беглі ў студыю зь сінімі па самыя локці рукамі, бо тэксты друкаваліся на сініх матрыцах. І ўжо пасьля запісу ў студыі адмывалі рукі спэцыяльнай сьмярдзючай пастай.

Першыя беларускія перадачы былі па 15 хвілін. Яны паўтараліся 8 разоў у розны час сутак. Кожная перадача пачыналася зь пяцішасьці хвілін навінаў, перакладзеных з рускай мовы. Некалькі хвілін пра міжнародныя падзеі й матэрыял на беларускія тэмы: камэнтар на які-небудзь артыкул савецкіх беларускіх газэтаў (газэты даходзілі да радыё зь вялікім спазьненьнем) або весткі з жыцьця беларусаў на Захадзе. Як толькі ўзялі на працу беларускага манітора — беларускія перадачы сталі больш актуальнымі,

бо мы маглі адразу рэагаваць на падзеі ў Савецкай Беларусі. Беларускім маніторам быў шмат гадоў мастак Дзімітры Чайкоўскі. Праца ягоная была нялёгкая, таму што беларускія перадачы часам цяжка было разабраць і сп. Чайкоўскаму проста даводзілася друкаваць толькі тое, што ён мог зразумець, а таму ў маніторных тэкстах было шмат прабелаў.

Усе гатовыя перадачы радыё трэба было даставіць на перадатчыкі ў горадзе Лямпэртгайм, кілямэтраў 400 на поўнач ад Мюнхэну. Напачатку гэта рабілася так: матацыкліст імчаў на галоўную станцыю Мюнхэна й перадаваў пакунак з праграмамі кандуктару цягніка на Мангайм. Матацыкліст у Мангайме браў стужкі й вёз іх у Лямпэртгайм. Гэтая працэдура займала каля пяці гадзін. Так было на самым пачатку існаваньня радыё. Неўзабаве наладзілася сувязь зь Лямпэртгаймам праз тэлефонныя лініі.

У той час ніводная рэдакцыя ня мела прафэсійных работнікаў радыё. Было шмат выдатных публіцыстаў і журналістаў, якія друкаваліся ў эмігранцкіх газэтах і часапісах. Яны адразу зразумелі, што радыё вымагае перадусім карацейшых сказаў. Давялося перавучвацца. Можна сказаць, што ўсе вучыліся «on the job», працуючы.

У беларускай рэдакцыі недахопу аўтараў не было. Апрача штатных супрацоўнікаў, пісалі для беларускіх праграмаў д-р Станіслаў Станкевіч, сп. Сымон Кабыш-Кандыбовіч і іншыя. Няштатныя аўтары падавалі напісаныя ад рукі матэрыялы, якія трэба было друкаваць на матрыцы, а друкавалі ўсе ў рэдакцыі толькі двума пальцамі. Вось чаму беларуская рэдакцыя зь вя-

лікім нецярпеньнем чакала майго прыезду. І які ж гэта быў для ўсіх шок, калі я прызналася, што я ніколі ў жыцьці не друкавала на беларускай машынцы. Праўда, асвоіла я яе хутчэй чым за тыдзень і з часам ня толькі друкавала ўсе матэрыялы для беларускіх перадачаў, але ў вольныя ад працы на радыё дні пад дыктоўку друкавала й усе матэрыялы для газэты «Бацькаўшчына», якая тады выходзіла ў Мюнхэне.

Яшчэ трэба было ўсім навучыцца чытаць перад мікрафонам. І тут нам вельмі пашчасьціла: на пасаду галоўнага рэжысэра радыё прызначылі чалавека, які зваўся Эрнст Канстантын. Асоба гэтая была досыць загадкавая: ужо прозьвішча ягонае здавалася нам несапраўдным. Ён беззаганна гаварыў па-нямецку, амаль без памылак — па-руску, вельмі добра ведаў ангельскую й францускую мовы й нават турэцкую. Ён часта здымаўся ў кіно, а галоўнае — перад тым, як прыйшоў на Радыё Вызваленьне, працаваў на нямецкім радыё. Вось ён і навучыў усіх нас, як трэба чытаць, на якой адлегласьці сядзець перад мікрафонам, як гартаць тэксты, каб яны не шамацелі, як укладацца ў дадзены час, як чытаць бяз патасу й каб гучэла так, што дыктар не чытае гатовы тэкст, а расказвае.

Дыктары рускай рэдакцыі не былі захопленыя Канстантынам. У аддзеле было некалькі «прымадоннаў», якія гралі ў тэатрах яшчэ да вайны. «Падумаеш, нейкі немец будзе нас вучыць, як трэба чытаць!» А мы, дыктары нацыянальных рэдакцыяў, былі яму бязьмежна ўдзячныя. Ён быў вельмі цярплівы, прыемны чалавек. Ягоныя інструкцыі не былі толькі тэорыяй: ён сам мог

умела паказаць, як трэба чытаць. І нават аўтары цанілі ягоныя парады.

Нашае радыё было своеасаблівым. У нармальных умовах прыйшоў бы чалавек дадому, уключыў радыёпрыймач і паслухаў, як гучыць тое, што ён запісаў. Нашых перадачаў не было чуваць у Заходняй Эўропе, бо сыгнал накіроўваўся пад адпаведным кутом на розныя рэспублікі Савецкага Саюзу. А нам заставалася толькі гадаць, ці слухаюць нас на Бацькаўшчыне. Падставы верыць, што нас слухаюць, былі. Як толькі пачаліся перадачы Радыё Вызваленьне, запрацавалі савецкія глушылкі. Спэцыялісты на Захадзе з часам падлічылі, што Савецкі Саюз траціў больш сродкаў на глушэньне, чымся каштавала ўтрыманьне радыё. Ну, а калі пачаліся нападкі на нас у савецкай прэсе, то сумліваў ужо не было — *слухаюць*!

Сталаваліся мы ў так званай «кантыне», у бараку, дабудаваным побач з будынкам радыё. Ежа там была досыць смачная, але хадзілі розныя чуткі адносна таго, дзе гаспадар купляў прадукты. Шмат жартавалі на гэтую тэму. Памятаю, аднойчы адзін калега-татарын прыходзіць у кантыну й крычыць гаспадару: «Аміран, прынясі мне катлеты. Лекар мне забараніў есьці мяса!».

На радыё існаваў аддзел перакладаў. Усе перадачы, апрача навінаў, перакладаліся на ангельскую мову (ужо пасьля таго як пайшлі ў эфір) і адсылаліся ў Вашынгтон. Беларускія й украінскія перадачы перакладалі звычайна ангельцы, якія ведалі рускую мову. Не абыходзілася без кур’ёзаў. Прыходзіць неяк да мяне перакладчык і кажа: «Паглядзі, што тут напі-

сана». Я гляджу: «двухпавярховыя дамы». Ён кажа: «двухпавярховыя, гэта значыць — два паверхі, так?». Я пацьвердзіла. «А пры чым жа тут да́мы?»

Нас зь цёцяй Барбарай пасялілі ў гатэлі «Рэгіна Паляст». Да вайны гэта быў адзін з самых шыкоўных гатэляў Мюнхэну. Цяпер частка гатэлю была пашкоджаная бомбай, а рэшта вытрывала, таму што будынак быў вельмі салідны. У гэтым гатэлі спыняліся дыпляматы, важныя госьці зь іншых краінаў, вядомыя артысты. Наша радыё здымала некалькі пакояў, дзе часова разьмяшчалі супрацоўнікаў з-за мяжы, для якіх шукалі адпаведныя кватэры. На працу нас вазілі маленькім аўтобусам.

Пакуль я была на працы, цёця Барбара нудзілася й шукала сабе занятак. Магчымасьцяў было няшмат, тым больш што амаль два месяцы пасьля нашага прыезду ў Мюнхэне бесьперастанна ішоў дождж. Адна газэта нават напісала: «Гэтым летам была зусім добрая зіма». А баварцы часта ўспаміналі свайго гумарыста Карла Валентына, які некалі сказаў: «Чым такое надвор'е, дык лепш ніякага!».

Аднаго разу пад'яжджаем мы з калегамі да гатэлю, а ўжо на вуліцы вельмі добра пахне часныком і яшчэ нечым. Уваходзім у фае — пахне яшчэ лепей. Наш пакой на першым паверсе. Падымаюся па сходах. Нягледзячы на тое, што кухня й рэстаран знаходзяцца на партэры, пах розных прысмакаў робіцца ўсё мацнейшы. Падыходжу да нашага пакоя. Дзьверы вельмі цяжкія, падвойныя. Адчыняю першыя, і тут толькі разумею, што гэты цудоўны пах часныку, кропу й яшчэ нечага ідзе з нашага пакоя. Цёця

вырашыла засаліць маладзенькія гурочкі. На наступны дзень мы запрасілі ўсю рэдакцыю. Пад гарэлачку зьліквідавалі гэтыя гуркі. А пасьля доўга праветрывалі пакой і часта сьмяяліся, прыгадваючы гэтую прыгоду.

Працавалі мы ўсе зь вялікім энтузіязмам. Гэта ж першы раз беларусы атрымалі магчымасьць «размаўляць» са сваімі суродзічамі на моцных радыёвых хвалях. Хаця наша «размова» была аднабокай. Першыя два месяцы праляцелі вельмі хутка. Нарэшце зазьзяла сонца, настрой ува ўсіх стаў яшчэ лепшы. Ніхто ня мог прадбачыць, што нас чакала наперадзе.

Першага верасьня 1954-га году не зьявіўся на працу наш Лявон Карась. Гэта быў вельмі акуратны, пунктуальны супрацоўнік. Тэлефона ў яго не было. Вечарам таго ж дня калегі пайшлі да гаспадыні, дзе Лявон здымаў мэбляваны пакой. Гаспадыня сказала, што яна яго ўжо некалькі дзён ня бачыла. Не прыйшоў ён і на наступны дзень. На трэці дзень наш шэф папрасіў мяне патэлефанаваць у нямецкую паліцыю. У мяне было ўражаньне, што чыноўнік нават не запісаў тое, што мы яму казалі. Ён толькі спытаўся, колькі гадоў нашаму супрацоўніку. Карасю тады было 30. Чыноўнік засьмяяўся й сказаў, што ён, напэўна, загуляў у якой-небудзь дзяўчыны. Але калі ён адчуў, што нам не да жартаў, то папрасіў патэлефанаваць ізноў на пачатку наступнага тыдня, калі Карась да гэтага часу ня зьявіцца.

А 7-га верасьня з паліцыі пазванілі нам. Сказалі, што ў рэчцы Ізар знайшлі труп, і папрасілі зараз жа прыехаць і паглядзець, ці гэта часам ня наш супрацоўнік. Гэта быў наш Лявон Карась. Сьлядоў гвалту відаць не было. Мне паказалі

пусты кашалёк, у якім быў толькі маленькі здымак Зоры Савёнак (пазьней Зоры Кіпель) — ягонага вялікага каханьня яшчэ з часоў гімназіі.

Наколькі нам было вядома, ніякай экспэртызы не рабілі. Таму што ў Лявона не было сваякоў, ніякіх падрабязнасьцяў нам не паведамілі. Дзіўна было й тое, што папрасілі ягоных сяброў і калегаў Марговіча й Сыча пахадзіць з фатаграфіяй Карася па тых рэстаранах, дзе яны бывалі разам, і апытаць афіцыянтак і гасьцей, што ім ведама пра гэтую асобу.

Пахавалі мы Лявона 14-га верасьня 1954-га году. Было шмат людзей, 16 вялікіх вянкоў. Чалавек ён быў прыемны, сьціплы й сумленны працаўнік.

Праз тры месяцы ў мюнхэнскай газэце «Зюддойчэ цайтунг» зьявілася маленькая зацемка такога зьместу: «У той час уважалася, што Карась стаўся ахвярай нейкага нешчасьлівага выпадку. Аднак новыя дадзеныя дазваляюць дапускаць, што Карась загінуў у выніку злачынства».

Вось так раптоўна скончылася нашае радаснае й бесклапотнае жыцьцё ў Мюнхэне. Цяпер мы баяліся вечарам выходзіць з хаты. Перасталі гуляць у парку, як толькі пачынала цямнець.

Але гэта быў толькі пачатак. У канцы лістапада таго ж 1954-га году прыходзім раніцай на працу. Адчуваем, што нешта сталася: у калідорах шмат людзей, у некаторых у руках газэты, усе гавораць напаўголаса, нэрвуюцца, не сьпяшаюцца разыходзіцца па сваіх офісах. Аказваецца, мясцовая мюнхэнская газэта на першай старонцы надрукавала такую вестку: «Учора ўначы галоўны рэдактар азэрбайджанскай службы Радыё Вызваленьне Абдул Фаталібэй

забіў свайго суайчыньніка Ізмайлава й уцёк у Савецкі Саюз».

Азэрбайджанская рэдакцыя ў роспачы. Ня могуць паверыць! Іхны галоўны рэдактар Фаталібэй быў заняты антыкамуніст. Але факт, што на працы яго няма. Таксама як і ў выпадку Карася, у Фаталібэя не было ў Мюнхэне ніякіх сваякоў, а таму нямецкія ўлады нават адміністрацыі радыё вельмі неахвотна выдавалі інфармацыю. Сказалі толькі, што гаспадыня, у якой Фаталібэй здымаў мэбляваны пакой, знайшла пад сталом у кухні труп, выклікала паліцыю й на пытаньне, хто гэта такі, сказала, што гэта знаёмы ейнага кватаранта Фаталібэя, які апошнім часам яго наведваў.

Пахавалі Ізмайлава. Газэты яшчэ доўга пісалі пра гэтае забойства, час ад часу кідалі камяні ў наш гарод: вось, маўляў, якія тыпы працуюць на Радыё Вызваленьне ў мірным горадзе Мюнхэне.

А нашыя азэрбайджанскія калегі не супакойваліся. Схадзілі да гаспадыні, распыталі яе, ці пэўная яна, што гэта быў знаёмы ейнага кватаранта Ізмайлаў? Тая сказала ім, што твар быў акрываўлены, але яна пазнала Ізмайлава па адзежы.

Шмат намаганьняў спатрэбілася азэрбайджанскай рэдакцыі й адміністрацыі радыё, каб нямецкія ўлады пагадзіліся адкапаць забітага. І што ж аказалася? Нябожчык быў не Ізмайлаў, а шэф азэрбайджанскай рэдакцыі Абдул Фаталібэй. Яго забіў савецкі агент Ізмайлаў, надзеў на яго свой пінжак, а сам уцёк у Савецкі Саюз.

У 1957-м годзе пры загадкавых абставінах загінуў украінскі дзеяч Леў Рэбэт, у 1959-м годзе

забілі кіраўніка ўкраінскіх нацыяналістаў Сьцяпана Бандэру. Гэтыя асобы не былі зьвязаныя з радыё, але былі зацятымі змагарамі супраць камунізму. А таму нам усім было ясна, што гэта справа рук КГБ, хаця канкрэтных доказаў не было. Праз два гады пасьля забойства Бандэры на Захад з Савецкага Саюзу ўцёк Сташынскі й папрасіў палітычнага прытулку. Ён прызнаўся ў абодвух забойствах. Яго пасадзілі ў турму. Далейшы ягоны лёс мне невядомы.

У канцы сьнежня 1959-га году ў рэчцы Ізар ізноў знайшлі труп: гэта была 19-гадовая Тамара, прыёмная дачка нашай землячкі Надзеі Абрамавай-Тэадаровіч. Ейная сьмерць засталася нявысьветленай.

Кожны раз, як мы зь цёцяй прыляталі ў Нью-Ёрк на адпачынак, то нашыя землякі спатыкалі нас, як бы мы прыляцелі зь лініі фронту.

## 10. Архіпэлягі маёй мамы

*Мяне прыстаўляюць да амэрыканскага дарадніка. Цёця наводзіць дысцыпліну ў беларускай рэдакцыі. Першы пашпарт у 26 гадоў. «Інжынэр Юрка» зь беларускага самазвала прыносіць вестку пра маму. Яшчэ адзін «нямецкі паштальён». Савецкія лягеры ва ўспамінах Салжаніцына й маёй мамы.*

Тым часам нашае жыцьцё й праца ў Мюнхэне ішлі далей.

Шмат хто з супрацоўнікаў нацыянальных рэдакцыяў, уключаючы беларусаў, марылі пра тое, што вось цяпер можна будзе адпомсьціць савецкай уладзе за ўсе крыўды, за ўсе разбураныя сем'і, за зьдзекі. Але аказалася, што аб ніякай помсьце не магло быць і гутаркі. Ад самага пачатку ў аснову перадачаў былі пакладзеныя два прынцыпы: неперадузятасьць, ці, як тады мы казалі, *непрадрашэнства*, і самавызначэньне. Гэта значыла, што было катэгарычна забаронена прапагандаваць які-небудзь альтэрнатыўны

палітычны лад і трэба было згадзіцца з тым, што народы Савецкага Саюзу самі мусяць вырашаць свой лёс.

Апрача таго, было забаронена:

— падбухторваць слухача да неразважных учынкаў,

— даваць рэцэпты, як трэба жыць,

— хваліцца, як у нас на Захадзе добра,

— ужываць такія словы, як «бандыты», «злодзеі», «каты»,

— гаварыць «Крэмль загадаў», «Масква вырашыла» (бо гэта магло абразіць рускіх слухачоў).

Мы мусілі прамаўляць ня толькі да тых, хто супраць савецкай улады, але й да тых, хто за.

Супрацоўнікі нацыянальных рэдакцыяў мелі свае ідэі, як зьвяртацца да слухачоў, але мусілі падпарадкавацца. А за тым, каб не было ніякіх парушэньняў, сачылі так званыя «дараднікі» (фактычна — цэнзары). Іх было чатыры: адзін для рускай рэдакцыі, адзін для беларускай і ўкраінскай і па адным для цюрскіх і каўкаскіх рэдакцыяў.

Дараднікам для беларусаў і ўкраінцаў быў прызначаны Робэрт Шэнклэнд, амэрыканец, вэтэран вайны, пісьменьнік, вельмі сымпатычны й вясёлы чалавек. Адзінай ягонай заганай было тое, што ён ня ведаў ніводнай славянскай мовы. Яму на помач далі сп-ню фон Бойка, рускую жанчыну, якая ведала заходнія мовы й якая запэўніла начальства, што з украінскімі й беларускімі тэкстамі яна дасьць рады без праблем.

Нейкі час усё ішло гладка. Але раптам да аўтараў дайшлі чуткі, што сп-ня фон Бойка расказвае ў калідорах і ў кантыне, што беларусы й

украінцы ня ўмеюць пісаць і наагул перадаюць «чорт ведае што». Часам яна пад агульны сьмех прыводзіла нейкія выхапленыя з кантэксту цытаты. Вось тут беларусы й украінцы збунтаваліся й пачалі пагражаць забастоўкай.

Начальства зьбянтэжылася: першы вялікі скандал на радыё. Склікалі паседжаньне беларускіх і ўкраінскіх аўтараў і рэдактараў. Тыя выказалі сваё абурэньне. Начальства пагадзілася зьняць сп-ню фон Бойка з гэтай пасады, але каго ўзяць на ейнае месца? І тут украінскі рэдактар Зэнон Пэлэньскі сказаў: «Нэхай Галына пэрэкладае!». Тады збунтаваліся беларускія рэдактары: «Ні за што яе не аддамо! Мы яе ледзь дачакаліся». Начальства паабяцала падумаць. А праз пару дзён сказалі, што нікога, хто падышоў бы, яны не знайшлі. «Або ваша Галіна, або далей будзе перакладаць сп. Шэнклэнду фраў фон Бойка».

Доктар Жук-Грышкевіч, галоўны рэдактар беларускай рэдакцыі, выклікаў з Парыжу сп. Абрамчыка, прэзыдэнта Рады БНР, які заснаваў беларускую рэдакцыю. А сп. Абрамчык сказаў: «Даражэнькія, адпусьціце Галіну. Я толькі што дамогся, каб узялі на працу беларускага манітора. А цяпер мы маем нагоду мець свайго чалавека на яшчэ адным важным месцы». І мяне адпусьцілі з умовай, што я навучу цёцю Барбару друкаваць і выконваць іншую тэхнічную працу. Яе возьмуць на маё месца, а я й далей буду ў іх чытаць перад мікрафонам.

Цёця вельмі хутка асвоіла машынку, добра перакладала навіны й наагул клапацілася аб дысцыпліне ў рэдакцыі.

У 1955-м годзе д-р Жук-Грышкевіч вярнуўся ў Канаду. Месца галоўнага рэдактара заняў Ула-

дзімер Гіцкі. І ён, і іншыя супрацоўнікі рэдакцыі любілі выпіваць і часта бегалі ў кантыну. Дык вось цёця часам чакае на іх, чакае, ужо трэба ісьці ў студыю, а іх усё няма. Яна ідзе з адпаведным выразам твару ў кантыну, і як толькі зьяўляецца на парозе — землякі ўсё кідаюць і бягуць у офіс.

А мая праца цяпер выглядала так: да абеду я мусіла прачытаць сп. Шэнклэнду па-ангельску ўсе скрыпты беларускай і ўкраінскай рэдакцыяў. Гэта ня мусіў быць дасканалы пераклад. Ён проста хацеў ведаць слова ў слова, што там было напісана. Частку скрыптаў ён адкідаў або прасіў перарабіць. Са скрыптамі на палітычныя тэмы ў мяне праблемаў не было. Але калі трапляліся матэрыялы пра сельскую гаспадарку сп. Кабыша або фэльетон Пятра Сыча, то мне было цяжкавата. Я, напрыклад, тады паняцьця ня мела, як сказаць па-ангельску «азімыя культуры» ці «падымаць цаліну». Каб ня бэкацьмэкаць перад сваім шэфам, я вырашыла браць дадому пададзеныя рэдактарамі матэрыялы, абкладалася слоўнікамі, а на палёх алавіком пісала пераклады такіх выразаў. Наступнай раніцы я вельмі гладка ўсё перакладала. А сп. Шэнклэнд ня мог нахваліцца, якая ў яго цудоўная асыстэнтка й як спрытна ў нас ідзе праца. Ён і не здагадваўся, што ў той час я спала ўсяго некалькі гадзін уначы.

Часам траплялісь такія скрыпты, якія ня трэба было паказваць шэфу. Адзін украінскі аўтар напісаў пра дэмакратыю ў Амэрыцы. Сам скрыпт быў добра напісаны, але кульмінацыйным пунктам яго было цьверджаньне, што амэрыканцы так любяць свайго прэзыдэнта (Дуайта

Айзэнгаўэра), што ягоную жонку называюць «мамай». Аўтар-бедалага ня ведаў, што Мэймі (пішацца «Mamie») — так звалі жонку Айзэнгаўэра, гэта звычайнае ангельскае жаночае імя. Аўтар быў мне вельмі ўдзячны за тое, што я, так сказаць, «перахапіла» ягоны скрыпт. Ні шэф, ні калегі пра гэта ніколі не даведаліся.

Часам бывалі канфлікты зь Пятром Сычом. Аднойчы ён напісаў фэльетон на кітайскую тэму й прыдумаў некалькі кітайскіх імён. Адно зь іх гучэла так: «Мам цэ в ду». А былі й яшчэ горшыя. Я да яго: «Пятрусь, так нельга!» — «А што такое? Гэта ў цябе хворая фантазія». Галоўнага рэдактара не было ў той дзень на працы, а Сыч быў ягоным намесьнікам. І толькі з дапамогай іншых супрацоўнікаў рэдакцыі ўдалося ўгаварыць яго не хуліганіць. І гэты скрыпт не дайшоў да містэра Шэнклэнда ў такім выглядзе.

Пятрусь Сыч любіў ужываць палянізмы (ён паходзіў з Заходняй Беларусі). Яго ўлюбёным словам было «сукцэс». І з гэтым трэба было змагацца, бо, паводле дырэктываў, мы мусілі зьвяртацца да слухачоў на зразумелай ім сучаснай мове й пазьбягаць замежных словаў, правінцыялізмаў і г.д.

Праз некаторы час містэра Шэнклэнда прызначылі дараднікам усіх трох славянскіх рэдакцыяў. Працы ў мяне прыбавілася, але я ўжо «набіла руку» і ня брала больш скрыпты дадому. Некаторыя матэрыялы ён падпісваў не чытаючы, калі я яго запэўнівала, што там усё ў парадку.

У 1956-м годзе я дастала амэрыканскае грамадзянства. Гэта значыць, што ў 26 гадоў я трымала ў руках свой першы пашпарт. Амэрыканкай стала й цёця. Яе прозьвішча Вержбаловіч

тады пісалася так: Werschbalowitsch — ажно 16 літар! Такога б ніхто ў Амэрыцы ня вымавіў, таму я яе ўгаварыла назвацца скарочана — Вербіч (Verbich). Цяпер нам можна было падарожнічаць амаль па ўсім сьвеце бязь візаў.

Амаль адразу пасьля нашага прыезду ў Мюнхэн стала вядома, што ў 1958 годзе ў сталіцы Бэльгіі Брусэлі адчыніцца вялікая міжнародная выстава. І вось гэты год надышоў. Усіх нас цікавіў савецкі павільён. А каля гэтага павільёну, пад адкрытым небам, дэманстравалі наш беларускі самазвал. Мы паехалі ў Брусэль вялікай групай. У самазвале сядзеў інжынэр зь Менску Юрка (прозьвішча ягонага мы не пыталіся). Ён паставіўся да нас вельмі прыхільна: мы па чарзе залазілі да яго ў кабіну, фатаграфаваліся, жартавалі і, вельмі задаволеныя з гэтай сустрэчы, вярнуліся ў Мюнхэн.

У верасьні таго ж 1958-га году я мелася ляцець у Нью-Ёрк. Ляцець можна было праз Амстэрдам, Брусэль, Лёндан. Палётаў зь Мюнхэну ў ЗША ў той час не было. Я вырашыла ляцець з Брусэлю, каб яшчэ раз зьведаць гэтую выставу. У Брусэль прыехала аўтам. Там усё яшчэ стаяў наш самазвал, у якім сядзеў інжынэр Юрка. Ён пацікавіўся, адкуль я. Я коратка расказала яму сваю біяграфію й тое, што ў 1938-м годзе арыштавалі й саслалі маю маму й што яна напэўна ня выжыла, бо мела слабое здароўе. Я сказала, што маю цёцю ў Маскве, але ня пэўная, ці яна перажыла вайну. А Юрка сказаў: «Напішы ліст да цёці. Я скора еду ў Менск на адпачынак, дык я гэты ліст вышлю зь Менску. Адрас цёці ведаеш?» А як жа! Гэты адрас мне даўблі зь дзяцінства на той выпадак, калі б арыштавалі й маму, і цёцю

Барбару, і я засталася б сама: Ульянаўская 8/12, кватэра 9, горад Масква. Я напісала ліст і паляцела ў Нью-Ёрк. Праз месяц вярнулася, ізноў спаткалася зь Юркам. Гэтым разам ён запрапанаваў схадзіць вечарам у кафэ й сказаў, што ягоныя калегі вельмі хацелі б са мной пазнаёміцца. Я згадзілася.

Незадоўга перад гэтым пры радыё адчынілі аддзел вывучэньня аўдыторыі. Узначальваў яго Макс Раліс. Перад нашым ад'ездам у Брусэль ён папрасіў нас, калі нам давядзецца гутарыць зь землякамі зь Беларусі, распытаць іх, ці слухаюць на Беларусі Радыё Вызваленьне, у якія гадзіны й г.д. Я спадзявалася, што ў такой гутарцы ў кафэ я змагу сабраць патрэбную інфармацыю для Раліса.

Прыйшлі мы ў кафэ. Юрка адразу зьнік і пакінуў мяне са сваімі «калегамі». Гэта былі вельмі сымпатычныя, старэйшыя ад мяне асобы. Мы жартавалі, сьмяяліся. Раптам адзін зь іх перадае мне таўсты незапячатаны канвэрт зь лістом. Гэта быў ліст ад мамінай старэйшай сястры Лёлі з Масквы. На самым пачатку ліста цёця Лёля пісала, што мая мама перажыла арышт і высылку, але як толькі яна пачала нас шукаць, то менскія ўлады сказалі, што мы зь цёцяй Барбарай загінулі ў час бамбёжкі. Пасьля гэтага маму разьбіў параліч, і цяпер яна знаходзіцца ў інвалідным доме ў Поцьме.

У мяне ўсё паплыло перад вачыма. Са мной сталася страшная гістэрыка: я ня плакала, я ўсхліпвала й уся трэслася. Нешта падобнае сталася са мной у дзяцінстве, у 1943-м годзе, калі хавалі майго дзядулю на Вайсковых могілках у Менску. Відаць, я здорава напалохала Юркавых

«калегаў», бо калі апрытомнела — нікога са мной ужо не было.

У той жа вечар я села ў машыну й пад раніцу была ў Мюнхэне. Прахварэла цэлы тыдзень, а тады аднесла гэты ліст у аддзел бясьпекі. Там мне паспачувалі, але адначасна й вылаялі за тое, што адна пайшла на такую сустрэчу. Казалі, што трэба было ўзяць каго-небудзь зь беларусаў, што жылі ў Брусэлі. Тады ўжо былі вядомыя выпадкі, калі эмігрантаў выкрадалі й сілай вывозілі з Заходняй Эўропы ў Савецкі Саюз.

Перада мной і цёцяй Барбарай паўстала праблема: што ж нам цяпер рабіць? Першая думка была: нарабіць шуму, каб прымусіць савецкія ўлады адпусьціць маму да нас. Шансы, ясна, былі мінімальныя. Апрача таго, у ходзе такой кампаніі я б мусіла прызнацца, што я ў сапраўднасьці нарадзілася й жыла ўвесь час у Савецкай Беларусі, а ня ў Польшчы. Але ў працэсе эміграцыі ў ЗША я прысягала, што ўсе дадзеныя ў мяне правільныя. А ў 1956-м годзе, калі атрымлівала амэрыканскае грамадзянства, прысягала яшчэ раз. Трэба памятаць, што гэта былі пяцідзясятыя гады мінулага стагодзьдзя. У мяне адразу адабралі б амэрыканскі пашпарт. Маглі б дэпартаваць або пасадзіць у турму. Такіх выпадкаў было нямала.

Толькі ў сямідзясятых гадах адзін рускі эмігрант у ЗША, Радыён Бярозаў, якому абрыдла жыць з фальшывай біяграфіяй, прызнаўся, што прыехаў у Амэрыку на падставе фальшывых дадзеных. У яго, здаецца, гэта тычылася ня толькі месца нараджэньня. Ён растлумачыў, што зрабіў гэта, толькі каб пазьбегнуць рэпатрыяцыі ў Савецкі Саюз. Гэты выпадак атрымаў

шырокі розгалас у прэсе. Эмігранты называлі гэта «бярозаўскай хваробай». Ува ўсіх нас заняло дух. Чакалі, што цяпер будзе. У адрозьненьне ад саракавых гадоў, калі амэрыканцы верылі Саветам, што ў лягерах для перамешчаных асобаў аж кішыць калябарантамі й здраднікамі, у сямідзясятых гадах амэрыканскія ўлады ўжо разабраліся ў сытуацыі ў Эўропе падчас і пасьля вайны. Было вырашана даравацт усім нам тое, што раней уважалася вялікім злачынствам: парушэньне прысягі. Хто хацеў, мог зьмяніць фальшывыя дадзеныя на сапраўдныя, але можна было й не мяняць. Я выбрала другі варыянт.

У Беластоку жыла ўдава майго дзядзі Аляксандра, які знайшоўся падчас нямецкай акупацыі, але памёр на сухоты ў 1947-м годзе. Спачатку мы паспрабавалі наладзіць сувязь з Масквой праз яе. Мамінага адрасу ў Поцьме мы ня мелі. Некаторыя лісты даходзілі. На пачатку шасьцідзясятых гадоў памерла ўдава майго дзядзі, і трэба было шукаць іншых способаў сувязі.

Сувязь з Масквой была вельмі спарадычная. Мама пісала лісты як бы да сястры ў Маскву. Тая трымала іх, чакаючы нагоды пераслаць у Мюнхэн. Вельмі дапамог нам у гэтай справе адзін ведамы мюнхэнскі лекар-артапэд. Ён лячыў маю зламаную руку й вельмі зацікавіўся маёй біяграфіяй. Ягоныя бацькі згінулі ў гітлераўскім канцэнтрацыйным лягеры. Калі ён даведаўся пра гісторыю з мамай, то запрапанаваў дапамагчы. Ён амаль штогод езьдзіў у Савецкі Саюз на мэдыцынскія кангрэсы, сымпозіюмы, сэмінары. Кожны раз ён браў нашыя лісты. Часам згаджаўся ўзяць невялічкі пакунак з падарункамі, а нам прывозіў весткі адтуль. Мама

пісала алавіком, левай рукой, вельмі павольна, бо ўвесь правы бок быў спаралізаваны. Пасьля таго як памёр гэты лекар, нам дапамагаў ягоны сын, таксама лекар-артапэд. Мама памерла ў кастрычніку 1974-га году. За гэты час у мяне сабралася шмат лістоў, дзе яна апісвала жахі ейнага арышту й жыцьця ў ссылцы.

Адразу пасьля арышту, падчас першага так званага «сьледзтва», сьледчы выбіў ёй пярэднія зубы. Празь некалькі дзён другі сьледчы вырваў ёй пасму валасоў. На адным з наступных допытаў гулялі ёй у мячык: кідалі ад адной сьцяны да другой.

Вось што мама пісала пра сваю ссылку ў лягеры Сухабязводнае (гэты лягер успамінае ў сваёй кніжцы «Архіпэляг ГУЛаг» Аляксандар Салжаніцын). Я пераклала гэтыя вытрымкі, бо мама пісала па-руску:

«Некалькі разоў я была на валаску ад сьмерці. Пры пагрузцы ў вагоны лесаматэрыялу на мяне звалілася вялікае бервяно й моцна мяне пакалечыла. Я ня памятала, як апынулася ў шпіталі.

Памірала ад дызэнтэрыі, пазьней ад пэлягры. Гэтая хвароба бывае ад голаду. Але дзеля таго што я заўсёды была на цяжкой працы, ва ўдарных і рэкордных брыгадах, то я добра харчавалася й ня ведала, што такое голад. Я, як у нас казалі, дайшла маральна. Увесь час адно пытаньне сьвідравала мозг: *за што*? Ізноў нястрымнае жаданьне вярнуцца дадому, да сваіх родных і блізкіх. Асабліва сумавала па табе, мая залатая дачушка. Усё гэта мяне зьнясіліла. Сытуацыя была безнадзейная: такіх шкілетаў у нас было шмат, і ўсе яны падалі, як мухі. Ад-

нак са мной стаўся цуд: я выжыла й паступова пачала папраўляцца. Лекары тлумачылі гэта тым, што раз я перанесла пэлягру, то сталася поўнае перараджэньне арганізму. Цяпер у мяне атрымалася паўнакроўе.

Месяцы за два перад новай катастрофай у мяне пачаліся галаўныя болі й моцнае галавакружэньне. Зьвяртацца да лекара не было ніякай магчымасьці. Пра такую хваробу, як гіпэртанія, я ня мела паняцьця. Сталася гэта а 10-й гадзіне раніцы, на працы. Я была зь сякерай у руках. Я зразумела, што гэта параліч, бо сама бачыла, як паплыла рука й нага (правыя). Мяне падхапілі, паклалі на лаўку. Я яшчэ гаварыла, але хвілін празь пяць нешта сталася ў галаве, і я страціла прытомнасьць. Прачнулася праз 18 сутак. Тры месяцы праляжала ў стацыянары, а тады мяне перавезьлі ў шпіталь для нэрвова хворых. Шпіталь быў чысты, шмат кветак усярэдзіне й наўкола. Аднак абставіны, у якіх мне давялося там ляжаць, былі кашмарныя, адзін жах.

Хворыя злачынцы выраблялі неверагодныя рэчы. На маіх вачах душылі, рэзалі, гвалцілі, секлі сякерамі. Усе яны лічыліся эпілептыкамі або ціха памешанымі. Для буйных быў асобны корпус — псыхіятрычны.

Толькі ў 1952-м годзе адбылася грунтоўная праверка. І што ты, мая дзетка, думаеш? Усе яны аказаліся сымулянтамі. А колькі здароўя я страціла з-за іх! Колькі разоў я траціла прытомнасьць ад страху й ад лужаў крыві. А лекары казалі: «Анна Іванаўна, ці ж можна так? Няўжо вы яшчэ не прызвычаіліся да вашага корпусу? Нельга так рэагаваць!». Так, лёгка гэта сказаць.

Праляжала я ў гэтым шпіталі 6 гадоў. Перанесла яшчэ адзін інсульт, але ўжо не такі моцны. Пасьля гэтага мяне перавезьлі ў інвалідны дом у Поцьме. Там да мяне прычапілася яшчэ адна хвароба, запаленьне трайнічнага нэрву: страшэнныя болі каля вуха, вока й носу».

Ня ўсе маміны лісты дайшлі да нас. Некаторыя згубіліся паміж Поцьмай і Масквой, а можа, былі перахопленыя цэнзарамі. Напрыклад, яна пыталася, што мы можам сказаць пра той допыт, дзе яе пыталі пра мужа цёці Барбары, які памёр гадоў пяць перад арыштам мамы й якога яна, фактычна, мала ведала, бо цёця Барбара жыла з мужам у Менску, а мама ў Бабруйску. Гэты ліст да нас не дайшоў. А ў адным лісьце мы знайшлі такую пасьветку.

Военный трибунал<br>
Белорусского<br>
Военного Округа<br>
16 июля 1956 г.<br>
№ __________<br>
Справка

Дело по обвинению ГОНЧАРЕНКО Анны Ивановны пересмотрено военным трибуналом Белорусского военного округа 10 июля 1956 года.

Постановление особой тройки от 28 сентября 1938 г., постановление особого совещания от 8 марта 1947 г. и постановление особого совещания от 12 марта 1952 года в отношении ГОНЧАРЕНКО Анны Ивановны отменены, и дело за отсутствием состава преступления прекращено.

Зам. председателя военного трибунала Белорусского Военного Округа полковник юстиции / Тутаев/

## II. Радыё Свабода

*Госьць у хаце слухача. Дыктар у трох асобах. Сустрэча зь землякамі ў фінскім рэстаране. Начныя званкі й шпегаваньне. Зьяўленьне Сяргея Рудніка й нашых дзяцей. Трагічная сьмерць цёці Барбары. Сямімесячны Юрачка прымае амэрыканскую прысягу.*

Пасьля паўстаньня ў Вугоршчыне й у Польшчы ў 1956-м годзе, калі Злучаныя Штаты й заходнія саюзьнікі не падтрымалі гэтыя краіны ў іхняй спробе скінуць камуністычны лад, Вашынгтон перагледзеў сваю палітыку вызваленьня ад камунізму. У траўні 1959-га году было вырашана зьмяніць назву Радыё Вызваленьне на Радыё Свабода.

Па меры таго як радыё рабілася ўсё больш прафэсійным, быў прыняты прынцып, паводле якога кожная важная навіна магла перадавацца ў эфір толькі ў тым выпадку, калі яна была пацьверджаная прынамсі дзьвюма крыніцамі.

Што да прэзэнтацыі матэрыялаў, то было вырашана, што мы мусім гучаць як «госьць у

хаце слухача» («guest in the living room»). Я ня памятаю, хто з нашых начальнікаў прыдумаў гэтую фармулёўку, але лічу яе вельмі трапнай. Бо й сапраўды: будучы госьцем у чыёй-небудзь хаце, чалавек мусіць гаварыць лагодна, без дыдактыкі, не спрачацца, не хваліцца.

Гэты спосаб камунікацыі са слухачамі для майго пакаленьня ня быў новы: якраз так размаўлялі дыктары й камэнтатары са сваімі слухачамі ў Злучаных Штатах. На гэта мы адразу зьвярнулі ўвагу, уключыўшы амэрыканскае радыё ў Нью-Ёрку ў 1950-м годзе. Было ўражаньне, што дыктар прамаўляе да цябе асабіста. І ўсё роўна, што ён гаварыў ці для якога прадукту рабіў рэкляму — ты яму верыў. Старэйшае пакаленьне на Радыё Свабода не падзяляла нашага захапленьня такой падачай матэрыялаў.

Аднойчы шэф рускай службы папрасіў мяне ўзяць удзел у іхняй новай перадачы для студэнтаў і моладзі. Я параіла яму зьвярнуцца з гэтай просьбай да беларусаў. Адказ быў адмоўны. А ў рускай службе не было ніводнага маладога голасу. Падключылася вышэйшае начальства. Сталі настойліва прасіць. Беларуская рэдакцыя зноў зьвярнулася да сп. Абрамчыка. Ён дазволіў, бо лічыў, што гэта надае прэстыжу беларускай рэдакцыі.

Пасьля вайны Мікола Абрамчык пасяліўся з жонкай Нінай пад Парыжам, у мястэчку Вільпэнт. Хатка іхняя хутчэй нагадвала барак. Жылі яны вельмі бедна. Выручаў гарод і сад, а што тычыцца мяса, то спажывалі сваёй гадоўлі трусоў. Мікола Абрамчык быў увесь час у разьездах па грамадзкіх справах. Калі прыяжджаў

у Мюнхэн, то спыняўся ў нас зь цёцяй. Наша сяброўства працягвалася цэлае жыцьцё.

У 1955 годзе ў Абрамчыкаў нарадзіўся першы й адзіны сын Альгерд, бацьку тады было 52 гады. Мяне папрасілі быць хроснай. Альгерд, або Алік, ад самага дзяцінства называў мяне «мама Галіна». З нараджэньнем сына сп. Абрамчык пачаў задумвацца пра ягоную будучыню. Часта пазычаў грошы, каб набыць якую-небудзь нерухомасьць. Аднойчы, калі мы наведалі Абрамчыкаў, прэзыдэнт БНР завёў мяне на гарышча й паказаў валізку, поўную дакумэнтаў. Тады я пабачыла на ўласныя вочы пашпарты БНР і маркі. Што сталася далей з архівам БНР, ня ведаю.

У канцы пяцідзясятых гадоў у Нямеччыне пачалася другая хваля эміграцыі перамешчаных асобаў у Злучаныя Штаты. Шмат з тых Ды-Пі, якія не змаглі эміграваць у ЗША на пачатку 50-х, цяпер атрымалі такую магчымасьць. І так сталася, што тры ўкраінскія дыктары адначасна атрымалі візы на выезд у Злучаныя Штаты й пакінулі Мюнхэн. Наагул трэба сказаць, што да пачатку 70-х гадоў праблема адпаведных галасоў ува ўсіх рэдакцыях Радыё Свабода заставалася вельмі вострай. Дзеці эмігрантаў не надаваліся на працу дыктараў: за вельмі невялікім выключэньнем іхняя родная мова ўжо была пад уплывам моваў замежных. Некаторыя вельмі добра гаварылі на мове бацькоў, але інтанацыі ўжо былі чужыя. А паводле дырэктываў Радыё Свабода мы мусілі размаўляць са слухачамі на іхняй сучаснай мове, і ніякія чужыя акцэнты не дапушчаліся.

На экстраным пасяджэньні на тэму адсутнасьці дыктараў украінскі рэдактар Васыль

Шульга сказаў: «Галына будэ в нас чытаты. Я іі навчу». Я ўкраінскую мову ведала нядрэнна й яшчэ лепш яе ўмацавала, перакладаючы ўкраінскія матэрыялы колішняму шэфу — містэру Шэнклэнду. З украінскімі калегамі заўсёды намагалася гаварыць на іхняй мове. Але я досыць скептычна паставілася да гэтай прапановы.

Скончылася гэта тым, што некалькі гадоў я была дыктарам у трох рэдакцыях Радыё Свабода: беларускай, рускай і ўкраінскай. І што цікава: ніхто з супрацоўнікаў нашага радыё, апрача тых, што мелі непасрэднае дачыненьне да гэтага, ня ведалі, што чытае адна й тая самая асоба. Відаць, я добра ўхапіла мэлёдыю й інтанацыю гэтых трох моваў.

Пазьней мяне перавялі ў новастораны аддзел спэцыяльных падзеяў («Special Events»). Нас пасылалі рабіць рэпартажы з розных цікавых імпрэзаў у Заходняй Эўропе: міжнародных зьлётаў моладзі, Алімпіяды ў Рыме, выставаў і г.д. У жніўні 1962-га году ў Заходнім Бэрліне адзначалі першую гадавіну пабудовы Бэрлінскай сьцяны. Маё заданьне было перадаць праз тэлефон кароткія рэпартажы для трох славянскіх рэдакцыяў. Каля сьцяны было месца, дзе ўсходненямецкая ахова забіла маладога немца, які хацеў перабегчы на Захад. На гэтым месцы заходнія немцы паставілі крыж.

І тут я аскандалілася: я раптам не магла прыпомніць, як будзе правільна па-ўкраінску — «крыж» ці «хрэст»? А спытаць не было ў каго. Дык я начытала два варыянты: адзін сказ са словам «крыж», а другі са словам «хрэст». Прымаў гэты тэлефонны рэпартаж у Мюнхэне тэхнік-немец. Ён забыўся перадаць маю просьбу

ўкраінскаму рэдактару выразаць неадпаведны сказ. А той вельмі сьпяшаўся й пусьціў рэпартаж у эфір, не праслухаўшы яго. Мне было вельмі непрыемна.

Летам таго ж 1962-га году ў сталіцы Фінляндыі Хэльсынкі адбываўся Восьмы міжнародны фэстываль моладзі й студэнтаў. Было ведама, што на гэты зьлёт прыедзе й група студэнтаў зь Беларусі. Перад ад'ездам зь Мюнхэну загадчык аддзелу вывучэньня аўдыторыі Макс Раліс ізноў папрасіў нас падчас размовы зь землякамі пастарацца даведацца: ці слухаюць на Беларусі Радыё Свабода, у якія гадзіны й г.д. Мы расшукалі гэтых студэнтаў у Хэльсынкі. У складзе гэтай групы быў і вядомы пазьней паэт і пісьменьнік Генадзь Бураўкін. Да нашай прапановы дзе-небудзь пасядзець і пагаварыць яны паставіліся прыхільна. Сказалі нам, дзе яны спыніліся, і вечарам мы туды пайшлі. Размова наша ня вельмі клеілася. Цьвірка й Марговіч адразу закранулі нашу балючую тэму — русыфікацыю. Пачаліся спрэчкі. Адчувалася варожасьць і падазронасьць з абодвух бакоў. Але шмат гадоў пазьней, а дакладна — у часапісе «Беларусь» № 1 за 1989 год, Генадзь Бураўкін успомніў гэтую сустрэчу з так званымі «беларускімі нацыяналістамі» ў сваім артыкуле «Калі я ўсьвядоміў сябе беларусам...». Аказалася, што наша зацікаўленьне жыцьцём на Бацькаўшчыне, нашая беззаганная беларуская мова (нягледзячы на тое, што мы ўжо амаль дваццаць гадоў жылі на чужыне) зрабілі на яго вялікае ўражаньне.

Два хлапцы з гэтай групы былі вельмі гаваркія й актыўныя. Мы вырашылі, што гэта былі «нянькі», як тады гаварылі. Разьвітваючыся,

яны сказалі, што калі мы хочам, то можам спаткацца зь імі на наступны дзень на вячэры й прадоўжыць нашу гутарку. Мы сваім вушам не паверылі: звычайна прадстаўнікі савецкіх дэлегацыяў на міжнародных імпрэзах уцякалі ад такіх, як мы. А тут такое!

Тут я мушу адзначыць, што адзінае заданьне, якое нам даваў шэф аддзелу вывучэньня аўдыторыі, было сабраць інфармацыю адносна слуханьня нашага радыё па той бок жалезнай заслоны. І больш нічога. Ніякай агітацыі, ніякай літаратуры, ніякіх лістовак мы пры сабе ніколі ня мелі. Яго цікавілі толькі такія пытаньні:

— ці слухаюць Радыё Свабода,

— на якіх апаратах,

— у якія гадзіны,

— на якіх хвалях,

— ці могуць назваць хоць адну канкрэтную перадачу,

— як яны ацэньваюць гэтыя перадачы?

Мы зь Цьвіркам дамовіліся, што падчас вячэры ён і Маргові́ч будуць далей гаварыць пра беларускія справы й пра палітыку, а я пастараюся даведацца што-небудзь для Макса Раліса.

Сустрэліся мы ў нейкім малалюдным фінскім рэстаране. Размова неяк праходзіла вяла, але мы заўважылі, што адзін з нашых гасьцей вельмі нэрвуецца, нічога ня хоча есьці, кажа, што ня мае апэтыту. Цьвірка вырашыў, што гэты хлапец хоча застацца на Захадзе. Гэтага нам толькі не хапала! Такая магчымасьць ніколі не абмяркоўвалася. Каб сапраўды нехта захацеў застацца на Захадзе, дык мы б ня ведалі наагул, што мы маем рабіць.

Хутка ўсё высьветлілася. Той хлапец, што

так нэрваваўся, перадаў Цьвірку ліст нібыта ад ягонай сястры зь Беларусі. Гэтаксама, як мне ў 1958-м годзе быў перададзены ліст ад цёці з Масквы.

Уладзімер Цьвірка (сапраўднае прозьвішча Сурко) паходзіў з Заходняй Беларусі, зь Міра. Маці ягоная рана памерла, а бацьку Саветы арыштавалі, як толькі занялі Заходнюю Беларусь. Яму было тады гадоў дзесяць. У яго была сястра, малодшая ад яго, але ён ня мог ведаць ейнага почырку й зусім ня быў пэўны, ці гэты ліст быў напісаны сястрой. Адразу пасьля гэтага мы разышліся. У той жа вечар адшукалі ў Хэльсынкі намесьніка Макса Раліса — Джэка Ст'юарта. Ён вырашыў, што Цьвірку трэба на наступны дзень вяртацца ў Мюнхэн. Ён ня меў ніякага грамадзянства, так што каб зь ім нешта сталася, то за яго не было б каму заступіцца.

У Мюнхэне шмат якія супрацоўнікі Радыё Свабода былі мішэньню савецкай разьведкі. Сярод гэтых супрацоўнікаў былі асобы без грамадзянства, а былі й такія, што мелі пашпарты. Зусім незнаёмыя людзі часам перадавалі ім «вестачкі» з Бацькаўшчыны ад сваякоў ці ад прыяцеляў. Каля будынка, дзе я жыла на Куфштайнэрпляц, некалькі дзён запар дзяжурыў нейкі тып. Ён нахабна глядзеў на мяне, пакуль я выяжджала з гаража, зачыняла яго, і доўга праводзіў мяне вачыма, пакуль я не зьнікала за паваротам. Тое самае паўтаралася, калі я вярталася з працы.

Я заявіла пра гэта ў аддзеле бясьпекі, а там толькі разьвялі рукамі: «Калі той тып вас не чапаў і нічога не гаварыў, дык мы ж ня можам нічога рабіць».

А быў час, калі ўначы а гадзіне другой-трэцяй мяне будзілі тэлефонныя званкі. Падымаеш трубку — ніхто не гаворыць, толькі неяк сапе. Ляжаш у ложак, засьнеш — ізноў званок. Пакуль здымеш трубку — там ужо павесілі. І так некалькі начэй запар. Я ўжо ведала, што заяўляць пра гэта на працы няма ніякага сэнсу. Паспрабавала заявіць на нямецкай пошце. Там сказалі, што калі званкі ня спыняцца праз два тыдні, магу заявіць ізноў. Тады яны будуць рэгістраваць усе званкі на мой нумар. Я падзякавала, але падумала, што калі такое будзе доўжыцца яшчэ два тыдні, дык я звар'яцею. На працы я шмат каму расказала, што цяпер мой тэлефон будзе праслухоўвацца. Начныя званкі адразу спыніліся.

У нас ніколі не было сумліву, што на Радыё Свабода мусілі быць «шпіёны», ці то спэцыяльна засланыя, ці завэрбаваныя пазьней. «Старыя эмігранты», асобы, якія апынуліся на Захадзе пасьля Першай сусьветнай вайны, зь вялікім падазрэньнем ставіліся да так званых «перабежчыкаў», асобаў, якія ўцяклі з Савецкага Саюзу ўжо пасьля заканчэньня Другой сусьветнай вайны. А такіх на радыё было нямала, пераважна былых вайскоўцаў. Гэтыя «старыя эмігранты» і да такіх, як я, былых «савецкіх», ставіліся ня вельмі прыхільна. І толькі калі даведаліся, як мы нацярпеліся, жывучы ў савецкім «раі» — зьмянілі свае адносіны да нас.

За час маёй працы на Радыё Свабода чалавек дзесяць «перабеглі» назад у Савецкі Саюз. Адразу пасьля іх вяртаньня іх вельмі коратка выкарыстоўвалі ў савецкай прэсе ці на радыё для прапаганды. Яны выступалі з паклёпамі на

Радыё Свабода. Улады рабілі выгляд, што гэтыя людзі прывезьлі з сабой цэлую кучу «сакрэтаў». Пасьля гэтага яны зьнікалі: хто назаўсёды, а некаторыя прынамсі гадоў на 20.

Нам было проста сьмешна слухаць іхнія «адкрыцьці». Асабліва таму, што самым вялікім сакрэтам было тое, што ў праграмных аддзелах ніякіх сакрэтаў не было. Тэлефонныя кніжкі радыё з нашымі прозьвішчамі валяліся ўва ўсіх офісах на сталах. Адрасы нашыя можна было даведацца з гарадзкіх тэлефонных кніжак. Хто колькі зарабляў, было ведама кожнаму, хто з кім вёў «шуры-муры» — таксама. Перабежчык Марын вельмі любіў фатаграфаваць. Ён павёз з сабой шмат здымкаў. Апошняму перабежчыку, рэдактару рускай службы Алегу Туманаву, вельмі не пашчасьціла. Ён уцёк у 1986-м годзе. Пасьпеў, праўда, выступіць на савецкім тэлебачаньні й нават напісаць кніжку. Але неўзабаве пачалася перабудова, і ягоныя байкі пра Радыё Свабода ўжо нікога не цікавілі. Туманаў сьпіўся й хутка памёр.

У 1964-м годзе я выйшла замуж за Сяргея Рудніка. Сяргей нарадзіўся ў Адэсе ў 1916-м годзе. Бацька ягоны быў рускі, маці — напалову японка. Ейнага бацьку, дзеда Сяргея — сірату-японца, рускія матросы прывезьлі ў Адэсу пасьля руска-японскай вайны.

З бацькамі й малодшай сястрой Сяргей пакінуў Савецкі Саюз на пачатку 20-х гадоў. Па дарозе здарылася трагедыя: пяцігадовая сястрычка захварэла на мэнінгіт і памерла. Сям'я пасялілася ў Югаславіі. Калі да ўлады прыйшоў Ціта, пераехалі ў Аўстрыю, а пазьней эміґравалі ў Аргентыну.

У адрозьненьне ад Паўночнай Амэрыкі, у Амэрыцы Паўдзённай жыцьцё эмігрантаў было куды цяжэйшым: дрэнна было з працай, не было магчымасьці вучыцца. Сяргей вырашыў вярнуцца ў Аўстрыю, у горад Зальцбург. У яго там была дзяўчына. Маці цяжка перажывала ягоны ад’езд: пасьля сьмерці дачушкі яна ўсю сваю любоў, усе свае клопаты перанесла на сына.

У Зальцбургу Сяргей ажаніўся, пайшоў вучыцца на інжынэра. У іх нарадзіўся сын. Як толькі атрымаў дыплём — вярнуўся ў Аргентыну. Жонка вельмі неахвотна паехала зь ім. Ні рускай, ні гішпанскай мовы яна ня ведала, умовы жыцьця ў Аргентыне былі цяжкія. Жылі яны разам з бацькамі, а маці Сяргея была з характарам. Нарадзіўся другі сын, які ледзь не памёр ад завароту кішак, калі меў усяго некалькі месяцаў. Жонка ў паніцы забрала дзяцей і вярнулася ў Аўстрыю.

Нягледзячы на незадавальненьне сваёй маці, Сяргей праз некалькі месяцаў паляцеў у Зальцбург да жонкі й сыноў. Але аказалася, што жонка тым часам падала на развод. Разводзіліся яны тры гады.

Сяргей меў вельмі моцны, прыгожы голас. Уладкаваўся дыктарам у рускай рэдакцыі на «Свабодзе» ў Мюнхэне. Тут я зь ім і пазнаёмілася.

На радыё ён зарабляў куды больш, чым у той час плацілі інжынэрам у нямецкіх установах. А грошы яму былі вельмі патрэбныя: трэба было ўтрымліваць дзяцей, плаціць адвакату й дапамагаць бацькам у Аргентыне. Ён спадзяваўся адсудзіць малодшага сына, таго, што нарадзіўся ў Аргентыне й меў аргентынскі пашпарт. Але абодвух сыноў прысудзілі жонцы.

Яшчэ да таго як іхні развод стаў правамоцным, у нас зь ім нарадзіўся сын Аляксандар, праз пару месяцаў мы пажаніліся. Яшчэ праз два гады нарадзіўся наш сын Юрка.

Дзеля таго што старэйшы сын быў «незаконнанароджаны», а я ўжо мела амэрыканскі пашпарт, то ён адразу атрымаў амэрыканскае грамадзянства. Я спадзявалася, што й Юрку дадуць амэрыканскі пашпарт. Нічога падобнага! Ён меў «законнага» бацьку й тэарэтычна мусіў атрымаць бацькава грамадзянства. Але Сяргей быў натуралізаваны аргентынец. Я, маці Юркі, — амэрыканка. Сам сын нарадзіўся ў Нямеччыне. Аргентынскае грамадзянства яму не належалася.

А мне да зарэзу патрэбны быў хоць які-небудзь дакумэнт, зь якім я магла б паляцець зь Юркам у Нью-Ёрк. У амэрыканскім кансуляце ў Мюнхэне мне сказалі, што там яго можна будзе натуралізаваць. Такі дакумэнт маглі выдаць толькі нямецкія ўлады. Але ў дакумэнце была графа «грамадзянства». Грамадзянства Юрка ня меў ніякага. Я ім параіла напісаць «без грамадзянства» («stateless»), як было напісана ў маіх і цёціных дакумэнтах. Мне сказалі, што такога тэрміну больш няма. Дык вось да чаго немцы дадумаліся: дзеля таго што бацька маіх дзяцей нарадзіўся ў Адэсе, а Адэса — гэта Савецкі Саюз, то хацелі напісаць майму сыну «грамадзянства савецкае». Ясна, што я не магла з гэтым пагадзіцца: уся сям'я пацярпела ад савецкай улады, я працую на антысавецкім радыё, а яны нам напішуць, што мой сын савецкі грамадзянін! Чыноўнікі ўперліся: калі хачу, то магу пайсьці да

іхняга начальніка. Прызначылі мне спатканьне з начальнікам 29-га сьнежня 1966-га году.

Я апісваю гэтую гісторыю таму, што яна скончылася для мяне вялікай трагедыяй. Замест таго каб спачатку адвезьці цёцю Барбару на працу, а тады паехаць у паліцыю, я папрасіла рускага калегу-суседа адвезьці цёцю на радыё, а сама паімчалася ў паліцыю. Дарога была сьлізкая. Перад самым радыё сусед сутыкнуўся зь вялікім «шэўралетам», які ехаў насустрач па дырэктара радыё.

У нямецкай паліцыі я нічога не дамаглася. Сказала ім: няхай робяць што хочуць, але дакумэнт, дзе напісана, што мой сын савецкі грамадзянін, я не вазьму.

Прыяжджаю на радыё, а цёцю ўжо адвезьлі ў шпіталь. Я — туды. У яе былі зламаныя рука й бядро. Лекар сказаў, што руку возьмуць у гіпс, а бядро праз некалькі дзён трэба апэраваць.

Апэрацыя, як кажуць у такіх выпадках, «прайшла добра», але 8-га студзеня 1967-га году згустак крыві трапіў у лёгкае, і цёця Барбара памерла.

Я страціла глебу пад нагамі. Я не магла сабе нават уявіць маё жыцьцё безь цёці Барбары. Мы ад 1938-га году, калі арыштавалі й саслалі маю маму, ніколі не разлучаліся. А цяпер у мяне двое маленькіх дзяцей: аднаму два з паловай гады, другому пяць месяцаў. Цёця мелася хутка выйсьці на пэнсію й вельмі цешылася, што будзе дома з унукамі. Нянька яшчэ перад аварыяй сказала, што пакідае нас, бо выходзіць замуж. Але найгорш было тое, што я мела вялікі дакор сумленьня: чаму я сама не адвезла ў той дзень цёцю на працу!

Пахавалі цёцю Барбару Вержбаловіч на Заходніх могілках (Westfriedhof) у Мюнхэне. Вельмі прыгожае надгробнае слова сказаў старшыня Рады БНР сп. Мікола Абрамчык. Падрабязнасьцяў пахаваньня я ня памятаю. Я была ў такім стане, што лекар мусіў даць мне нейкія пігулкі, якія мяне адурманілі. Ведаю толькі, што было шмат людзей і шмат вянкоў.

У лютым 1967-га году прыляцела я зь дзецьмі ў Нью-Ёрк. Адразу пачала рабіць захады, каб як найхутчэй «натуралізаваць» майго Юрачку, які тады меў ужо сем месяцаў. Працэдура была тая самая, што й для дарослых. Спачатку — фармуляры. А там такія пытаньні:

— ці не гандляваў наркотыкамі,

— ці не займаўся прастытуцыяй,

— ці не зьбіраўся зрабіць дзяржаўны пераварот у ЗША?

На ўсе гэтыя пытаньні трэба было адказаць.

Праз які месяц паклікалі ў суд складаць прысягу. Трэба было прывесьці двух сьведкаў. Адной сьведкай была мая сяброўка Юля Андрусышына, маці нашага Данчыка. Пасьля настаўленьняў судзьдзі, што гэта значыць — быць грамадзянінам ЗША, папрасілі падняць правую руку для прысягі. Я падняла сваю руку, а Юля — ручку Юрачкі. Яшчэ праз тыдзень Юра атрымаў амэрыканскі пашпарт.

Хутка пасьля гэтага мы вярнуліся ў Мюнхэн. А ў міжчасе Радыё Свабода мусіла пераехаць у іншае месца, бо той раён, дзе яно знаходзілася, быў адведзены пад Алімпіяду 1972-га году. Прыблізна там, дзе цяпер знаходзіцца тэлевізійная вежа, стаяў будынак Радыё Свабода, які быў зьнесены.

# 12. Сяброўства на ўсё жыцьцё

*Як я пазнаёміла бацькоў Данчыка. Пачаткі «Роднага кута». Саша знаходзіць залаты гадзіньнік. Яніна Каханоўская, адданая беларуска й амэрыканка.*

На пачатку сваіх успамінаў я згадвала, што ў 1942-м годзе ў менскай Самапомачы мы зь дзядулем пазнаёміліся зь Янінай Аляксандраўнай Каханоўскай. Зь сям'ёй Каханоўскіх і Андрусышыных зьвязаная вялікая частка майго жыцьця й жыцьця маіх дзяцей Аляксандра й Юры.

Зь Юляй Каханоўскай, дачкой Яніны, я пазнаёмілася яшчэ ў лягерах уцекачоў. Але яна была на два гады маладзейшая.

У нашым апошнім лягеры для перамешчаных асобаў у мяне быў вельмі добры сябра, украінец Грыц Андрусышын. У яго, як і ў мяне, быў акардэон, і мы зь ім кожную суботу гралі на танцах. Гэтыя танцы былі ці не адзінай забавай для лягернай моладзі. А мы стараліся: куплялі ноты, развучвалі новыя танга й вальсы.

Мы былі вельмі папулярныя ў Розэнгайме. Летам 1950-га году ўцекачы зь лягераў паразьехаліся па розных краінах, і мы з Грыцам страцілі сувязь.

Неяк на пачатку ліпеня 1951-га году, ужо ў Нью-Ёрку, разам зь сяброўкай Юляй Кахаsucceeded ноўскай вырашылі прайсьціся па Другой авэню на Мангэтане. Дзень быў вельмі гарачы: больш за 30 градусаў, а вільготнасьць працэнтаў 80. Зайшлі ў кафэ асьвяжыцца. Раптам я пабачыла праз акно Грыца Андрусышына. Я выбегла на вуліцу. З Грыцам быў вельмі прыгожы хлапец, брунэт з чорнымі вачыма й цудоўнай усьмешкай. Гэта быў ягоны кузэн Паўло.

Мы ўсе разам пайшлі ў кіно. Пасьля яны мяне правялі да маёй кватэры на Нарфолк Стрыт, а потым адвялі Юлю дадому. У Юлі й Паўла гэта было каханьне зь першага погляду. Пажаніліся яны ў лютым 1954-га году, я была сьведкай на вясельлі. А ў 1955-м годзе нарадзіўся Юрчык, у 58-м — Багдан, або Данчык.

Кожны раз, калі Паўло быў чагосьці незадаволены сваёй жонкай, ён казаў: «Галка, цэ всэ твоя вына!»

Пасьля таго як я выехала працаваць на Радыё Вызваленьне ў Эўропу, я ўжо ня мела прыстанку ў Нью-Ёрку. Але я ні за што не хацела губляць кантакт з маёй новай бацькаўшчынай, якая нас, бедных эмігрантаў-галадранцаў, так добра прыняла.

Не дзівіцеся, калі я спадарыню Каханоўскую буду называць Янечкай. Так у нас было прынята. Янечка мне адразу сказала, што калі я толькі падумаю затрымацца ў гатэлі падчас маіх візытаў, то яна й ейная маці на мяне абразяцца.

Нават пасьля сьмерці цёці Барбары ў 1967 годзе, калі я прыяжджала ў Нью-Ёрк з двума дзецьмі, у гатэль нас не адпушчалі. Маленькая кватэрка на St. Mark's Place на Ніжнім Мангэтане расьцягвалася як гума, і знаходзілася месца на тры дадатковыя асобы.

З часам бацькі Данчыка, Юля й Паўло, набылі кавалак зямлі кілямэтраў за 200 ад Нью-Ёрку. Гэта не была раскоша, гэта была неабходнасьць. Лета ў Нью-Ёрку такое гарачае й вільготнае, што трэба было мець месца, каб хоць на кароткі час было дзе схавацца.

Так паўстаў «Мой родны кут» — месца, дзе пабывала шмат беларусаў з усяго сьвету. На нашых вачах Юля, маці Данчыка, будавала хату. Я першы раз у жыцьці пабачыла, што ў Амэрыцы тынкоўка прадаецца вялікімі пластамі — адпаведна выразаецца й прыбіваецца тысячамі цьвікоў да каркасу хаты. Найбольш складаную працу рабіў бацька Данчыка Паўло, які прыяжджаў туды ў свой адзіны вольны ад працы дзень — нядзелю. Паўло меў разам з братам мясную краму, дзе прадаваліся вельмі смачныя кілбасы, якія славіліся на ўсю ваколіцу.

На купленым участку рос яшчэ лес. Ён быў такі густы, зарослы, занядбаны, што ўвайсьці ў яго было вельмі цяжка. Юля расчысьціла яго мэтар за мэтрам. Мёртвыя дрэўцы сьпілавала, у жывых абрэзала сухія галінкі. На нашых вачах лес пачаў ажываць.

Аднойчы Юля згубіла залаты гадзіньнік, які ёй падараваў Паўло. Мы вельмі доўга яго шукалі й ужо страцілі надзею знайсьці. Раптам выходзіць зь лесу мой шасьцігадовы сын Саша,

трымае нешта ў руцэ й пытаецца: «Цёця Юля, вы гэты гадзіньнік шукалі?».

Са сьпілаваных дрэваў і галінак увечары рабілі вялікае вогнішча, а Данчык браў гітару й найграваў беларускія й украінскія песьні. Часам мы падпявалі. Гэта й быў пачатак ягонай артыстычнай кар’еры.

Наша Янечка ў той час рэдка магла наведваць «Родны кут». Яна цяжка працавала на сьмярдзючай і пыльнай фабрыцы, дзе рабілі ежу для катоў, сабак і птушак. Каб больш зарабіць, працавала шэсьць дзён на тыдзень. Зь ёй жыла ейная старэнькая маці — Эмілія Іванаўна Шабуня, з дому Луцкевіч.

У канцы шасьцідзясятых Янечка атрымала працу машыністкі ў нью-ёрскім офісе Радыё Свабода. Гэтая праца, у параўнаньні з папярэдняй, для яе была раем. А дапамагла гэтаму сумная нагода. Фактычна гэтае месца саступіла ёй Натальля Арсеньнева, у якой памерла нявестка, не дажыўшы й сарака гадоў. Засталося двое малых дзяцей, і Арсеньнева паехала даглядаць унукаў у горад Рочэстэр. (Дарэчы, нявесткай Арсеньневай была мая сяброўка зь Менску — Туся, Натальля, дачка кампазытара Шчаглова-Куліковіча.)

У 1974 годзе баба Міля памерла, а Янечка выйшла на пэнсію. Я яе адразу запрасіла да нас у Нямеччыну. Вось тут пачалося наша сапраўднае сяброўства. Легендарная шчодрасьць і гасьціннасьць гэтай жанчыны былі ўжо ведамыя ўсім беларусам Нью-Ёрку. Глыбокія веды беларускай, польскай, рускай літаратуры — таксама. Была яна талерантная да ўсіх рэлігіяў сьвету, сама ж была каталічкай.

Першае нашае падарожжа было ў Італію. У адным касьцёле віселі партрэты ўсіх папаў рымскіх. Янечка ведала гісторыю большасьці зь іх. У Ватыканскім музэі яна папрасіла, каб паказалі той каменьчык, які амэрыканскія астранаўты прывезьлі зь Месяца й падаравалі папу рымскаму. Наш гід ня ведаў нават такога факту.

А хто ведае, што на могілках у Монтэ-Касіна, дзе пахавана шмат маладых палякаў і беларусаў з арміі Андэрса, ёсьць і габрэйскі ўчастак? Янечка.

Наступным разам мы зь ёй паехалі ў круіз па Міжземным моры. Гэта было ўсё роўна што браць з сабой некалькі тамоў энцыкляпэдыі. У Каіры, у нацыянальным музэі, мы пабачылі вялікі беспарадак. Гід адразу здаўся. Ён, эгіпцянін, ня ведаў таго, што ведала баба Яня.

Янечка й мая цёця Барбара былі вельмі розныя. Але дзьве рысы ў іх былі супольныя. Абедзьве ненавідзелі савецкі лад і лічылі, што ніякі прагрэс нельга апраўдваць тымі ахвярамі, якія панесла краіна. Вельмі адзінадушныя яны былі й у сваёй бязьмежнай любові да Амэрыкі. У іхняй прысутнасьці нельга было крытыкаваць Амэрыку, нават справядліва.

# 13. Дачка Сталіна выбрала мой голас

*Конкурс нянек выйграла верніца. Сьвятлана Алілуева й яе сэнсацыйныя кнігі. Як я стала «Міхайлаўнай». Высадка астранаўтаў на Месяц і рэпартаж з украінскім акцэнтам. Шэф-герой і маё падвышэньне. Школьныя гады ў ролі мамы.*

Пасьля таго як я вярнулася зь Нью-Ёрку з малым Юрам, які ўжо стаў амэрыканскім грамадзянінам, у Мюнхэне мяне чакалі адны праблемы. Я мусіла вяртацца на працу, а дзяцей не было з кім пакінуць. Далі абвестку ў мясцовую газэту. Адгукнулася мноства жанчын, але ніводная зь іх не падыходзіла. Усіх іх цікавіла толькі адно: у якім пакоі яны будуць жыць? А мы не хацелі, каб нянька жыла ў нас. Нарэшце знаёмыя параілі нам адну рускую жанчыну. Яна была немаладая, незамужняя, амаль непісьменная, паходзіла зь сям'і старавераў, якіх перасьледавалі ў Савецкім Саюзе, у 20-х гадах яе

выгналі са школы. Цёця Каця была ня тое што веруючай, яна была фанатычна веруючай.

Вось ёй я й даручыла сваіх дзетак, бо вырашыла, што такі чалавек хіба нічога дрэннага ў маю адсутнасьць ня зробіць. Яна строга прытрымлівалася ўсіх пастоў. Як мы ведаем, у праваслаўнай царкве іх вельмі шмат. Былі дні, калі дзеці замест малака мусілі піць ваду. Я спрабавала пераканаць цёцю Кацю, што дзецям у гэтым веку ня трэба пасьціць. Яна настойвала на сваім.

Аднойчы, у часе нейкай сьвяточнай вячэры, калі ў нас было шмат гасьцей (Юрачку ўжо было гады тры), цёця Каця спыталася ў яго: «Юра, скажы, каго ты больш любіш: маму ці тату?». (Такое, як кажуць пэдагогі, няправільнае пытаньне!) Юра паглядзеў хітравата на тату, тады на маму, апусьціў вочкі й сказаў: «Бога». Цёця Каця трыюмфавала.

У 1967-м годзе падчас падарожжа ў Індыю з прахам свайго мужа-індуса на Захадзе засталася дачка Сталіна Сьвятлана Алілуева. Празь некаторы час яна прыбыла ў Нью-Ёрк і прывезла з сабой сваю кніжку «Двадцать писем к другу». Яе адразу запрасілі ў нью-ёрскі аддзел Радыё Свабода. Яна згадзілася, каб ейную кнігу перадалі па нашым радыё. Яна сама начытала два разьдзелы. А яе тым часам проста разьдзіралі на часткі: тэлебачаньне, газэты, радыёстанцыі. Яна папрасіла, каб начытваньне ейнай кнігі працягвала якая-небудзь дыктарка.

Адпаведнага штатнага голасу ў нью-ёрскім аддзеле не аказалася. Наш аддзел у Нью-Ёрку быў вельмі актыўны. У Мюнхэн нам прысылалі шмат гатовых матэрыялаў. Паміж Мюнхэнам і

Нью-Ёркам існавала свайго роду спаборніцтва, хаця апошняе слова было за Мюнхэнам. Нью-ёрскаму аддзелу вельмі ж не хацелася выпускаць з рук такую сэнсацыю, як запіс кнігі дачкі Сталіна.

Яны адшукалі дачку славутага Шаляпіна й даручылі ёй начытваць кнігу Сьвятланы. Але ў Тацьцяны Шаляпінай быў вельмі нізкі, хрыплаваты голас. Сьвятлана Алілуева ейнае чытаньне забракавала. А Мюнхэн толькі гэтага й чакаў! Памятаю, у нядзелю раніцай выклікалі мяне сьпешна на радыё й папрасілі начытаць адзін разьдзел гэтай кніжкі (амаль без падрыхтоўкі). Стужку адразу адаслалі ў Нью-Ёрк, там далі яе паслухаць Сьвятлане. Ёй маё чытаньне вельмі спадабалася. У нас зь ёй аказаліся падобныя галасы. Яна нават запрапанавала, каб я перачытала сваім голасам запісаныя ёю першыя два разьдзелы. Гэтага мы, ясна, не зрабілі, бо голас дачкі Сталіна на хвалях нашага радыё — гэта была такая сэнсацыя, што нам зайздросьцілі ўсе заходнія радыёстанцыі, уключна з «Голасам Амэрыкі» і «Бі-бі-сі».

Хутка выйшла другая кніга Сьвятланы Алілуевай «Только один год». І гэтая кніга перадавалася ў маім выкананьні.

У той час ні беларусы, ні ўкраінцы не абвяшчалі прозьвішчаў дыктараў. А руская служба гэта рабіла. Аднойчы перад самым запісам нейкага матэрыялу ў студыі мяне спыталі, як мяне абвяшчаць? Мне ніякі прыгожы псэўданім не прыходзіў у галаву. Тады я згадала, што ў цёці Барбары ў кансэрваторыі ў Менску была вельмі сымпатычная вучыцелька сьпеву Руч’ёва. Вось так і пачалі мяне абвяшчаць у рускіх перадачах.

«А як па бацьку?» Паколькі ў мяне ўсё жыцьцё была вялікая крыўда да майго бацькі Мацьвея Грыбава, які кінуў нас з мамай у 30-х гадах, дык я сказала, што я «Міхайлаўна».

Дзеля таго што ў мяне былі малыя дзеці, я ўжо не магла разьяжджаць і рабіць рэпартажы для сэкцыі «Special Events». Перакладаць дарадніку тэксты славянскіх рэдакцыяў не было больш патрэбы: на пасады дараднікаў цяпер прызначалі асобаў, якія ведалі хоць адну славянскую мову. А пазьней поўную адказнасьць за зьмест усіх матэрыялаў пераклалі на галоўных рэдактараў асобных рэдакцыяў, так што без дараднікаў можна было абысьціся.

Я хацела назад у беларускую рэдакцыю. Але гэта было ўжо немагчыма. З самага пачатку, у 1954-м годзе, калі я лічылася «шматмоўнай друкаркай», мне прызначылі 6-ю ступень зарплаты. Па меры таго як я выконвала ўсё больш і больш функцыяў (вусныя пераклады, чытаньне на трох мовах, рэпартажы), я апынулася на 11-й ступені. А ў беларускай, як і ў іншых нацыянальных рэдакцыях, такую ступень мелі толькі галоўныя рэдактары.

Высокае начальства вырашыла перавесьці мяне ў рускую рэдакцыю на пасаду дыктара-рэжысэра ў аддзеле прадукцыі. Ой, як мне не хацелася туды пераходзіць! Шмат гадоў таму, калі мяне папрасілі прыняць удзел у рускай перадачы для моладзі й студэнтаў, я адчувала нядобразычлівасьць з боку некаторых супрацоўнікаў рускага аддзелу прадукцыі. Яны ўважліва прыслухоўваліся, ці не чуваць у мяне часам беларускага акцэнту. Тут яны не маглі прычапіцца. Не падабалася ім і мая манера не

чытаць, а расказваць, як нас вучыў галоўны рэжысэр Эрнст Канстантын. Часам ён даваў нам на вельмі кароткі час нейкі тэкст, тады яго адбіраў, і на падставе гэтага тэксту мы вялі гутарку. Ясна, што ня ўсе перадачы надаваліся для такой падачы. Але старэйшыя калегі лічылі гэта «недахопам прафэсіяналізму».

Аднак гэтым разам усё было куды горш. Невялікая група, усяго некалькі асобаў з рускага аддзелу прадукцыі, зьвярнулася да дырэктара Радыё Свабода з пратэстам: як можна браць у рускую рэдакцыю Галіну Ганчарэнку, калі яна, працуючы зь беларусамі й украінцамі, чытала ў эфір антырускія тэксты, дзе рускіх называлі няйначай як «маскалямі»!

Што гэта быў за перапалох! Дырэктар склікаў экстранае пасяджэньне галоўных рэдактараў беларускай і ўкраінскай рэдакцыяў, дараднікаў, перакладчыкаў. Хаця ўсе яны й запэўнівалі яго, што такога ніколі не было й не магло быць, дырэктар прызначыў камісію, якая прагледзела ўсе тэксты гэтых дзьвюх рэдакцыяў за апошнія ня ведаю колькі гадоў. Аказалася, што ні беларуская, ні ўкраінская рэдакцыі ніякіх пагрэшнасьцяў у гэтым кірунку ня мелі.

Пасьля гэтай гісторыі мне яшчэ менш хацелася пераходзіць у рускую рэдакцыю. Я праліла дома нямала сьлёз, але іншага выхаду ў мяне не было.

Шэфам прадукцыі быў амэрыканец Эдуард Нёльтнэр. Ён быў вэтэран Другой сусьветнай вайны, інвалід: страціў левую нагу й левую руку. Сталася гэта не падчас ваенных апэрацыяў, а ў выніку непаразуменьня. Ён служыў на вайсковым параплаве. Яму дaручылі направіць

велічэзны пад'ёмны кран з жалезным ланцугом, які на гэты час спынілі. А адзін матрос, які знаходзіўся на вышэйшай палубе, чамусьці пусьціў гэты кран у рух. Нёльтнэра ўцягнула ў кран і раздрабіла нагу й руку. Так выглядала, што той матрос быў не зусім цьвярозы, а таму адразу не зрэагаваў на крыкі зьнізу спыніць той пад'ёмны кран.

Трэба сказаць, што такі шэф добра ўплываў на сваіх падапечных. Ён сам ніколі ня скардзіўся, хаця мы бачылі, што пратэз нагі вышэй калена яму часта дакучаў. Ён меў больш чым два мэтры росту. Гэта быў проста герой. Нам усім было сорамна наракаць на якія-небудзь дробязі. Нёльтнэр ніколі ні на што не наракаў. Езьдзіў самаходам. Ён паходзіў з рэлігійнай каталіцкай сям'і, меў шэсьць дзяцей, усе вырасьлі саліднымі працавітымі асобамі.

Нёльтнэр ня ведаў ніякай мовы, апрача ангельскай. Ён ня мог дамовіцца з больш як паловай сваіх падапечных. Празь некалькі месяцаў ён прызначыў мяне сваім асыстэнтам. Гэта было для мяне вялікім падвышэньнем.

Аддзел прадукцыі налічваў больш за 40 штатных супрацоўнікаў і якіх 10 няштатных. Сюды ўваходзілі ўсе рускія дыктары й рэжысэры, друкаркі, тут былі архівы тэкстаў і стужак з запісамі праграмаў, і музычная фанатэка. У нашы абавязкі ўваходзіла прымаць тэлефонныя карэспандэнцыі з розных краінаў, падтрымліваць сувязь зь перадатчыкамі ў Гішпаніі й у Нямеччыне, а таксама сувязь з нашым філіялам на Тайване. Туды мы пасылалі поштай запісаныя ў Мюнхэне ня самыя апэратыўныя праграмы. На Тайване іх дапаўнялі выпускамі навінаў.

У тыя часы ў Мюнхэне навіны яшчэ не перадаваліся проста ў эфір, а спачатку запісваліся на стужку. Апошні выпуск рабіўся а 12-й уначы й круціўся штогадзіны да 8-й гадзіны раніцы.

Але вось рэпартажы пра важныя падзеі перадаваліся ў жывы эфір. Наш аддзел каардынаваў усё, зьвязанае з гэтымі рэпартажамі, з тэхнічным аддзелам: студыі, мікрафоны, навушнікі й г.д. Як я зайздрошчу сучасным тэхнічным магчымасьцям: тэлевізійныя перадачы з усяго сьвету, інтэрнэт і г.д. А ў тыя часы гэта была суцэльная імправізацыя.

У 1969-м годзе амэрыканскія астранаўты высадзіліся на Месяцы. Тут у нас усё прайшло досыць гладка, бо высадку перадавала тэлебачаньне. Але калі астранаўты вярталіся на Зямлю, то ў нас атрымалася адна забаўная гісторыя. Гэтым разам яны не прызямляліся, а прыводняліся. Такія важныя рэпартажы звычайна даручаліся толькі самым дасьведчаным супрацоўнікам. Усе ўдзельнікі разьмясьціліся ў адной студыі. Усе ў навушніках. Праграмны дырэктар Морыс («Мо») Дзьякоўскі слухаў, здаецца, AFN (American Forces Network — амэрыканскае радыё для вайскоўцаў), вядучы праграмы Ўладзімераў — «Голас Амэрыкі». Напружаньне было страшэннае: вось-вось капсула з амэрыканскімі астранаўтамі мелася прываднiцца дзесьці ў Ціхім акіяне. Тэлебачаньне не магло нічога паказваць. Гэты час вядучы Ўладзімераў вельмі спрытна запаўняў рознымі дадзенымі, што тычыліся гэтай падзеі.

Раптам Мо Дзьякоўскі ажывіўся й шэпча вядучаму Ўладзімераву: «Догоры ногамы, догоры ногамы!». Дзьякоўскі быў украінскага

паходжаньня й ад хваляваньня пачаў гаварыць па-ўкраінску. Тут ажывіўся Ўладзімераў і, як кажуць, «абыграў» гэтую вестку: «Сябры, сталася нешта неверагоднае. Астранаўты ня толькі пасьпяхова прывадніліся, але адчынілі дзьверцу капсулы, сядзяць і дрыгаюць нагамі!».

Дзьякоўскі зьбянтэжыўся: адкуль ва Ўладзімерава такія весткі? AFN ясна паведаміла, што капсула прываднілася, але села на ваду ўверх нагамі. Тут атрымалася, як у гульні ў сапсуты тэлефон: «догоры ногамы» Ўладзімераў зразумеў як «дрыгаюць нагамі».

Цяпер вернемся да маіх заблытаных сямейных спраў. Маці майго мужа Сяргея вельмі спадзявалася, што як толькі ейны сын разьвядзецца са сваёй аўстрыйскай жонкай, то вернецца ў Аргентыну. Ёй было ўсё роўна, вернецца ён з сынам ці безь яго. Абы толькі вярнуўся сам як найхутчэй. А тут — новае жанімства й новыя дзеці. Маці Сяргея пачала атакаваць мяне абразьлівымі лістамі: ты такая-сякая, подлая, паскудная, «прахадзімка». Кожны ліст заканчваўся амаль што праклёнамі. Мы зь ёй у жыцьці ніколі ня бачыліся. Сяргею я гэтыя лісты не паказвала й на іх не адказвала. Як бы крыўдна мне ні было, дзесьці ў глыбіні душы я спачувала ягонай маці, бо разумела ейныя матывы. Але й жыць у такой сытуацыі было нялёгка. Цёціна сьмерць вельмі падкасіла мяне псыхічна.

Мушу прызнацца, што я не была добрай жонкай. Прыйду з працы канчаткова выматаная. Па дарозе схаплю нешта з прадуктаў, якія яшчэ засталіся ў краме. Усе крамы ў той час зачыняліся, як правіла, а шостай гадзіне, найпазьней а палове сёмай. А нянька ўжо стаіць апранутая на

парозе й адразу ўцякае. Рэшту энэргіі я аддавала дзецям, якіх цэлы дзень ня бачыла.

Дзеці мае былі цудоўныя. Я да гэтага часу лічу, што Божанька зжаліўся нада мной і за ўсе мае пакуты ў дзяцінстве паслаў мне такіх дзетак. Яны ніколі не капрызілі, ад самага маленства спалі ўсе ночы напралёт, елі абсалютна ўсё. Адзін толькі раз узбунтаваліся супраць расольніку. Вучыліся вельмі добра. І такімі беспраблемнымі засталіся да самага канца школы, пакуль не разьехаліся вучыцца ва ўнівэрсытэтах.

Мой муж Сяргей быў старэйшы ад мяне на 14 гадоў. Ён добра ведаў клясычную й сучасную літаратуру. Заўсёды быў гатовы дапамагчы, апекаваўся некалькімі бабулькамі, вазіў іх у лес у грыбы ці куды яны хацелі. Але ў яго была адна жахлівая загана: з-за якой-небудзь дробязі, з-за нейкага глупства ён мог так разьлютавацца, што часам здавалася, што можа забіць чалавека. Можа, віной таму была тая чвэртка японскай крыві, што цякла ў ягоных жылах? Ягоны ж дзед быў японцам. Ужо на наступны дзень яму рабілася сорамна. Ён неяк шморгаў носам і ўсяляк намагаўся направіць сытуацыю. Ён быў вельмі кампанейскі. На працы яго ўсе вельмі любілі, асабліва жанчыны. Пасьля таго як ён завёў раман з адной шмат старэйшай ад мяне дыктаркай, я запрапанавала яму разысьціся. Ён пагадзіўся. Мы разьвяліся вельмі «палюбоўна», з адным адвакатам на дваіх. Праўда, са мной у судзе здарыўся кур’ёз. Судзьдзя пачаў з разгляду пашпартоў. Сяргееў, аргентынскі, ён адразу адклаў. Узяў мой амэрыканскі, пагартаў і пытаецца: «А колькі вам гадоў?». Аказваецца, я прыйшла ў суд з пашпартам цёці. Але ўсё

ж разьвялі. Празь некаторы час Сяргей кінуў працу й вярнуўся да маці ў Аргентыну.

Тым часам дзеці мае падрасьлі. Сашу споўнілася пяць гадоў. Паўстала пытаньне, у якую школу яго паслаць. Нямецкія школы мне зусім не падабаліся. У той час яны былі вельмі кансэрватыўныя. Вялікія клясы, а галоўнае — там ня вельмі любілі чужынцаў. Гэта цяпер у нямецкіх школах чужынцы часта ў бальшыні, а тады гэта былі адзінкі. Нават настаўнікам не падабалася, калі дзеці паміж сабой гаварылі на іншай мове. У сям'і Кружыных было трое сыноў. Яны вучыліся ў нямецкай школе й заўсёды прыходзілі са школы зь сінякамі. Самі яны былі досыць баявымі хлапцамі. А мае дзеці не былі забіякамі, так што ім бы напэўна даставалася. Таму нямецкая школа для мяне адпала.

У Мюнхэне былі дзьве англамоўныя школы. У адной вучыліся дзеці амэрыканскіх вайскоўцаў, якіх у той час у Нямеччыне было шмат. Праграма навучаньня была такая самая, як у школах у Амэрыцы. Дыплём гэтай школы не даваў права вучыцца ў эўрапейскіх унівэрсытэтах. У гэтую школу прымалі й дзяцей невайскоўцаў, але за іх трэба было плаціць, а для дзяцей вайскоўцаў навучаньне было бясплатным.

Некалькі гадоў перад гэтым у Мюнхэне адчынілася Міжнародная школа (MIS). У гэтай школе выкладалася й амэрыканская праграма, але галоўным чынам больш складаная праграма ангельскай сярэдняй школы. Я, праўда, мела некаторую перадузятасьць да англамоўных школаў. Калісьці, калі я вучылася на трэцім курсе ў каледжы ў Нью-Ёрку, нас усіх паклікалі да дарадніка, які апытваў, якія ў каго пляны

на будучыню, кім хто зьбіраецца быць. У мяне не было тады ніякіх канкрэтных плянаў, і я, каб нешта сказаць, адказала, што хачу быць настаўніцай. Дараднік прагледзеў мае паперы й сказаў, што гэта зусім дрэнная ідэя, бо ў мяне... занадта добрыя адзнакі. Я спачатку падумала, што ён жартуе. А ён паясьніў: настаўнікі, якія самі ўвесь час вучыліся на выдатна й ня злазілі з «ганаровых дошак», будуць зашмат вымагаць ад сваіх вучняў. У школе, ясна, трэба даваць магчымасьць асабліва таленавітым вучням ісьці наперад, але раўняцца трэба на сярэдніх.

Прыйшоўшы дадому, я задумалася й прыпомніла сваю савецкую школу № 4 у Менску на вуліцы Кірава. Там нават да вучняў, якія вучыліся на тройкі, ужо ніякай пашаны ні з боку настаўнікаў, ні з боку іншых вучняў не было. А пра тых, хто вучыўся яшчэ горш, і гаварыць няма чаго. Шанавалі толькі выдатнікаў і вечна ставілі іх у прыклад іншым. Божа мой, колькім таленавітым дзецям такім чынам адбілі ахвоту вучыцца!

Усё гэта я зразумела шмат пазьней. А тады проста была пад шокам. Я й не зьбіралася выкладаць, але падумала: «Ну й парадкі ў Амэрыцы!».

У верасьні 1969-га году мой Саша пайшоў у Міжнародную школу. Ягоная кляса называлася «Pre-School Kindergarten», нешта падобнае да «нулявушкі». Толькі ў нас у «нулявушку» ішлі ў сем гадоў, а яму было пяць. У хаце мы гаварылі па-руску (мой муж быў рускі), на вуліцы зь дзецьмі ён гаварыў па-нямецку, ніводнага ангельскага слова ня ведаў. У ягонай клясе адзіная

мова была ангельская, а ўжо зь першай клясы выкладалі нямецкую.

Склад вучняў быў сапраўды міжнародны: італьянцы, японцы, амэрыканцы, югаславы, іранцы. Калі бацькам выдалі першую школьную тэлефонную кніжку, то я спачатку спалохалася. Што там былі за сем'і! Дырэктары банкаў, консулы, вядомыя акторы, сястра швэдзкага караля й іншая эўрапейская шляхта, багатыя іранскія прадпрымальнікі, якія ўцяклі на Захад разам з шахам. Усе гэтыя бацькі плацілі за школу самі. Але былі й сем'і супрацоўнікаў міжнародных арганізацыяў, як Радыё Свабода й Радыё Свабодная Эўропа.

У маім кантракце з 1954-га году было ўпісана, што калі ў мяне будуць дзеці, то яны будуць мець права на англамоўную школу. Міжнародная школа знаходзілася амаль 30 кілямэтраў на поўдзень ад Мюнхэну. Дзяцей вазіў туды школьны аўтобус, за які я мусіла плаціць сама.

Прагледзеўшы сьпіс бацькоў, я баялася, што мой Саша, а пазьней і ягоны малодшы брат Юра, вырастуць з комплексамі, гледзячы на сваіх аднаклясьнікаў з такімі багатымі бацькамі.

А сталася ўсё наадварот. Калі хто й атрымаў комплексы, дык гэта якраз дзеці багатых бацькоў. Некаторыя бацькі на просьбы дапамогі ад бацькоўска-настаўніцкага камітэту адкупляліся грашыма. Хаця іхнія маці, як правіла, нідзе не працавалі, яны вельмі мала часу прысьвячалі сваім дзецям. Аддувацца даводзілася мне. Перад кожнай школьнай імпрэзай, асабліва спартовай, — званок: «Місіс Руднік, што вы можаце сьпячы для буфэту?». Разумееце, яны не пыталіся, ці

можаце вы нешта сьпячы, а — што вы можаце сьпячы?

Раз на год, у лютым, школа арганізоўвала лыжны тыдзень. Кожны раз у іншым горным месцы, пераважна ў Аўстрыі ці ў Італіі. Дзеці маглі ехаць толькі з бацькамі або з апекунамі. Ужо за месяц да гэтага ў мяне пачыналіся званкі: «Місіс Руднік, мы, на жаль, ня маем часу. Ці не маглі б вы ўзяць на сябе апякунства нашым сынам (ці дачкой)?». А найчасьцей званілі самі дзеці з той самай просьбай. Аднойчы ў Борміё, у Італіі, у мяне было дзесяць падапечных. Я пабачыла, што грашыма нашыя багачы не раскідваліся. На скаўцкай імпрэзе сын вядомай нямецкай зоркі Гайдзі Бруль выпрошваў у маці адну нямецкую марку, каб пагуляць у нейкую гульню. Не дала.

Мае дзеці нячаста бывалі запрошаныя ў багатыя дамы. А колькі дзяцей у нашай хаце пабывала! А колькі разоў мне даводзілася развозіць усіх па хатах! Некаторым бацькам было проста ўсё роўна, як іхныя дзетачкі дабяруцца дадому.

Саша добра асвойваў ангельскую мову. Мне здавалася, што праблемаў ніякіх няма. Аднойчы ў другой клясе ён прыходзіць са школы й кажа, што яны пісалі не дыктант, а ўкладаньне (composition). І паказвае мне свой «твор». Гэта было ўсяго радкоў дзесяць. Але амаль у кожным слове была памылка. У мяне паніка: можа, гэта ягоная трохмоўнасьць вылазіць бокам? Што ж я маю рабіць? Хіба трэба рэпэтытара наймаць! Аднак у другой клясе яшчэ не давалі. Настаўнікі малявалі мордачкі: калі ўсьміхаецца — значыць,

усё добра, а калі мордачка сумная — значыць, ёсьць праблемы.

Гляджу, пад тэкстам радасная мордачка й прыпіска: «Well done» («здорава»). Ага, падумала я, настаўніца ведае, што я працую, сама выхоўваю дзяцей. Яна проста зжалілася нада мной.

Неўзабаве — бацькоўскі сход. Настаўніца рассадзіла ўсіх бацькоў на тых месцах, дзе звычайна сядзяць нашы дзеці. І па чарзе пачала абмяркоўваць прагрэс ці недахопы. Падышла чарга да мяне. Я вырашыла не чакаць, пакуль настаўніца пачне жаліцца мне на майго Сашу, і кажу: «Я ведаю, што ў майго сына вялікія праблемы з мовай». І зьбіралася ўжо тлумачыць, што, можа, гэта таму, што ў яго гэта ўжо трэцяя мова, але настаўніца мяне перарвала: «Праблемы? Якія?». Ну, я сказала, што бачыла ягоную апошнюю працу, поўную памылак. Настаўніца засьмяялася: «Місіс Руднік! Калі мы адразу пачнем перасьледаваць дзяцей за памылковую артаграфію, дык яны заўсёды ў пісаньні, а нават і ў гутарцы, будуць пазьбягаць малазнаёмых слоў. А наша мэта — навучыць іх вольна выказваць свае думкі. Паглядзіце, ён нават нешта сьмешнае напісаў. Абяцаю вам, што правапісу мы яго з часам таксама навучым».

Паказалі нам і падручнікі, якімі нашы дзеці карысталіся ў клясе. Адзін дайшоў да старонкі 15-й, другі ўжо на 20-й, а нехта загруз на 12-й. Гэта значыць, што дзеці самі мелі магчымасьць рэгуляваць тэмп навукі. Я ляцела дадому як на крылах.

На адным з наступных бацькоўскіх сходаў мы заўважылі, што на дошцы гарызантальна выпісаныя імёны ўсіх вучняў гэтай клясы, а пад

імёнамі прыклееныя папяровыя паскі, падзеленыя на квадрацікі. Усе паскі рознай даўжыні. Мы пацікавіліся, што гэта такое. Настаўніца растлумачыла, што гэта такая гульня: калі нехта з вучняў ня слухаецца ці як-небудзь правініцца, то ў яго ўсе разам адразаюць адзін квадрацік. Я паглядзела — у майго сына пасак досыць даўгі, а збоку вісіць пасак кароценькі. «А гэта чый?» — «Гэта мой», — сказала настаўніца. — «Калі вучні лічаць, што я нешта ня так зрабіла, была несправядлівай да іх, то яны ў мяне адразаюць квадрацік». Тут я назаўжды пераканалася, што мае дзеці ў добрых руках.

# 14. Канец халоднай вайны, працяг місіі

*Два радыё аб'ядноўваюцца. Мяне прызначаюць начальніцай самага калярытнага аддзелу. Нямецкая «вольніца» разбэшчвае кадры. Панічы судзяцца з радыё. Выбух, які ўсіх зблізіў. Унівэрсытэты маіх сыноў. Як у Маскве ў мяне прасілі аўтограф.*

У студзені 1971-га году стала вядома, што Радыё Свабода атрымлівала таемныя субсыдыі ад ЦРУ. Сэнатар Кліфард Кейс запрапанаваў скончыць гэтыя сувязі й перайсьці да адкрытага фінансаваньня Радыё Свабода й Радыё Свабодная Эўропа амэрыканскім Кангрэсам. А другі сэнатар, Уільям Фулбрайт, лічыў, што абодва радыё — гэта «перажыткі халоднай вайны» і іх трэба зачыніць.

Настрой у нас усіх быў сумны. Мы былі перакананыя, што мы патрэбныя нашым слухачам і нашым краінам, але каб спынілі фінансаваньне, то давялося б нам усім разыходзіцца.

А тут яшчэ нейкая левая групоўка заргані-

завала дэманстрацыю супраць Радыё Свабода. Удзельнікі гэтай нешматлікай дэманстрацыі (200—300 асобаў) прайшлі праз увесь горад да будынка Радыё Свабода на Арабэлаштрасэ й час ад часу выкрыквалі: «Liberty raus!» («Свабоду» вон!). Гарадзкія ўлады ня ведалі, чым скончыцца гэтая дэманстрацыя, і на ўсялякі выпадак прыслалі вялікі нарад паліцыі. Аднак каля будынка Радыё дэманстранты яшчэ пакрычалі й разышліся. Гэта былі студэнты, якім заплацілі па 10 нямецкіх марак.

Кожны дзень зьяўляліся новыя навіны й новыя чуткі: зачыняць, не зачыняць. Усе падзеі гэтага крытычнага для радыё пэрыяду падрабязна апісаў у сваёй кнізе «Іскры свабоды» Джын Сосін. Я ня буду іх пераказваць.

Стараньнямі нашых шматлікіх прыхільнікаў на Захадзе, палітычных дзеячаў, прафэсараў, журналістаў, а таксама дысыдэнтаў на чале зь Людмілай Аляксеевай абодва радыё ўдалося адстаяць. Дапамаглі ў гэтым і асабістыя высілкі Джына Сосіна, аднаго з заснавальнікаў Радыё Свабода, і Джэймза Крычлаў, дырэктара інфармацыйнай службы Радыё Свабода. У Кангрэс ЗША пайшоў паток лістоў у падтрымку Радыё Свабода й Радыё Свабодная Эўропа. Падкрэсьлівалася важная місія гэтых радыё, выняткова кваліфікацыя й дасьведчанасьць супрацоўнікаў, неабходнасьць працягваць фінансаваньне радыё, нягледзячы на спыненьне сувязяў з ЦРУ. Але наперадзе нас чакала яшчэ шмат непрыемнасьцяў.

Гутаркі пра закрыцьцё радыё напалохалі нашых маладзейшых дыктараў: яны баяліся, што ў іх ня будзе ніякай будучыні. Сьвятлана Дрэвінг

перавучылася на настаўніцу й пайшла працаваць у нямецкую школу. Яе калега Аляксандар Шліпэ перайшоў на Баварскае радыё.

Напалохала гэтая сытуацыя й майго шэфа Эдуарда Нёльтнэра. Ён казаў нам, што добра ведае, што значыць атрымліваць грошы непасрэдна ад амэрыканскага Кангрэсу. Перш чым прыйсьці на Радыё Свабода, ён працаваў на ўрадавым радыё «Голас Амэрыкі». «Кожны год будуць намагацца скараціць бюджэт, зачыніць штатныя месцы й да таго падобнае», — казаў ён. Нёльтнэр вярнуўся ў Амэрыку.

Мне далі пасаду «выканаўца абавязкаў мэнэджэра аддзелу прадукцыі». Высокае начальства цэлы год прыглядалася, як я кірую аддзелам. У той час не было на Радыё Свабода ніводнай жанчыны-мэнэджэра з такой колькасьцю падначаленых (больш за 40 асобаў, плюс няштатныя). Праз год прызначылі мяне мэнэджэрам. Ні дадатковай працы, ні дадатковай адказнасьці я не баялася, але адна справа — калі ў цябе за плячыма добры начальнік, а другая — калі ты сам апынаесься «на перадавой». У заступнікі мне нікога не далі, гэтую пасаду скасавалі.

Аддзел прадукцыі быў вельмі калярытны. Былі маладыя й старыя, з асьветай і безь яе. Усе яны былі рускамоўныя, але паходзілі з розных краінаў. Я наш аддзел жартам называла «исправдом». Возьмуць у аддзел навінаў кандыдата, які хваліўся добрым веданьнем ангельскай мовы. Падчас выпрабавальнага пэрыяду акажацца, што мова ягоная не адпавядае патрабаваньням. Каб не звальняць — няхай ідзе ў прадукцыю. Або пасправачаецца нехта з рэдактарам — адразу яго да мяне. У нашым аддзеле шмат было роз-

най працы: апрача запісу праграмаў, трэба было пісаць невялікія рэклямныя абвесткі, чысьціць стужкі, рабіць копіі й да т.п. Так што прыстроіць гэтых асобаў было няцяжка.

Тым часам вярнуўся з Аргентыны мой былы муж Сяргей. Ня вытрымаў ён у сваёй Аргентыне. Цяпер у яго ў Эўропе было ўжо чатыры сыны: два ў Зальцбургу, у Аўстрыі, і два ў Мюнхэне. Ён па іх вельмі сумаваў. Яго ізноў узялі ў аддзел прадукцыі, толькі цяпер ягоная былая жонка была ягоным шэфам.

Аднаго разу я запрапанавала яму паехаць са мной у школу на бацькоўскі сход. Ён згадзіўся зь вялікай прыемнасьцю. Мовы ангельскай ён ня ведаў, але некаторыя настаўнікі гаварылі па-нямецку. У часе абеду Сяргей і яшчэ некалькі ягоных калегаў не хадзілі ў кантыну, а зьбіраліся ў каго-небудзь у офісе, закусвалі, выпівалі й вялі дыскусіі. Сяргей любіў выпіць, але п’яны бываў рэдка. У той час наш малодшы сын Юрка ўжо пайшоў у Міжнародную школу. Ён, у адрозьненьне ад свайго старэйшага брата, быў жывейшы, вельмі кампанейскі, як бацька. І вось адна маладая настаўніца пачала жаліцца, што зь Юрам у яе праблемы: яна нешта тлумачыць, а ён адвернецца ў другі бок і пачынае забаўляць аднаклясьнікаў. Я зь вялікім спачуваньнем паставілася да гэтага, а бацька як разрагочацца: «Ха-ха-ха! І я быў такі самы!». І як дыхне на настаўніцу перагарам алькаголю, цыбулі, селядца й яшчэ нечага. Гэта быў першы й апошні раз, што я ўзяла яго з сабой у школу.

У 70-х гадах мы нарэшце перасталі «варыцца ў сваім саку»: атрымалі магчымасьць папоўніць нашыя кадры новымі сіламі з Савецкага Саюзу.

У бальшыні гэта былі дысыдэнты, якія выехалі ў Аўстрыю, Ізраіль, Скандынавію. Прадстаўнікі нашага аддзелу кадраў адразу паехалі ў гэтыя краіны набіраць новых супрацоўнікаў. Сярод іх былі людзі шмат якіх прафэсіяў, але, на жаль, ніводнага прафэсійнага дыктара ці дыктаркі. Аднак і я змагла папоўніць свой аддзел некалькімі добрымі галасамі.

Гладкай гарманійнай працы на радыё перашкаджаў той факт, што начальства рускай службы пачало часта мяняцца. Толькі прывыкнеш да новага начальніка, а на ягонае месца ўжо едзе новы. Тое самае тычылася й дырэктараў Радыё Свабода: яны мяняліся кожныя два-тры гады.

Не магу сказаць, што нашае супрацоўніцтва з новымі калегамі адразу пайшло вельмі гладка. Некаторыя няправільна вымаўлялі рускія словы. Калі мы іх папраўлялі, то яны казалі, што можна гаварыць і так, і так. Тут мы клікалі на дапамогу «Словарь ударений для работников радио и телевидения». З замежнымі прозьвішчамі й назвамі газэтаў, часопісаў было яшчэ горш.

У той час навіны ў нас ужо перадаваліся толькі ў эфір, 24 гадзіны ў суткі. Мне даводзілася прыкласьці шмат высілкаў, каб зрабіць справядлівы графік зьменаў. Мала было ахвотнікаў на начныя зьмены. Аднойчы ў нядзелю, каля 11-й вечара, тэлефануе да мяне начны дыктар, у якога зьмена пачыналася ў 00:30, і кажа: «Галіна Міхайлаўна, я дрэнна чуюся, а таму не змагу сёньня выйсьці на працу». Я кажу: «А што ж я цяпер маю рабіць?!» — «А вы знайдзіце каго-небудзь».

Я не зьбіраюся ідэалізаваць старых супра-

цоўнікаў, бывалі ў нас і спрэчкі, і канфлікты. Аднойчы наш рэжысэр Пішванаў так назойліва падганяў рэдактара Глазэнапа ісьці хутчэй у студыю запісваць ягоны камэнтар, што той шпурнуў у яго шкляную попельніцу й разьбіў яму галаву. Але да сваіх абавязкаў усе мае старыя калегі ставіліся вельмі адказна. Часам выходзілі на працу зусім хворымі, так што мне даводзілася адпраўляць іх дадому. А цяпер бывала такое: бярэ супрацоўнік, скажам, тры тыдні адпачынку. Вяртаецца добра загарэлы, але прывозіць з сабой пасьветку з Гішпаніі ці з Ізраілю: аказваецца, ён там два тыдні «цяжка хварэў». Гэта значыць, што ён патраціў толькі адзін тыдзень адпачынку. Гэта было вельмі непрыгожа, бо адпачынку ўва ўсіх было больш чым дастаткова. Празь некалькі гадоў працы на радыё — 30 працоўных дзён, гэта значыць 6 тыдняў. Апрача таго, у Нямеччыне тады, як і цяпер, было 16 афіцыйных сьвятаў. А яшчэ давалі дадатковыя дні на паездкі, зьвязаныя з атрыманьнем дакумэнтаў, з хваробай членаў сям'і. Я да гэтага часу маю зьмяшаныя пачуцьці да нашага Works Council і да прафсаюзу: што б супрацоўнік ні зрабіў — яго заўсёды падтрымлівалі. Я й цяпер лічу, што гэтыя ўстановы мусілі змагацца за справядлівасьць і, калі трэба, мець адвагу сказаць супрацоўніку, што ён ня мае рацыі. Такое амаль ніколі не здаралася.

У канцы 1973-га году ў Парыжы выдавецтва «YMCA-Press» выдала кнігу Аляксандра Салжаніцына «Архіпэляг ГУЛаг». Якая гэта была сэнсацыя! Сам аўтар жыў тады яшчэ ў Савецкім Саюзе. Салжаніцын дазволіў нашаму радыё перадаць ягоную кнігу ў эфір. Аднак

паставіў некаторыя ўмовы: чытаць без скарачэньняў, без камэнтароў, не мяняць ніводнага слова й каб ніякай тэатральшчыны.

У той час у мяне ў аддзеле ўжо працаваў Юльян Паніч, вядомы ў Савецкім Саюзе актор тэатру й кіно. Асоба надзвычай таленавітая й сымпатычная. Узялі на працу ў аддзел прадукцыі й ягоную жонку Людмілу. Што яна ўмела рабіць, ніхто тады яшчэ ня ведаў. Справа начытваньня кнігі Салжаніцына вырашалася на вярхах: шэф рускай службы, дырэктар радыё, дырэктар праграмнага аддзелу. Яны вырашылі, што чытаць мусіць Паніч. А Паніч таксама паставіў умову: ягоная жонка будзе ягоным рэжысэрам. Яны дома будуць рыхтавацца да запісу. Начальства на гэта пагадзілася. Я вызваліла Панічаў ад усіх іншых абавязкаў, вызначыла ім студыю, папрасіла тэхнічны аддзел выдзеліць нам найлепшага тэхніка. Было вырашана перадаваць па паўгадзіны на дзень, сем дзён на тыдзень. Але спачатку трэба было зрабіць хаця б невялікі запас, бо мала што можа стацца з дыктарам. Амаль ува ўсіх нашых офісах незадоўга да гэтага паставілі такія апараты, каб, націснуўшы адпаведную кнопку, можна было слухаць, што робіцца ў студыі.

Нарэшце пачалі запісваць. Слухалі амаль усе, бо на радыё было ўсяго тры экзэмпляры кніжкі й кожны хацеў ведаць, што там напісана. Раптам да мяне пачалі званіць з усіх бакоў: «Што ў вас там у студыі робіцца? Ці ж можна так чытаць Салжаніцына! Што гэта за тэатар?!». Я хуценька ўключыла свой апарат. І сапраўды: Паніч чытае вельмі тэатральна, з патасам. Там, дзе трапляецца слова «крывавы», то кроў чуваць у голасе.

Спынілі запіс. Пагаварылі з Панічам, растлумачылі яму, што так чытаць нельга, бо Салжаніцын можа нам забараніць перадаваць ягоную кнігу. Вырашылі адкласьці запіс на наступны дзень. А на наступны дзень — тое самае. Шэф рускай службы загадаў мне прызначыць другога рэжысэра. Я прызначыла Анатоля Скакоўскага. Ён у нашым аддзеле быў настаўнікам новых дыктараў, меў добры густ і пачуцьцё меры.

Пад кіраўніцтвам Скакоўскага Паніч знайшоў адпаведны тон, і ўсе супакоіліся. Але Людміла Паніч не саступіла Скакоўскаму месца рэжысэра за шклом, побач з тэхнікам. Скакоўскі — чалавек вельмі сьціплы, ён сказаў, што гэта няважна, ён будзе сядзець збоку. Час ад часу ён рабіў заўвагі Панічу, той адразу рэагаваў, і «Архіпэляг ГУЛаг» запусьцілі ў эфір.

Пасьля запісу ў студыі тэксты прыносілі маёй сакратарцы. Да тэкстаў быў далучаны аркуш паперы «Master Log», на якім адзначалася ўся інфармацыя: даўжыня стужкі, нумар студыі, прозьвішча дыктара, прозьвішча рэжысэра й г.д. У рубрыцы «рэжысэр» Людміла Паніч упісвала сваё прозьвішча. Мая сакратарка яго закрэсьлівала й пісала «Скакоўскі», гэта значыць рэжысэр, адказны за дадзеную праграму.

Праз некалькі тыдняў я атрымала копію заявы, падпісанай Людмілай Паніч і адрасаванай кіраўніцтву. Гэта была неаб’ектыўная, злосная крытыка працы аддзелу прадукцыі й мяне асабіста. На гэтую заяву можна было б і не зьвяртаць увагі, але ў адным месцы было напісана: «У аддзеле прадукцыі фальсыфікуюць дакумэнты» (яна мела на ўвазе тое, што замест

ейнага прозьвішча ўпісвалася прозьвішча адказнага рэжысэра).

Я з гэтай заявай — у аддзел кадраў. А там дырэктар аддзелу Бэтдарф і ягоныя сакратаркі якраз сьмяяліся з гэтага ліста й жартавалі. Яны нават не зьвярнулі ўвагі на «фальсыфікацыю дакумэнтаў». Мне было не да сьмеху. Я прыгадала Бэтдарфу, што фальсыфікацыя дакумэнтаў — гэта крымінальная справа й я не хачу, каб такое абвінавачаньне фігуравала ў маім дасье. Бэтдарф паабяцаў параіцца з адвакатам радыё д-рам Мёлерам. Той, не задумваючыся, сказаў, што я маю рацыю, і нават пайшоў далей: такое абвінавачаньне тычыцца ня толькі Галіны Руднік, а ўсяго радыё. І яно абсалютна беспадстаўнае.

Я ня ведаю, колькі разоў адміністрацыя, Works Council і прафсаюз раілі спадарыні Паніч забраць назад абвінавачаньне ў фальсыфікацыі дакумэнтаў. Папярэджвалі, што калі яна гэтага ня зробіць, яны будуць вымушаныя звольніць яе. Я пры гэтых размовах не прысутнічала. Сп-ня Паніч не пагадзілася, і яе звольнілі. Справа пайшла ў суд. Людміла Паніч прайграла ўва ўсіх трох інстанцыях працоўнага суду. І толькі пасьля трэцяй інстанцыі прыйшла з павіннай. Яна напісала сьлёзны ліст да прэзыдэнта нашай арганізацыі д-ра Фэргусана, у якім прасіла, каб яе ўзялі назад. Пісала, што тады яна яшчэ ня ведала законаў на Захадзе, а цяпер усё зразумела. На працу яе больш не ўзялі.

Гэтая справа цягнулася некалькі гадоў. Яна каштавала мне шмат нэрваў і, напэўна, некалькі гадоў жыцьця, а Людміла Паніч страціла магчымасьці яшчэ гадоў 20 працы, адшкадаваньне,

якое выплацілі ўсім, хто не паехаў у Прагу, і вельмі добрую пэнсію.

У 1973-м годзе была створаная Рада для міжнароднага радыёвяшчаньня. Гэтая дзяржаўная ўстанова пачала наглядаць за дзейнасьцю Радыё Свабода й Радыё Свабодная Эўропа. Яна вырашыла аб'яднаць гэтыя два радыё. Такім чынам можна было заашчадзіць вялікія сумы за кошт непраграмных, адміністрацыйных аддзелаў.

Гэтае зьліцьцё было вельмі балючай працэдурай. Мы мусілі пераехаць у будынак Свабоднай Эўропы, які знаходзіўся на краі Ангельскага парку. Гэта значыла, што Радыё Свабодная Эўропа мусіла пацясьніцца. А каму гэта хочацца?

Спачатку вымяралі ўсё на паперы. Дзе трэба разваліць сьценку, а дзе яе, наадварот, паставіць. Яшчэ ня скончыліся вылічэньні, а ў Гаймана Буша, шэфа гаспадарчага аддзелу, які кіраваў пераездам, пачалі трэсьціся рукі. Зь вялікімі цяжкасьцямі ўдалося адваяваць дастаткова плошчы для некалькіх сотняў супрацоўнікаў Радыё Свабода.

А калі мы нарэшце пераехалі ў будынак Свабоднай Эўропы ў 1975-м годзе, то нам на кожным кроку давалі зразумець, што мы для іх ня толькі нежаданыя госьці, а ўзурпатары. Усю шматнацыянальную сям'ю Радыё Свабода (украінцаў, грузінаў, рускіх, азэрбайджанцаў) лічылі прадстаўнікамі тых, хто паняволіў іхныя краіны.

Першыя гады супольнага жыцьця 1100 асобаў былі вельмі цяжкія. Канчатковае прымірэньне прыйшло гадоў праз шэсьць.

У суботу вечарам 21-га лютага 1981-га году пад сьцяной нашага будынка ўзарвалася бомба. У выніку гэтага выбуху былі цяжка параненыя

чэскі дыктар (ён страціў вока), чэхаславацкая сакратарка (у яе быў моцна пакалечаны твар) і яшчэ дзьве асобы. Дзякаваць Богу, што гэта была субота й у гэты час працавала вельмі мала людзей. Вылецелі вокны й ува ўсіх шматпавярховых будынках, што знаходзіліся насупраць радыё. Там асколкамі было паранена яшчэ чатыры асобы.

Экспэрты падлічылі, што гэтая бомба мела 10—15 кіляграмаў выбуховага матэрыялу. Будынак наш быў вельмі пашкоджаны. Адбудова ягоная каштавала некалькі мільёнаў даляраў.

Зіма ў тым годзе была вельмі суровая, а вокны ўсе былі выбітыя. Нягледзячы на гэта, на наступны дзень, у нядзелю, мы збольшага пачысьцілі нашыя офісы й у панядзелак прадоўжылі працу.

Тэрарысты памыліліся: праз вокны яны пабачылі шмат дратоў і думалі, відаць, што гэта Master Control, адкуль ішлі ўсе нашыя праграмы на перадатчыкі. А гэта была толькі тэлефонная цэнтраля, а Master Control знаходзіўся ў іншым месцы.

Як гэта было ні парадаксальна, але гэты выбух канчаткова зблізіў усіх супрацоўнікаў Радыё Свабода й Радыё Свабодная Эўропа. Усе зразумелі, што вораг у нас адзін і з гэтым ворагам мы мусім супольна змагацца.

Шмат гадоў было невядома, хто падклаў бомбу. Хутка пасьля выбуху савецкія газэты пісалі, што гэта зрабіла ЦРУ з мэтай здабыць сымпатыі й падтрымку для нашых радыё.

Генэрал КГБ Алег Калугін, які ў 80-х гадах расчараваўся ў савецкай сыстэме й стаў «дэмакратам», у 1994-м годзе апублікаваў у Амэрыцы

на ангельскай мове сваю біяграфію «Першае галоўнае ўпраўленьне: мае 32 гады ў разьведцы й шпіянажы супраць Захаду».

Там ён цьвердзіў, што гэта ён і ягоны падрыўны аддзел былі арганізатарамі выбуху, а дапамог ім у гэтым наш астатні перабежчык Алег Туманаў. Аднак у біяграфіі Калугіна была пададзеная няправільная дата выбуху. Было й яшчэ некалькі недакладнасьцяў. А тое, што яму дапамагаў Алег Туманаў, было наагул глупствам: Туманаў ведаў жа, дзе знаходзіцца Master Control. Праз некаторы час нямецкія газэты паведамілі, што з сакрэтных дакумэнтаў Дзяржаўнай бясьпекі ГДР («Штазі») выцякае, што гэты тэракт быў зроблены вядомым міжнародным тэрарыстам Карласам.

Я ўспамінаю гэты 1981-ы год як нейкі кашмар. Адразу пасьля выбуху мы ўсе мерзьлі й задыхаліся ад пылу. Будынак Свабоднай Эўропы, куды мы пераехалі ў 1975-м годзе, быў пабудаваны ці ў часе вайны, ці адразу пасьля яе заканчэньня зь нейкіх нядобраякасных матэрыялаў. А як толькі пачаўся рамонт, то ў студыях цяжка было працаваць: усюды пілавалі, забівалі цьвікі, сьвідравалі. Увесь час даводзілася перарываць запіс праграмаў. Апрача таго, ува ўсім будынку стаяў смурод ад клею, лякаў, тынку. Усе жаліліся на галаўны боль, некаторых нудзіла.

У гэтым жа 1981-м годзе мой старэйшы сын Саша перайшоў у апошнюю клясу мюнхэнскай Міжнароднай школы. Паўстала пытаньне: куды ісьці вучыцца далей? Тое, што я раней сказала пра нямецкія школы, яшчэ больш тычылася нямецкіх унівэрсытэтаў: будынкі старыя, ніякіх студэнцкіх гарадкоў, залі перапоўненыя, сту-

дэнты часта мусілі сядзець на сходках або на падлозе. За выняткам сэмінараў, на заняткі можна было й не хадзіць. Галоўнае — здаць іспыты, зь якімі можна было й не сьпяшацца. Паняцьце «вечны студэнт» было вельмі распаўсюджанае ў Нямеччыне. А таму я вельмі ўсьцешылася, калі Саша сказаў, што хоча вучыцца ў Амэрыцы. Настаўнікі ўжо раней пыталіся, кім ён хоча быць. У яго была толькі адна мара: мэнэджэр гатэлю. Вучыўся ён добра, і клясны настаўнік параіў падаць заяву ў Карнэльскі ўнівэрсытэт у штаце Нью-Ёрк. Я сама мала што ведала пра амэрыканскія вышэйшыя навучальныя ўстановы. У 1950-м годзе мяне, бедную эмігрантку, залічылі на стыпэндыю ў маленькі каледж у штаце Пэнсыльванія безь ніякіх фармальнасьцяў.

Першым чынам трэба было купіць у Амэрыцы даведнік «Профілі амэрыканскіх унівэрсытэтаў і каледжаў». Гэта таўшчэзная кніга, дзе апісваюцца падрабязна абсалютна ўсе вышэйшыя навучальныя ўстановы ЗША (а часткова й Канады): штатныя, прыватныя, царкоўныя. Даведнік гэты абнаўляецца кожны год. Падаваць заяву трэба адразу ў некалькі ўнівэрсытэтаў, бо няведама, куды прымуць. У гэтым даведніку ўсе ўнівэрсытэты падзеленыя на 6 ці 7 катэгорыяў. Спачатку катэгорыя «надзвычай конкурсныя». Сюды ўваходзяць Калюмбійскі ўнівэрсытэт, Прынстан, Ейль, Карнэл — усяго каля 30-ці ўнівэрсытэтаў. Наступная катэгорыя — «вельмі конкурсныя», тады «конкурсныя», «няконкурсныя», двухгадовыя каледжы й яшчэ дзьве катэгорыі. Чым больш конкурсны ўнівэрсытэт, тым ён даражэйшы й тым цяжэй быць прынятым туды.

Апісаньне кожнага ўнівэрсытэту займае некалькі старонак: у якой мясцовасьці ён знаходзіцца, якія факультэты мае, колькі студэнтаў, суадносіны студэнтаў і прафэсараў ды выкладчыкаў, колькі прафэсараў з дактаратамі, чым студэнты могуць займацца ў вольны час (спорт, хор, аркестры, тэатар), якія кошты чакаюць студэнта й шмат іншай інфармацыі.

Вось тады толькі мы зразумелі, чаму настаўнік раіў падаць заяву ў Карнэл: гэты ўнівэрсытэт ня толькі меў адпаведны факультэт, а меў цэлы сапраўдны мадэрны гатэль, у якім працавалі й практыкаваліся толькі студэнты. Старшакурсьнікі працавалі дырэктарамі, загадчыкамі аддзелаў, малодшыя выконвалі ўсю іншую працу, якая патрабуецца ў гатэлі.

Уся працэдура пачынаецца з тэсту SAT (Scholastic Aptitude Test), у перакладзе — «Тэст на адукацыйную здольнасьць». Гэта пісьмовы тэст з ангельскай мовы й матэматыкі. Яго можна браць ува ўсім сьвеце. Вынікі тэсту вылічваюцца пунктамі: максымальна 800 пунктаў з ангельскай мовы й столькі ж з матэматыкі. Пры рэгістрацыі на гэты тэст трэба напісаць, у які ўнівэрсытэт паслаць вынікі тэсту. Тэсты даюцца разы 2—3 на год. Нельга празяваць дату, асабліва жывучы за мяжой.

Інтэрнэту тады яшчэ не было, уся карэспандэнцыя адбывалася праз пошту, а лісты ў Амэрыку даходзілі дзён празь дзесяць. Калі ўсё зроблена своечасова, прыходзіць паведамленьне, дзе й калі браць гэты тэст. Звычайна гэта якаянебудзь амэрыканская навучальная ўстанова за мяжой, а часам і кансулят.

Саша ўзяў тэст і адразу падаў заяву ў Карнэл

і яшчэ ў два слабейшыя ўнівэрсытэты. Карнэл вымагаў шмат чаго: даўжэзны апытальнік, рэкамэндацыі ад дзьвюх асобаў (не настаўнікаў), нарыс на тэму «Зь якой вядомай гістарычнай асобай ты хацеў бы сустрэцца й што б ты ў яго ці ў яе спытаў?». Школьныя адзнакі з характарыстыкай школа мусіць выслаць сама.

Паслаў мой сын усё гэта пасьля Калядаў. З горшых унівэрсытэтаў адказ прыйшоў праз месяц: «Прынялі. Чакаем!». А Карнэл маўчыць. У сакавіку прыходзіць тоненькі канвэрт. Гэта дрэнная прыкмета. І сапраўды — не прынялі. Кароткі стандартны ліст, што, маўляў, у гэтым годзе быў асабліва вялікі наплыў студэнтаў, шкадуем, жадаем усяго найлепшага. Чаму адмовілі — ніколі ня пішуць.

Мы былі ў роспачы. Саша ўжо настроіўся на Карнэл і пра горшыя ўнівэрсытэты й слухаць не хацеў. У ягонай клясе вучыўся сын дырэктара мюнхэнскага «Гілтана», які сам скончыў Карнэл. Мы пайшлі да яго шукаць парады. Ён нам сказаў, што іначай і быць не магло, бо шмат маладых людзей мараць цяпер стаць мэнэджэрамі гатэлю, але яны звычайна ніякага паняцьця ня маюць, што гэта за праца. Унівэрсытэт хоча ўпэўніцца, наколькі ў студэнта сур'ёзнае жаданьне працаваць у гэтай галіне. Ён сказаў, што трэба які год папрацаваць, а тады ізноў падаць заяву. І запрапанаваў Сашу месца практыканта ў сваім гатэлі. Саша працаваў на кухні, у рэстаране, у рэгістрацыі, быў «на пабягушках» у кансьержа. Аднойчы ўратаваў аднаму багатаму арабу 1000 нямецкіх марак, якія той аддаў у хімчыстку разам са сваім адзеньнем. За гэта дастаў узнагароду 100 марак. І сапраўды, пасьля паўторнай

заявы Сашу прынялі. Гэтым разам ён атрымаў вельмі таўсты канвэрт з рознымі паперамі для палагоджваньня фармальнасьцяў. Вось гэта была радасьць! Я падлічыла свае фінансы й вырашыла, што змагу плаціць за Карнэл без дапамогі.

Але праз два гады мой малодшы сын Юра таксама захацеў вучыцца ў Амэрыцы й выбраў тэхнічны ўнівэрсытэт Рансэлір з той самай катэгорыі «надзвычай конкурсны». Рэктар гэтага ўнівэрсытэту д-р Лоў быў шмат гадоў кіраўніком амэрыканскай установы NASA. Юру прынялі. Я зноў падлічыла свае фінансы й пабачыла, што цяпер не хапае.

Кожны ўнівэрсытэт у ЗША прапануе фінансавую дапамогу тым, хто ня можа цалкам аплаціць навуку сваіх дзяцей. Часта гэтая дапамога бывае ў форме пазычкі пад малы працэнт. Я падала заяву. Але праблема была вось у чым. Мне плацілі далярамі. Калі я пачала працаваць у 1954-м годзе, то за адзін амэрыканскі даляр давалі 4 нямецкія маркі й 20 пфэнігаў. Хутка пасьля гэтага даляр упаў на 4 маркі й доўга трымаўся на гэтым узроўні. А праз нейкі час дайшоў да дзьвюх марак і яшчэ менш. Гэта значыла б, што амэрыканцы ў Нямеччыне пачалі б зарабляць у два разы менш, чым раней. Такога не магло быць, бо й жыцьцё ў Нямеччыне было досыць дарагое. А таму нам пачалі кампэнсаваць слабы даляр, каб мы атрымлівалі сталую суму ў нямецкіх марках. А ў Амэрыцы гэтага не разумелі. Як паглядзелі, колькі я зарабляю доляраў, — адмовілі мне ў фінансавай дапамозе.

Маёй зарплаты якраз хапала на два ўнівэрсытэты. На шчасьце, у мяне была страхоўка

жыцьця. Я ўзяла пад яе крэдыт і жыла на яго тыя два гады, калі абодва сыны вучыліся.

У Амэрыцы амаль усе студэнты працуюць, пакуль вучацца. Я сваім дзецям гэтага не дазваляла, бо памятала, якое я мела жыцьцё, наведваючы каледж і працуючы на трох працах. Я ня мела ніякай змогі выкарыстоўваць такое багатае культурнае жыцьцё Нью-Ёрку, ня мела часу хадзіць у музэі. тэатры, на канцэрты. Заўсёды была змучаная, недаспаная.

Мае сыны шмат займаліся спортам. Абодва пасьпяхова скончылі ўнівэрсытэты, дасталі добрую працу. Малодшы вырашыў застацца ў Амэрыцы, ажаніўся, мае двух дзетак. Старэйшы вярнуўся ў Эўропу.

У 1988-м годзе адбылася вельмі важная падзея ў жыцьці Радыё Свабода: у Савецкім Саюзе спынілі глушэньне, якое існавала безь перапынку амаль 35 гадоў. Цяпер можна было афармляць некаторыя перадачы музыкай, зьявіліся чыста музычныя перадачы.

У 1992-м годзе на пасаду дырэктара Радыё Свабода быў прызначаны Кевін Клоўз. Атмасфэра на радыё адразу палепшала. Ён быў добры знаўца Савецкага Саюзу, нядрэнна гаварыў па-руску. Ніколі ня ўмешваўся ва ўсялякія дробязі, давяраў сваім малодшым начальнікам. Умеў дзякаваць за добра зробленую працу. Гэтых якасьцяў не хапала шмат якім папярэднім дырэктарам.

Набліжалася 40-я гадавіна Радыё Свабода. У Маскве ўжо адчынілі нашае бюро ў самым цэнтры гораду. Было вырашана адзначыць саракавы юбілей у Маскве. І тут жа паўстала пытаньне: каго ўзяць з сабой у Маскву на гэтае сьвяткаваньне? Гэта было нялёгкае пытаньне. Бюджэт

быў абмежаваны. Возьмеш прадстаўніка рускай службы, а як жа з нацыянальнымі рэдакцыямі? А як выбраць кандыдата сярод шматлікіх нярускіх рэдакцыяў? Дырэктар Клоўз прыняў саламонава рашэньне: узяць адну асобу, усё роўна зь якой рэдакцыі, але з найбольшым стажам. Зьвярнуўся з гэтым пытаньнем да аддзелу кадраў. І хто аказаўся гэтай асобай? Я! У той час у мяне за сьпінай было ўжо 39 гадоў працы на Радыё Свабода.

І вось я апынулася ў Маскве, у горадзе, дзе мяне хрысьцілі ў 1934-м годзе. З таго часу прайшло амаль 60 гадоў.

20-га сакавіка 1993-га году адбыўся прыём у Цэнтральным Доме літаратараў у гонар Радыё Свабода. На ім прысутнічала ўсё высокае начальства нашага радыё, кіраўнікі Рады міжнароднага радыёвяшчаньня, а таксама палітычная й культурная эліта Масквы. Было шмат прамоваў, але калі выступіў Міхаіл Гарбачоў і сказаў, што ён спадзяецца, што Радыё Свабода будзе на гэтым самым месцы адзначаць сваё 50-годзьдзе й яшчэ шмат юбілеяў, то я падумала, што гэта сон.

Мяне чакала яшчэ адна прыемная неспадзеўка. Я ўзяла таксі, каб паехаць у кнігарню. Па дарозе таксіст спытаўся: адкуль я? Я сказала, што жыву ў Нямеччыне. — «Вы што, турыстка?» — «Не, я ўжо шмат гадоў працую на Радыё Свабода. Прыехала на сьвяткаваньне нашага саракавога юбілею». Таксіст раптам як рване ўбок, да ходніка. Выключыў матор і нэрвова пачаў нешта шукаць. Я запыталася ў яго: што ён шукае? Ён сказаў: «Я шукаю кавалак паперы. Вы мусіце даць мне аўтограф, бо дома мне ніхто не паверыць, што я вёз некага з Радыё Свабода!».

Вярнуліся мы ў Мюнхэн. Аказалася, што й нямецкія сродкі інфармацыі шырока асьвятлілі гэтую падзею — сьвяткаваньне 40-годзьдзя Радыё Свабода ў Маскве. Пасьля гэтага нас перасталі называць «Propaganda-Sender» (прапагандовае радыё). Гэты эпітэт суправаджаў нас ад самага пачатку нашага існаваньня ў Нямеччыне. А цяпер склалася ўражаньне, што немцы, асабліва баварцы, ганарацца тым, што мы знаходзімся ў Мюнхэне. Вось як зьмяніліся часы!

1995-ты год. Радыё пераяжджае ў Прагу. Мне ў чэрвені споўнілася 65 гадоў. Час выходзіць на пэнсію. Амэрыканская сацыяльная пэнсія афармлялася праз амэрыканскі консулят у Франкфурце-на-Майне. Там запатрабавалі мэтрыку нараджэньня. Я спалохалася, бо ў маіх дакумэнтах лічыцца, што я нарадзілася ў Мінску-Мазавецкім у Польшчы, а я ж там ніколі не была! Пазваніла ў консулят, сказала, што я сірата й ня пэўная, ці я сапраўды там нарадзілася. А мне адказваюць, што патрабуюць мэтрыку, і ўсё! Давялося пісаць у Варшаву. Доўга не было адказу. Нарэшце паведамілі, што сьлядоў асобы з такім прозьвішчам у Мінску-Мазавецкім няма. Гэты адказ задаволіў чыноўнікаў, і пэнсію мне пачалі выплачваць.

Апорай апошніх гадоў майго жыцьця стаў Барыс Ганчароў (яго прозьвішча так нагадвае маё дзявочае — Ганчарэнка). Сышліся мы пасьля таго, як ён аўдавеў. Барыс таксама працаваў на Радыё Свабода больш за трыццаць гадоў, загадваў рознымі тэхнічнымі службамі. Мой дом і сад трымаюцца на ім. Нярэдка мы выпраўляемся зь ім у падарожжы, цешымся разам зь дзяцей і ўнукаў.

Мае ўспаміны падыходзяць да канца. Зь іх рукапісам я ізноў на Радыё Свабода, у Празе. Пабачыла старыя знаёмыя твары супрацоўнікаў і шмат новых. Упершыню зайшла ў студыі, дзе ўжо даўно не ўжываюць стужкі, усё электроннае. Беларуская рэдакцыя ўжо нават мае сваю праграму на тэлеканале «Белсат». У часе запісу праграмы, куды мяне запрасілі госьцяй, дырэктар беларускай службы Аляксандар Лукашук запытаўся ў мяне: што я магу лічыць вынікам маёй працы на Радыё Свабода за 41 год?

Я задумалася. Безумоўна, Радыё Свабода ў вялікай ступені спрычынілася да таго, што распаўся Савецкі Саюз. Нашай зброяй не была прапаганда. Тая інфармацыя, якую мы перадавалі, была сама па сабе дастатковай, каб многія народы Савецкага Саюзу адчулі патрэбу перамен. У выніку гэтага распаду й Беларусь аднавіла сваю незалежнасьць. Зразумела, што гэты новы пачатак, як і кожны пачатак, нялёгкі. Шмат чаго яшчэ трэба зрабіць, каб Беларусь поўнасьцю ўключылася ў сям'ю дэмакратычных краінаў. Я перакананая, што Радыё Свабода дапаможа зрабіць Беларусь такой, якой яе хочуць бачыць грамадзяне самой краіны й тыя беларусы, што жывуць па ўсім сьвеце.

# Паказьнік асобаў

**А**



**Б**



**В**

## М



## Н



## О



## П



## Р

**С**



**Т**



**У**



**Ф**



**Ц**

### Ч



### Ш



### Ю

## Summary

Halina Rudnik (née Hancharenka) was orphaned at the age of seven. In 1937, at the height of Stalin's terror, her army-officer father was executed by firing squad and her beloved mother was arrested and deported to the Gulag.

Spared from an orphanage by a "guardian angel" aunt, Halina spent her early childhood in Nazi-occupied, hunger-plagued Minsk. Only a few years later, an unlikely fate swept her into war-ravaged Berlin, where she endured the Allied carpet bombing that ultimately brought Hitler to his knees. An adolescence in German displaced persons (DP) camps culminated in a long-anticipated emigration to the shores of America. But Europe beckoned again — and it was there, in Munich, Germany, that Halina would forge a long career at the newly-founded, US-funded Radio Liberty. For more than four decades, she would help send RL's message of freedom to her compatriots behind the Iron Curtain — in Belarus, Ukraine, and Russia. She retired in June 1995 with a sense of true accomplishment: the USSR was no more and her native Belarus was a sovereign state.

Halina Rudnik tells her story with unflinching candor. "Migratory Birds" is a riveting, often harrowing, sometimes surprisingly funny read — and a journey worth sharing for all admirers of the memoir genre.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе» —**
кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода.
Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.**
*Пераклады Веры Рыч.*
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** 2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03–25.03.2006.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.



**Начная чытанка.**
**50 аўтараў з этэру**
**Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны
дыск.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2007. —
576 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога. Стоўпцы –**
**Капэнгаген –**
**Парыж – Мадрыд –**
**Атава – Менск.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2008. —
144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.*
**Мой шыбалет.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2008. —
426 с.: іл.




**Начная чытанка 2.**
**50 аўтараў з этэру**
**Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны
дыск.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2009.




**Адзін дзень**
**палітвязьня.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2009. —
364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.




**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў. Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.** Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў перадачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.